## Хроніка парушэньняў правоў чалавека ў Віцебскім рэгіёне

# ШЭРАЯ КНІГА

### Віцебская вясна - 2017. Вулічныя акцыі



Віцебск, 2017

*З дакладу Спэцыяльнага дакладчыка па пытаньні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рада па правох чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, трыццаць пятая сэсія, 6-23 чэрвеня 2017 г.:*

52. Самае рэзкае пагаршэньне рэакцыі ўладаў на ажыцьцяўленьне права на мірныя сходы адбылося падчас падзеяў, якія мелі месца ў лютым і сакавіку 2017 году.

53. Спэцыяльны дакладчык пільна сачыў за масавымі дэманстрацыямі, якія распачаліся ў лютым 2017 году і былі арганізаваныя на знак пратэсту супраць ажыцьцяўленьня прэзыдэнцкага дэкрэту № 3 «Аб папярэджаньні сацыяльнага ўтрыманства», прынятага ў 2015 годзе. У ім прадугледжваецца ўвядзеньне новага збору для асоб, якія ня маюць занятасьці цягам больш за 183 каляндарных дзён на год, у дачыненьні да якіх выкарыстоўваецца прыніжальны тэрмін «дармаеды». Паводле дадзеных падатковай праверкі, праведзенай у лютым 2017 году, сама меней 470 000 чалавек павінны аплаціць збор у памеры 250 даляраз ЗША, што складае прыкладна дзьве трацiны ад сярэднямесячнай заработнай платы. Укараненьне гэтай адвольнай і жорсткай меры ва ўмовах пагаршэньня эканамічнай сытуацыі справакавала найбуйнейшыя за пэрыяд з 2010 году вулічныя пратэсты ў шмат якіх гарадох Беларусі.

54. Толькі ў сакавіку больш за 900 чалавек падвергліся розным формам рэпрэсіяў ў сувязі з гэтымі дэманстрацыямі. Сотні зь іх былі часова пазбаўленыя свабоды перасоўваньня. 27 сакавіка 177 чалавек былі пасьпешліва прысуджаныя да штрафаў або адміністрацыйнага арышту на тэрмін да двух тыдняў - максымальны тэрмін, прадугледжаны законам.

55. Былі прад’яўленыя надуманыя абвінавачваньні ў дробных правапарушэньнях, якія насуперак усім сьведчаньням прадстаўлялі ў скажоным выглядзе дзеяньні мірных дэманстрантаў. Большасьць затрыманых у сувязі з пратэстамі 25 сакавіка былі затым адпушчаныя без абвінавачваньня, а астатнім былі прад’яўленыя абвінавачваньні ў зьдзяйсьненьні такіх правапарушэньняў, як хуліганства, супраціўленьне падчас затрыманьня або ўдзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту. Многім затрыманым ня быў своечасова дадзены доступ да адваката, і яны не маглі зьвязацца праз тэлефон са сьведкамі абароны.

56. Многіх затрыманых зьбівалі кулакамі, штурхалі нагамі, зьбівалі дручкамі, і яны падвяргаліся фізычнаму гвалту. 25 сакавіка міліцыя сьцягнула вадамёты, аўтамабілі для перавозкі зьняволеных, браняваныя транспартныя сродкі і іншую тэхніку дзеля разгону дэманстрацыяў. На праспэкце Незалежнасьці ў Менску міліцыя запатрабавала ад дэманстрантаў разысьціся, але паколькі ўвесь раён быў перакрыты, пакінуць яго можна было толькі апынуўшыся ў паліцэйскіх фургонах.

57. Падчас гэтых падзеяў былі зноў выкарыстаныя «прэвэнтыўныя захады». Пацьвярджэньнем таго, што хваля рэпрэсіяў насіла сплянаваны характар, служыць той факт, што гэтыя захады, якія рабіліся напярэдадні прымеркаваных да Дня Волі акцыяў, былі накіраваныя супраць палітычных лідэраў, праваабаронцаў і журналістаў, а затрыманьні праводзіліся ў некалькіх гарадох. Да пачатку акцыі 25 сакавіка супрацоўнікі АМАПу правялі рэйд у офісе адной зь вядучых праваабарончых суполак Беларусі – праваабарончага цэнтру «Вясна» і затрымалі 58 чалавек.

## Праявы грамадзянскай актыўнасьці і акцыі пратэсту

**26.01.2017, Віцебск.** Віцебскія актывісты сабралі некалькі сотняў подпісаў за скасаваньне дэкрэту аб «дармаедах». Усе, хто хоча падключыцца да акцыі і паставіць подпіс, могуць прыйсьці ў будні ў офіс прафсаюзу РЭП. Абвешчана, што акцыя зьяўляецца агульнарэспубліканскай і працягнецца да 17 лютага, а пасьля сабраныя подпісы будуць перададзеныя ў адміністрацыю прэзыдэнта, Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і Савет Міністраў.

Паводле словаў арганізатараў акцыі, віцебчукі ахвотна прыходзяць ставіць подпісы. Шмат каго згаданы дэкрэт абурыў да глыбіні душы.

*«У горадзе пастаянна ідуць скарачэньні з прадпрыемстваў, многія наогул закрываюцца, як фабрыка КІМ, а ўлада замест таго, каб даць працоўнае месца, патрабуе яшчэ з нас грошы»*, – наракае беспрацоўны, які прыйшоў паставіць подпіс.

Прычым падпісваюцца ня толькі беспрацоўныя, але і працаўладкаваныя людзі, пэнсіянэры і суцэль пасьпяховыя грамадзяне. На пытаньне, навошта ім гэта, звычайна гучыць такі адказ: Нас гэты закон не закранае, але ў нашай так званай стабільнай дзяржаве можна ў любы момант застацца бяз працы або страціць бізнэс і патрапіць у разрад дармаедаў.

Ад многіх можна пачуць слова «безгранічча». А пэнсіянэрка, якая прыйшла паставіць подпіс, паскардзілася: яе дачцэ, якая даўно жыве за мяжой, таксама прыйшоў з падатковай «ліст шчасьця» з патрабаваньнем аплаціць падатак. Яна патэлефанавала ў падатковую і паведаміла, што дачка даўно жыве і працуе за мяжой, на што ў інспэкцыі ёй адказалі: «Вось няхай яна вам грошы перавядзе, а вы і заплаціце». Прыходзіў нават бомж, якога дакладна не закране гэты дэкрэт, бо ён ня мае адрасу, куды падатковая магла б даслаць ліст.

**27.01.2017, Віцебск.** Дэкрэт наконт «дармаедаў» заахвоціў **праваабаронцу Леаніда Сьвеціка** правесьці пікет. Празь пікет, заяўка на правядзеньне якога пададзеная ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну Віцебску, ён мяркуе растлумачыць жыхарам гораду палажэньні дэкрэту прэзыдэнта №3 «Аб папярэджаньні сацыяльнага ўтрыманства».

Як распавёў спадар Леанід, цягам апошніх месяцаў колькасьць зваротаў грамадзян, якія просяць мясцовых праваабаронцаў дапамагчы абараніць іхныя правы, рэзка павялічылася. Ды ільвіную дзель такіх зваротаў цяпер складаюць звароты т.зв. «дармаедаў», якім пасьля набыцьця моцы згаданым дэкрэтам прыйшлі «лісты шчасьця» з падатковай.

Пікет заплянаваны на 15 лютага ў парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. І хоць імпрэза мусіць адбыцца на пляцоўцы, адмыслова адведзенай гарадзкімі ўладамі пад масавыя мерапрыемствы, вялікая імавернасьць таго, што яна будзе забароненая. Прынамсі, менавіта забарона акцыі – звычайная рэакцыя чыноўнікаў раённых адміністрацыяў на заяўкі наконт пікетаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і г.д., якія рэгулярна падаюцца віцебскімі грамадзянскімі і партыйнымі актывістамі ды праваабаронцамі.

Ад 2009 году традыцыйная прычына такой забароны – заяўнікі, маўляў, не выкон-


Мікалай Селівашка

ваюць патрабаваньняў рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску» пра неабходнасьць папярэдняга заключэньня дамоваў на абслугоўваньне акцыяў з шэрагам дзяржаўных службаў. Выканаць гэтае патрабаваньне на практыцы немагчыма – пералічаныя ў гарвыканкамаўскім рашэньні службы патрэбныя дамовы заключаць, як правіла, адмаўляюцца.

*«Кіруючыся Законам Рэспублікі Беларусь "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", лёгікай і здаровым сэнсам, дамовы... будуць мною заключаныя толькі ў выпадку дазволу правядзеньня пікетаваньня. Адмова на падставе непрадстаўленьня дамоваў будзе ўспрынятая мною як сьвядомая перашкода ў рэалізацыі маіх правоў і законных інтарэсаў»*, – адзначыў Леанід Сьвецік у сваёй заяўцы на пікет, прадбачачы, які адказ на яе ён найхутчэй атрымае.

**14.02.2017, Віцебск.** Адбылася сустрэча рэгіянальных кіраўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, партыі «Справядлівы сьвет», прафсаюзу Работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці (РЭП) і Свабоднага прафсаюзу мэталіста, на якой абмяркоўвалася магчымасьць адкрыцьця грамадзкай прыёмнай для грамадзян, якія залічаныя ў разрад дармаедаў.

У сувязі з тым, што дэкрэт №3 выклікаў значны грамадзкі розгалас, а праблема выплаты антыканстытуцыйнага падатку закранула велізарную колькасьць грамадзян, было прынятае рашэньне абмеркаваць магчымасьць рэагаваньня мясцовых апазыцыйных сілаў на грамадзкія працэсы, выкліканыя прыняцьцем дэкрэту. Падчас абмеркаваньня была выказаная думка, што сытуацыя патрабуе ўдзелу ўсяго спэктру палітычных партыяў і незалежных прафсаюзаў, без уліку палітычных поглядаў і міжпартыйных рознагалосьсяў.

Так, у прыватнасьці, **Мікалай Селівашка, старшыня абласной арганізацыі партыі «Справядлівы сьвет»**, падкрэсьліў, што цяпер якраз той выпадак, калі ўлада сваімі недарэчнымі дзеяньнямі спрыяе аб'яднаньню ўсіх апазыцыйных сілаў. І гэта тая праблема, удзел у вырашэньні якой спрыяе іх салідарызацыі. У сувязі зь відавочнай неабходнасьцю скасаваньня дэкрэту №3 узрастае значнасьць удзелу апазыцыі ў працэсе ціску на ўладу, што паспрыяе набыцьцю аўтарытэту ў вачох грамадзтва.

**Кіраўнік Віцебскай рэгіянальнай структуры прафсаюзу РЭП Георгі Разумаў** паведаміў, што ў горадзе ўжо сабрана некалькі сотняў подпісаў, і падзяліўся інфармацыяй, атрыманай за гэты час. Подпісы ў хуткім часе трапяць у адміністрацыю Лукашэнкі, Палату прадстаўнікоў і Савет Міністраў, што можа паспрыяць ска-



Георгі Разумаў

саваньню дэкрэту. Зыходзячы з досьведу сустрэч з грамадзянамі, як варыянт для законнай адтэрміноўкі выплаты ён прапанаваў аспрэчваць выплату падатку, зьвяртаючыся з заявай спачатку ў раённую інспэкцыю па падатках і зборах, пасьля ў абласную інспэкцыю і далей у МПЗ. Звароты дапамогуць законным шляхам максымальна адтэрмінаваць выплату.

**Уладзімер Алексенка, прадстаўнік АГП**, выказаў меркаваньне, што грамадзкая прыёмная мае патрэбу ў паслугах прафэсійнага юрыста, дапамога якога будзе больш прафэсійнай. Аднак ні ў якім разе нельга адмаўляцца таксама ад дапамогі партыйных і прафсаюзных актывістаў.

Па выніках абмеркаваньня было прынятае супольнае рашэньне аб’яднаць намаганьні ўсіх удзельнікаў сустрэчы дзеля аказаньня прававой і кансультацыйнай дапамогі грамадзянам, якія атрымалі так званыя «лісты шчасьця» і хочуць адстойваць свае правы ўсімі магчымымі законнымі спосабамі. З гэтай мэтай на базе офісу трох палітычных партыяў (АГП, БНФ і «Справядлівага сьвету») мяркуецца адкрыць грамадзкую прыёмную, а ў якасьці кансультанта прыцягнуць прафэсійнага юрыста.

**18.02.2017, Віцебск. Актывістка Ірына Яскевіч** сабрала амаль паўтары тысячы подпісаў месьцічаў за скасаваньне дэкрэту аб сацыяльным утрыманстве.

Кажа спадарыня Яскевіч: *«Людзі, якія чытаюць нашы абвесткі і прыходзяць падпісацца – абсалютна розныя. Хтосьці падтрымлівае АГП, хтосьці ведае мяне як стваральніцу прафсаюзу прадпрымальнікаў "Разам", а нехта просіць падпісны аркуш без аніякіх лягатыпаў, бо лічыць сябе апалітычная асобай... Але магу сказаць: гэты дэкрэт узрушыў шмат каго ў нашым горадзе. Нават тых, хто раней быў гарачым прыхільнікам дзейнай улады».*

Людзі ня толькі прыходзяць паставіць свой подпіс. Яны хочуць паразмаўляць, падзяліцца сваёй гісторыяй, паскардзіцца.

Працягвае спадарыня Ірына: *«Людзі распавядаюць, чаму гэты дэкрэт тычыцца непасрэдна іх. Неяк прыйшлі двое пэнсіянэраў. Здавалася б, яны тут зусім не пры чым. Але распавялі, што ў іх дарослы сын, зь якім не працягнулі кантракт. Пэнсіі невялікія, жыць утрох цяжка, і сын вельмі балюча ўспрымае сытуацыю. Цяжка псыхалягічна, бо ён лічыць ганебнай сытуацыю, у якой апынуўся. Як гэта – малады здаровы мужчына, і бяз працы? Для нармальнага чалавека цяжка ўсьведамляць, што ён ня можа зарабляць, і гэта вядзе да глыбокіх псыхалягічных праблемаў. Ужо былі падобныя гісторыі, якія скончыліся суіцыдам... Таму, калі слухаеш людзей, часам хочацца плакаць!»*




У Віцебску збор подпісаў нязгодных з дэкрэтам пра сацыяльнае ўтрыманства праводзіцца ўжо некалькі тыдняў сіламі актывістаў розных палітычных структур.

Зьбіральніца подпісаў Ірына Яскевіч падрыхтавала ліст да дэпутата парлямэнту Аляксандра Цацохі, яе суперніка па Віцебскай-Кастрычніцкай акрузе № 20 падчас мінулай выбарчай кампаніі. У лісьце, а потым і падчас асабістага прыёму, актывістка хоча паставіць дзейнага дэпутата перад фактам, што жыхары Віцебску надзвычай незадаволеныя прынятым дэкрэтам.

**19.02.2017, Віцебск.** У Віцебску, як і ў іншых буйных гарадох краіны, адбыўся стыхійны сход месьцічаў, ня згодных з патрабаваньнямі т.зв. «Дэкрэту аб дармаедах». Разам на плошчы Перамогі сабралася больш як 200 чалавек, не задаволеных сытуацыяй у краіне.

На плошчу выйшлі збольшага звычайныя жыхары гораду, не ангажаваныя ў палітыку. Не было бачна якіх-кольвек арганізатараў, ніхто нікога адмыслова не зьбіраў, а людзі даведаліся пра месца збору праз сайты і сацыяльныя сеткі ці ад сваіх знаёмцаў, якія раней тую інфармацыю самі пабачылі ў інтэрнэце.

Людзі, якія сабраліся, абураліся ня толькі дэкрэтам аб «дармаедах», а наогул палітыкай дзяржавы што да сацыяльнай і эканамічнай сфэры. Гучалі і палітычныя патрабаваньні: адстаўка ўраду і асабіста прэзыдэнта.

А 12-й гадзіне дня – час, у які сеціва заклікала людзей выйсьці на «галоўныя плошчы сваіх гарадоў» – на плошчы Перамогі ў Віцебску было мо’ з тузін людзей. Але неўзабаве народ пачаў падыходзіць, і ўжо праз паўгадзіны тут было блізу двухсот чалавек. Усе трымаліся хто паасобку, хто асобнымі невялічкімі купкамі, размаўляючы між собку – нібыта чакалі чагосьці, нейкай «адмашкі». Такой «адмашкай» стаў момант, як нейкая пэнсіянэрка ў адной з такіх купак нешта пачала эмацыйна і гучна казаць. Людзі сталі падцягвацца бліжэй, і ў хуткім часам асобныя купкі месьцічаў ператварыліся ў адзінае людзкое мора.

Нягледзячы на стыхійны характар акцыі, адсутнасьць арганізатараў, якога-небудзь пляну правядзеньня імпрэзы, усё адбывалася «прыстойна і ў парадку» – кожны выступовец па чарзе выказваўся пра набалелае, а сказаўшы сваё, не перабіваў і слухаў іншых.

Міліцыя таксама была побач, хоць і старалася ніяк не абазначаць сваю прысутнасьць. Усе супрацоўнікі праваахоўных органаў, сярод якіх былі і высокапастаўленыя постаці, апрануліся ў цывільнае, трымаліся крыху воддаль і ніяк не заміналі ўдзельнікам акцыі.


Віцебск. Акцыя 26.02.2017

**23.02.2017, Віцебск.** Напярэдадні чарговага сходу грамадзян, якія выступаюць супраць дэкрэту № 3, Віцебская кааліцыя Беларускага нацыянальнага кангрэсу распаўсюдзіла адозву да жыхароў гораду, у якой падтрымала акцыю пратэсту. Мяркуецца, сход адбудзецца на плошчы Перамогі 26 лютага. У першым такім сходзе тыднем раней ніхто зь мясцовых лідэраў апазыцыйных партыяў і рухаў ня ўдзельнічаў.

У адозьве гаворыцца: *«Многія жыхары нашага гораду выказалі сваё жаданьне выйсьці на акцыю і ўзяць непасрэдны ўдзел. Віцебская кааліцыя Беларускага нацыянальнага кангрэсу заяўляе сваю падтрымку гэтага мерапрыемства і заклікае ўсіх гараджан, нязгодных з прынятым дэкрэтам і палітыкай дзейнага прэзыдэнта, выйсьці на плошчу і выказаць сваё стаўленьне да сытуацыі, якая склалася ў краіне. Разам мы – сіла!»*

**Старшыня кааліцыі Ўладзімер Кійко** абураны, што ў тым самым месцы і ў той самы час, дзе заплянаваная акцыя, улады зьнячэўку вырашылі правесьці сьвяткаваньне Масьленіцы. Паводле яго словаў, яшчэ нядаўна ніякай Масьленіцы на плошчы Перамогі ладзіць ніхто не зьбіраўся. На ягоную думку, гэта сведчыць пра тое, што мясцовая ўладная вэртыкаль спалохалася мірных пратэстаў грамадзян і спрабуе такім спосабам сарваць правядзеньне акцыі.

*«Нягледзячы на гэта, мы мяркуем, што выйдзе шмат гараджан, бо незадаволенасьці людзей дзеяньнямі ўладаў няма мяжы, і многія разумеюць, што маўчаць нельга,* – сказаў Уладзімер Кійко. – *Беларускі нацыянальны кангрэс цалкам падзяляе і падтрымлівае імкненьне людзей змагацца за свае правы, выходзячы зь мірнымі акцыямі пратэсту. Гэта ёсьць іх канстытуцыйнае права і самы эфэктыўны спосаб змаганьня ў нашай краіне».*

**26.02.2017, Віцебск.** Абурэньне дэкрэтам №3 вывела на акцыю пратэсту вялікую колькасьць грамадзянаў. Такіх праяваў пратэставых настрояў у месьцічаў не было, бадай, з часоў перабудовы.

Народ пачаў зьбірацца на плошчы Перамогі а дванаццатай. Праз паўгадзіны колькасьць незадаволеных «дармаедзкім» дэкрэтам дасягнула дзьвюх тысяч. Такога ў Віцебску яшчэ не было. Вельмі паказальны той факт, што на процілеглым баку плошчы, дзе народ сьвяткаваў Масьленіцу, колькасьць удзельнікаў была на парадак меншая.

Ніякіх мэгафонаў не было, але гэта не перашкодзіла выказацца кожнаму, хто меў ахвоту.

Адна з выступоўцаў прыгадала 41-ы артыкул Канстытуцыі, які гарантуе грама-

дзянам права на працу, як самы прыстойны спосаб самасцьвярджэньня чалавека. А роля дзяржавы пры гэтым мусіць палягаць у стварэньні умоваў для поўнай занятасьці насельніцтва: *«Ці выконваецца гэта?»* – запытала жанчына. – *«Не!»* – гучна выгукнуў натоўп. – *«Такім чынам Канстытуцыя ператвараецца ў пустую паперу – і гэта зрабіла сёньняшняя ўлада».*

Прага пераменаў, бадай, – найгалоўнейшае з тых пратэставых лёзунгаў, што гучалі. А такіх лёзунгаў было ня мала: *«Баста!», «Нет декрету номер три! Лукашенко, уходи!», «Падатак ня плацім!», «Лукашэнка, сыходзь!».*

Пасьля таго, як большасьць з тых, у каго так набалела, што не маглі маўчаць, выказаліся, у паветры павісла паўза. Таму заклік дайсьці да плошчы Свабоды прыйшоўся дарэчы.

Людзі пад бел-чырвона-белым сьцягам згуртавана і зь вялікім імпэтам рушылі калёнай па вуліцы Леніна. Кіроўцы легкавікоў і аўтобусаў віталі дэманстрантаў гучнымі сыгналамі кляксонаў.

Пратэстоўцы прамінулі плошчу Свабоды і дайшлі ажно да плошчы Леніна. Тут, на прыступках Віцебскай абласной філармоніі, адбыўся другі мітынг пад тымі самымі лёзунгамі, што раней гучалі на плошчы Перамогі.

**01.03.2017, Віцебск. Праваабаронца Леанід Сьвецік** падаў заяўку на правядзеньне мітынгу ў Віцебску. Мітынг заплянаваны на 15 сакавіка. Мэта мерапрыемства: публічна адсьвяткаваць Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які ўведзены ўказам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 157 ад 26.03.1998 г. як дзяржаўнае сьвята. Заяўка пададзеная ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну.

Паводле заяўкі праваабаронцы, меркаваная колькасьць удзельнікаў мітынгу – 100 чалавек.

**03.03.2017, Віцебск.** Віцебскія актывісты грамадзкага аб’яднаньня «Рух “За свабоду”» абмеркавалі лютаўскія акцыі пратэсту супраць дэкрэту №3, якія адбыліся ў краіне і горадзе, і вызначылі сваё стаўленьне да агульнай палітычнай сытуацыі і фармату ўдзелу ў сьвяткаваньні Дня Волі.

Было вырашана выпрацаваць фармат удзелу сябраў руху ў наступных імпрэзах. Прысутныя пагадзіліся, што калі падзеі разгортваюцца гэтак шпарка, трэба тэрмінова рэагаваць на іх. Лідэр віцебскіх рухаўцаў **Хрыстафор Жаляпаў** прапанаваў зьвярнуцца да кіраўнікоў мясцовых структур апазыцыйных партыяў стварыць каардынацыйную раду, у якую запрасіць і актывістаў пратэставых акцыяў.

**08.03.2017, Віцебск.** У час сьвята 8 Сакавіка жыхарка Віцебску **Натальля Трошчанка** падала скаргу ў суд Кастрычніцкага раёну гораду Віцебску. У скарзе гаворыцца пра парушэньне правоў і законных інтарэсаў Натальлі. Бо яна, як і многія, атрымала «ліст шчасьця» з патрабаваньнем аплаціць 360 рублёў збору на фінансаваньне дзяржаўных выдаткаў. У дакумэнце дзяўчына выказвае сваю нязгоду з уключэньнем яе ў базу дадзеных у якасьці асобы, якая ня ўдзельнічае ў фінансаваньні дзяржаўных выдаткаў. А патрабаваньні, прад’яўленыя па выплаце збору, яна называе незаконнымі, неабгрунтаванымі і парушаючымі правы.

У сваёй скарзе Натальля адзначыла:


Пятро Сарапеня

*«Незалежна ад таго, працую ці не, зьвяртаюся ў дзяржаўныя органы, натарыяльныя канторы, суды і да т.п. За паслугі гэтых устаноў аплачваю пошліну, зборы, іншыя плацяжы ў вызначаных заканадаўствам памерах. Такім чынам, мой удзел у гэтых дамоўных і іншых стасунках у поўнай меры адпавядае патрабаваньням арт. 56 Канстытуцыі пра абавязак браць удзел у фінансаваньні дзяржаўных выдаткаў «праз аплату дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў...*

*Ацэньваючы ўмяшаньне дзяржавы, у асобе ІМПЗ Рэспублікі Беларусь па Першамайскім раёне г. Віцебску, у маё права не падвяргаццa прымусовай (абавязковай) працы... прыходжу да высновы, што ўжываньне патрабаваньняў па выплаце збору супярэчыць арт. 8 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, арт. 2 Канвэнцыі МАП №29 аб прымусовай або абавязковай працы, артыкулах 23, 41, 56, 58 і 63 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».*

**10.03.2017, Віцебск.** Заяўку на акцыю, якая мусіць адбыцца 25 сакавіка, падалі ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну Віцебску трое **сябраў Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ**. **Ян** і **Аляксандар Дзяржаўцавы** ды **Пятро Сарапеня** пазначылі ў сваёй заяўцы меркаваную колькасьць удзельнікаў імпрэзы 50 чалавек. Мэта акцыі – адзначыць 99-ю гадавіну ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

Месцам правядзеньня заяўлены Парк культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. Гэтае месца ўваходзіць у пералік пляцовак, адмыслова адведзеных гарадзкімі ўладамі пад акцыі грамадзян.

У сваёй заяўцы актывісты адзначылі: *«Пры разглядзе нашай заяўкі і прыняцьці наконт яе рашэньня, просім кіравацца адпаведнымі артыкуламі Закону Рэспублікі Беларусь ад 30 сьнежня 1997 г. № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». Бо, на нашу думку, рашэньне Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту ад 10 ліпеня 2009 году № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску» не адпавядае Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, пазбаўляе магчымасьці рэалізаваць грамадзянам краіны права на свабоду публічнага выказваньня сваіх думак і права на свабоду мірных сходаў».*

**10.03.2017, Віцебск. Каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Леанід Гаравы** і **старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Кастусь Смолікаў** падалі заяўку на правядзеньне 25 сакавіка шэсьця і мітынгу, прымеркаваных да Дня Волі.

Заяўнікі просяць гарадзкія ўлады дазволіць збор удзельнікаў акцыі на адной з


Ворша. Акцыя 12.03.2017

цэнтральных плошчаў гораду і шэсьце цэнтральнай вуліцай Віцебску. Галоўнымі лёзунгамі акцыі будуць *«За сувэрэнную і незалежную Беларусь!»*, *«За скасаваньне дэкрэту № 3»*, *«За спыненьне зьменаў пэнсійнай сыстэмы да паляпшэньня эканамічнага становішча»*, *«Уся ўлада – народу на свабодных, тайных і адкрытых выбарах»*.

«Мы падалі заяўку на Дзень Волі на шэсьце і мітынг у Віцебску. Збор плянуецца пасьля поўдня на адной з цэнтральнай плошчаў гораду, а потым – рух па вуліцы да другой плошчы, дзе будзе мітынг», – сказаў адзін з заяўнікаў Леанід Гаравы.

**12.03.2017, Ворша.** Адбылася найвялікшая ў гісторыі гораду за апошнія дзесяцігодзьдзі акцыя пратэсту. У «Маршы недармаедаў» ў Воршы ўзялі ўдзел звыш тысячы чалавек. Больш за 20 чалавек – арыштаваныя.

Людзі абураліся, чаму яны павінны плаціць падаткі, калі ўлада ня можа працаўладкаваць іх. Многія аршанцы злыя ад таго, што ў горадзе заводы і фабрыкі стаяць, альбо працуюць не на поўную магутнасьць, праз гэта яны вымушаныя працаваць у Расеі. На акцыі прысутнічалі людзі, чые сваякі былі альбо ашуканыя ў Расеі, альбо зьніклі там або нават былі забітыя. Прысутныя скандавалі *«Жыве Беларусь!»*, *«Нет декрету № 3. Лукашенко, уходи»*, *«Далоў халуёў!»* і патрабавалі ад Лукашэнкі сысьці ў адстаўку.

Людзі згуртаваліся на Цэнтральнай плошчы гораду, і ў гэты самы момант музыка, расейская «папса», стала гучаць з гукаўзмацняльнікаў напоўніцу. Праз пэўны час людзі скіраваліся да будынку Аршанскага райвыканкаму, дзе рашуча заявілі пра свой пратэст уладам краіны, якія замест вырашэньня сацыяльных праблемаў затрымліваюць актывістаў, даюць ім суткі арышту і шматлікія штрафы.

На ганку выканкаму іх сустрэў намесьнік мэра Воршы. Аднак доўга выступаць перад людзьмі Алег Сьмірноўскі не зьбіраўся, нічога ўцямнага людзям не сказаў, акрамя запрашэньня да дыялёгу з часткай грамады ў будынку выканкаму. Але людзі адмовіліся дзяліцца, тым больш ужо было вядома пра затрыманьні іператрусы. Выступ Сьмірноўскага скончыўся тым, што аршанцы бязьлітасна асьвісталі яго.

**Праваабаронца Васіль Берасьнёў** прынёс макет «паведамленьня пра аплату падатку на дармаедзтва» і парваў яго пад авацыю Плошчы. Ён даў кантакты юрыстаў незалежнага прафсаюзу РЭП і Хэльсынскага камітэту для тых, каму патрэбая юрыдычная дапамога.

Перад равыканкамам выступіў і **сустаршыня «Беларускай хрысьціянскай дэма-**


Віцебск. Акцыя 25.03.2017

**кратыі» Павал Севярынец**. Ён заклікаў Лукашэнку сыходзіць у адстаўку, пакуль народ не раззлаваўся канчаткова.

**25.03.2017, Віцебск.** Нягледзячы на тое, што мясцовыя ўлады забаранілі мітынгі ды шэсьце 25 сакавіка, апоўдні больш за сотню грамадзянаў выйшлі на плошчу Перамогі. Сярод тых, хто наважыўся выйсьці на акцыю ў Дзень Волі, больш за палову склалі не грамадзкія актывісты ці прадстаўнікі палітычных партыяў, а звычайныя беларусы.

**Сябра руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** нагадаў прысутным пра чарговую гадавіну ўтварэньня БНР, сьвяткаваць якую мае права кожны беларус, а тыя, хто адмаўляе ім у гэтым праве, парушаюць Канстытуцыю.

Як толькі прысутныя на плошчы сталі паводзіцца больш-менш актыўна, да іх выйшаў намесьнік начальніка Ўпраўленьня аховы правапарадку і прафіляктыкі УУС Віцебскага аблвыканкаму Аляксандар Каліноўскі і, нагадаўшы пра тое, што акцыя недазволеная, запатрабаваў пакінуць плошчу. Намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Пётар Падгурскі таксама прапанаваў разысьціся. Ён заявіў, што пазаўчора размаўляў з заяўнікамі адмоўленых акцыяў, і тыя яго пачулі, бо сёньня нікога зь іх ён на плошчы ня бачыць.

Пакуль частка прысутных дыскутавала з прадстаўнікамі ўлады, другая частка выказвалася пра набалелае. Так, былая супрацоўніца збанкрутаванага КІМу, якая цяпер ня мае працы, адзначыла, што жыць становіцца ўсё цяжэй. Значная дзель грошай ідзе на аплату паслугаў ЖКГ.

Каб пазьбегнуць канфлікту з праваахоўнікамі, якіх вакол было багата, Хрыстафор Жаляпаў прапанаваў сысьці з плошчы і ўшанаваць памяць князя Альгерда, Васіля Быкава і Ўладзімера Караткевіча.

Калёна рушыла па вуліцах гораду пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Увесь час людзей суправаджалі супрацоўнікі АМАП і апэратыўнікі, але правядзеньню імпрэзы не заміналі. Па ўсім маршруце руху на скрыжаваньнях вуліц і пешаходных пераходах дзяжурылі даішнікі.

Сьвяткаваньне Дня Волі завяршылася ля помніку Караткевічу, дзе пасьля ўскладаньня кветак адбыўся кароткі імправізаваны мітынг.

**26.03.2017, Ворша.** На плошчу каля Дому гандлю выйшлі пара дзясяткаў чалавек. Узбоч плошчы быў прыпаркаваны аўтазак, а міліцыя папярэдзіла прысутных, што «тут зьбірацца нельга». *«Людзі выйшлі на знак нязгоды з тым, што цяпер*


Юры Конышка

*адбываецца ў Беларусі»*, — расказаў **сябра КХП БНФ Юры Конышка.**

Людзі стаялі на плошчы каля гадзіны, потым разышліся.

**26.03.2017, Полацак.** Каля 50-ці чалавек сабраліся на плошчы Свабоды, ачэпленай па пэрымэтры міліцыянтамі. Людзі скандавалі: «Шуняўку — у адстаўку!» Паводле назіральнікаў, затрыманых не было.

**26.03.2017, Віцебск.** На плошчы Перамогі сабралася каля 120-ці чалавек. Міліцыя таксама дзяжурыла на плошчы, загадзя падрыхтаваўшы аўтазакі. Імпрэза завяршылася масавымі затрыманьнямі.

**27.03.2017, Віцебск.** Віцебчукоў абурыў закрыты суд над незалежным журналістам. Інцыдэнт здарыўся ў Кастрычніцкім райсудзе, дзе судзьдзя Іна Грабоўская мусіла разьбіраць справу затрыманага напярэдадні **журналіста Кастуся Мардзьвінцава**. Перад пачаткам працэсу яна заявіла, што хоча праводзіць паседжаньне ў сваім габінэце, а таму нікога на разгляд ня пусьціць.

У калідоры засталіся больш за 10 чалавек, ахвотных трапіць на разгляд, і яны пачалі адстойваць сваё законнае права трапіць на працэс.

Аднак міліцыянты канвою, які суправаджаў спадара Мардзьвінцава, літаральна выштурхнулі **журналістку Алену Шабуню** з габінэту судзьдзі. Той, хто гэта зрабіў, адмовіўся назваць сваё прозьвішча і пасаду.

На працэс над журналістам змаглі трапіць усяго два чалавекі – тыя, каго спадар Мардзьвінцаў пасьпеў заўважыць у калідоры, і потым хадайнічаў пра іх пэрсанальную прысутнасьць.

Тым часам віцебская актывістка, **праваабаронца Ірына Трацьцякова** паскардзілася старшыню суду Алене Папковай на незаконныя дзеяньні і некалькі разоў патрабавала, каб судзьдзя Іна Грабоўская дазволіла прысутнічаць усім ахвотным.

У габінэце было чатыры вольныя крэслы, а побач з габінэтам – вольная судовая заля. Аднак судзьдзя Іна Грабоўская нізавошта не пагадзілася ні запрасіць людзей у свой габінэт, ні перайсьці ў іншае памяшканьне.

Праваабаронца Ірына Трацьцякова падала скаргу старшыню Віцебскага абласнога суду Мікалаю Хамічонку на незаконныя дзеяньні судзьдзі Грабоўскай. Яна падкрэсьліла, што спрабавала прадухіліць парушэньне заканадаўства:

*«Працэс праходзіў у габінэце судзьдзі, зачыненым знутры на замок. Заставалася адно: заявіць пра сваю прысутнасьць, і я гаварыла з судзьдзёй цераз зачыненыя дзьверы. Скончылася тым, што дзьверы адчыніліся, супрацоўнік у форме мяне*


Ірына Трацьцякова

*адштурхнуў, і яшчэ трое міліцыянтаў, якія знаходзіліся ў калідоры, літаральна за ногі-рукі адцягнулі мяне ад габінэту. Таму ў сваёй скарзе – я прашу даць прававую ацэнку дзеяньням судзьдзі Грабоўскай і старшыні Кастрычніцкага райсуду Папковай, якая праігнаравала сытуацыю. Таксама прашу патлумачыць судзьдзям, што толькі яны маюць права распараджацца ў будынку суду, а не міліцэйскі канвой, які суправаджае затрыманых. І патрабую, каб вінаватыя былі пакараныя».*

**26.04.2017, Віцебск.** У 31-ю гадавіну трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, жалобны мітынг-рэквіем прайшоў у сьценах Сьвята-Ўсьпенскага катэдральнага сабору Віцебску.

Пасьля афіцыйнага мітынгу ліквідатары наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, сябры грамадзянскай арганізацыі «Зьвяз Чарнобыль-Беларусь» ды прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасьці гораду спусьціліся да Дзьвіны і пусьцілі па рацэ жалобны вянок у памяць тых, каго заўчасна забраў Чарнобыль.

Аналягічныя акцыі ў гэты дзень прайшлі і ў іншых гарадох Віцебскай вобласьці.

## Спробы ўладаў перашкодзіць мірным акцыям


Уладзімер Кійко

**12.02.2017, Віцебск.** Чыноўнікі забаранілі праваабаронцу казаць віцебчукам пра правы «дармаедаў». Тлумачыць палажэньні дэкрэту №3 «Аб папярэджаньні сацыяльнага ўтрыманства» жыхарам Віцебску **Леанід Сьвецік** меў намер 15 лютага падчас пікету, заяўку на правядзеньне якога ён падаваў у адміністрацыю Чыгуначнага раёну гораду. Аднак, чакана, заяўку мясцовыя ўлады не задаволілі і імпрэзу забаранілі. Намесьніца кіраўніка раённай адміністрацыі Натальля Ляпёшкіна патлумачыла прычыну забароны тым, што заяўнік не далучыў да сваёй заяўкі дамоваў, прадугледжаных рашэньнем гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску». Вядзецца пра дамовы са службамі ЖКГ, аховы правапарадку і мэдыцыны, якія трэба заключаць загадзя, яшчэ да атрыманьня дазволу на правядзеньне мерапрыемства, што зрабіць, як паказала практыка, немагчыма.

Леанід Сьвецік прадбачыў, што менавіта адсутнасьць дамоваў можа стаць фармальнай прычынай незадавальненьня яго заяўкі. *«Адмова на падставе непадачы дамоваў будзе ўспрынятая мною як сьвядомая перашкода ў рэалізацыі маіх правоў...»* – напісаў ён у заяўцы на пікет. Аднак ані гэтыя словы, ані спасылкі праваабаронцы на артыкулы Канстытуцыі, Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека і Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох не паўплывалі на вэрдыкт адміністрацыі раёну.

Ужо блізка што восем гадоў згаданае рашэньне гарвыканкаму дае віцебскім мясцовым уладам быццам бы на законных падставах забараняць усе не пажаданыя для іх спробы грамадзян публічна выказаць свае грамадзянскія і палітычныя меркаваньні.

Тым часам падаткавікі, кіруючыся дэкрэтам №3, наконт палажэньняў якога хацеў выказацца віцебскі праваабаронца на пікеце, залічылі ў т.зв. «дармаеды» звыш 450 тысяч жыхароў краіны. Кожны дзясяты зь іх ужо заплаціў прадугледжаны дэкрэтам падатак.

**16.02.2017, Віцебск.** Жытло мясцовага **лідэра Беларускага нацыянальнага кангрэсу** (БНК) **Уладзімера Кійко** нечакана наведалі міліцыянты. Уварваньне супрацоўнікаў аховы правапарадку актывіст лічыць спробай застрашыць яго напярэдадні анансаванага БНК Маршу абураных беларусаў, які мусіць адбыцца ў Менску 17 лютага.

Распавядае Ўладзімер Кійко: *«Дадому да мяне прыйшлі трое: двое ў міліцэйскай форме, і адзін – у цывільным, які прадставіўся ўчастковым, хоць я яго ня знаю.*


Ігар Казьмярчак

*Сказалі, што нібыта нейкі чалавек патэлефанаваў у міліцыю і сказаў, што нехта тут шуміць і б'е шкло. Я спытаў, хто іх выклікаў, а яны адказалі, што ня ведаюць, бо тэлефанаваньне было ананімным. Потым гутарылі і склалі нешта кшталту пратаколу (я нідзе не распісваўся, і яны мне яго не паказвалі). Перапісалі ўсе мае тэлефоны. Пыталіся дзе працую, колькі плацяць».*

Спадар Уладзімер – актыўны ўдзельнік БНК і даўні паплечнік апазыцыйнага **экс-кандыдата ў прэзыдэнты Мікалая Статкевіча**, аднаго з ініцыятараў правядзеньня маршу грамадзян, абураных дэкрэтам № 3, згодна зь якім «дармаеды», якія ня маюць працы, абавязаныя плаціць адмысловы падатак. Паводле меркаваньня актывіста, прыход да яго міліцыі з надуманай прычыны акурат напярэдадні важнай палітычнай падзеі – маршу ў сталіцы – не выпадковы. Тое, што здарылася, ён назваў актам палітычнага ціску на яго.

*«Увага з боку міліцыі да мяне мае відавочны палітычны падтэкст,* – заявіў Уладзімер Кійко. – *Падзяляючы ідэі Беларускага нацыянальнага кангрэсу, лічу неабходным заявіць уладам, што спробы адабраць грошы ў беларускіх грамадзян, якія не працуюць, зьяўляюцца незаконнымі і негуманнымі. Сярод звычайных беларусаў няма такой масавай зьявы, як дармаедзтва. Лічыць іначай – значыць праяўляць непавагу да народу. Успрымаю дзеяньні праваахоўных органаў незаконнымі і правакацыйнымі. Мэта гэткіх правакацыяў відавочная: дамагчыся ад мяне адмовы ад актыўнай палітычнай дзейнасьці».*

**04.03.2017, Ворша.** Недалёка ад парку Герояў праходзіла імпрэза Bonsticks – вялікія мяккія цацкі забаўлялі аматараў ласункаў, перш за ўсё дзяцей. На сьвята прыйшло шмат бацькоў і дзяцей, усяго людзей было каля 2 тысяч. Сьвята праходзіла каля крамы «Эўраопт».

Зьнячэўку сьвята наведалі супрацоўнікі міліцыі, якія ў гэты дзень адзначалі свой прафэсійны дзень, і перадалі арганізатарам інфармацыю ад гарадзкіх уладаў пра тое, што сьвята пара спыняць, бо яно не было ўзгодненае з уладамі. У выніку людзей папрасілі разысьціся.

**06.03.2017, Ворша.** У офісе кааліцыі дэмакратычных сіл на Чырвонаармейскай, 13 сабраліся дэмакратычныя актывісты для абмеркаваньня бягучых пытаньняў. Абмяркоўваўся і «Марш недармаедаў», заплянаваны ў Воршы на 12 сакавіка. Падчас абмеркаваньня ў дом зайшлі міліцыянты, якія папрасілі «пагутарыць з адказным за памяшканьне». Размаўляў зь міліцыянтамі **рэдактар сайту orsha.eu Ігар Казьмярчак**. Празь некаторы час да дома пад'ехалі прадстаўнікі Сьледчага камітэту з пастановай аб правядзеньні ператрусу.


Яўгенія Казлова

Пастанову праператрус падпісаў пракурор раёну Белавусаў Ігар Вячаслававіч. У пастанове было напісана прыблізна наступнае: па вуліцы Камсамольскай у адным з банкаў была выяўленая 5-рублёвая фальшывая купюра, а таксама паступіла інфармацыя, што на Чырвонаармейскай, 13 маецца капіявальная тэхніка. Чамусьці сьледчыя правялі паміж гэтымі двума паведамленьнямі нейкую сувязь і вырашылі зладзіць ператрус ня тых капіявальных цэнтраў і прыватных друкарак, якія знаходзяцца бліжэй да вуліцы Камсамольскай, а рушылі менавіта на вуліцу Чырвонаармейскую.

Падчас ператрусу прысутных папрасілі пакінуць памяшканьне, але пры гэтым доўгі час не адпускалі дадому. У прыватнасьці, аршанская **паэтка Яўгенія Казлова** асобна зьвярнулася да міліцыянтаў з просьбай адпусьціць яе, спасылаючыся на стан здароўя. Міліцыянты яе не адпусьцілі, але сказалі, што выклічуць хуткую дапамогу, калі ёй раптам стане блага.

У выніку ператрусу ніякіх фальшывак знойдзена не было. Але ўся кампутарная і капіявальная тэхніка была канфіскаваная для правядзеньня экспэртызы. Забралі нават фарбу для друкаркі.

За памяшканьне, што належала мясцоваму **актывісту Алесю Шутаву**, які летась пайшоў з жыцьця, адказвае Ігар Казьмярчак, рэдактар orsha.eu, старшыня моладзевага грамадзкага аб’яднаньня «Зьвяз» і ўдзельнік Аршанскай кааліцыі дэмакратычных сіл. За два дні да гэтага Ігара затрымалі на мяжы, калі ён вяртаўся з Польшчы з тыднёвай паездкі, і правялі асабісты дагляд, прычым тады мытнікі вусна патлумачылі, што «перашук – ня іх ініцыятыва».

І той, і гэты перашукі актывіст зьвязвае з акцыяй пратэсту супраць дэкрэту № 3 пра дармаедзтва, які заплянаваны ў Воршы на 12 сакавіка. Гэты пратэст павінен стаць першай публічнай масавай акцыяй у горадзе за апошнія 16 гадоў.

Цяперашні ператрус – першы за апошнія 7 гадоў акт сур’ёзнага ціску на дэмакратычных актывістаў Воршы. Прычым і сем гадоў таму гэты ціск адбывалася ў выглядзе ператрусу ў Ігара Казьмерчака, але тады гэта была прыватная кватэра. Тады таксама быў «адпраўлены на экспэртызу» асабісты кампутар Ігара.

**07.03.2017, Аршанскі раён.** На аграсядзібу **грамадзкага актывіста Ігара Грышанава** «Пуцяціна» ў вёсцы Стаўры наведаліся невядомыя людзі. Пакуль Ігара Грышанава не было, незнаёмцы праніклі ў дом, дзе часам праходзяць розныя прэзэнтацыі і іншыя імпрэзы. Візыт скончыўся тым, што ў доме было ўсё перавернутае ўверх дном, а таксама узламаны сэйф.


Ігар Грышанаў

Пры гэтым міліцыя, якая яшчэ раніцай атрымала паведамленьне пра крадзеж, здолела прыехаць у Стаўры толькі пасьля 17:00.

Злодзеі паводзіліся падазрона. З рэчаў ня ўзята нічога, акрамя некалькіх лыжачак, затое з сэйфу скрадзеныя ўсе дакумэнты актывіста. Міліцыя і экспэрты, якія прыбылі на месца здарэньня, адзначылі, што ніякіх адбіткаў пальцаў староньніх асоб на сядзібе ня выяўлена.

За некалькі гадзін да крадзяжу на аграсядзібе вядомага ў Аршанскім раёне чалавека прайшоў ператрус у офісе Аршанскай кааліцыі дэмакратычных сіл, у выніку якога былі канфіскаваныя на экспэртызу кампутары і друкаркі. Ніхто зь мясцовых актывістаў не сумняваецца ў палітычнай матываванасьці таго ператрусу.

Пасьля сьмерці **Алеся Шутава** ў кастрычніку 2016 году Ігар Грышанаў пачаў каардынаваць працу кампаніі “Гавары праўду” ў Аршанскім рэгіёне. 12 гадоў актывіст быў старэйшынам роднай вёскі Стаўры, меў вялікую падтрымку сярод аднавяскоўцаў, але ўлады не прызнавалі яго і доўгі час Грышанаў праводзіў у судах па розных адміністрацыйных справах.

**09.03.2017, Ворша. Ігара Казьмерчака, кіраўніка моладзевага грамадзкага аб’яднаньня «Зьвяз»**, выклікаў на гутарку сьледчы. Гутарка з прадстаўніком сьледчага камітэту Станіславам Барысёнкам адбылася праз тры дні пасьля ператрусу ў офісе Аршанскай кааліцыі дэмакратычных сілаў.

Кажа актывіст: *«Пра выраб фальшывай купюры наміналам 5 рублёў, якая нібыта стала падставай для налёту на офіс, я нічога ня ведаю. Мне не зразумела, якая сувязь паміж несапраўднай купюрай, якую знайшлі ў адным з банкаў на вуліцы Камсамольскай, і нашым офісам на вуліцы Чырвонаармейскай, які месьціцца за некалькі кілямэтраў, на другім беразе Дняпра. Паводле сьледчых, ператрус, які прайшоў у нас 6 красавіка, зьвязаны з тым, што ў офісе ёсьць капіявальная тэхніка. Дык ці мала дзе яна ёсьць? Але з офісу вывезьлі працэсары, ноўтбук, друкаркі, фарбы да іх. Паводле пратаколу апытаньня, які вёў сьледчы Станіслаў Барысёнак, я зьяўляюся сьведкам. Сьведкам чаго, я так і не зразумеў».*

У Ігара Казьмерчака ўзялі падпіску пра неразгалошваньне акалічнасьцяў справы. Але актывіст пэўны, што ператрус на офісе Аршанскай кааліцыі дэмакратычных сілаў зьвязаны з «Маршам недармаедаў», які мае адбыцца ў Воршы 12 сакавіка.

**09.03.2017, Ворша.** Пакуль па сацыяльных сетках распаўсюджваюцца аб’явы пра марш пратэсту, на прадпрыемствах гораду робяцца папераджальныя захады. У шэрагу ўстановаў на найбліжэйшую нядзелю, у якую мусіць прайсьці «Марш не-



Канстанцін Анташкевіч

дармаедаў», заплянаваныя «суботнікі», а дзе-нідзе работнікаў папярэджваюць наўпрост: калі заўважаць на акцыі пратэсту, то звольняць.

**10.03.2017, Ворша.** Напярэдадні акцыі «недармаедаў» мясцовыя ўлады загадалі разьвешаць гукаўзмацняльнікі на цэнтральнай плошчы гораду. Адбыўся поўнамаштабны тэставы запуск сыстэмы: на плошчы гучала расейская поп-музыка, пры гэтым многія жыхары не разумеюць, навошта ў цэнтры Воршы так гучна ўключаць песьні.

**Сябра БХД Яўген Анішчанка** не сумняецца: гукаўзмацняльнікі разьвешаныя з мэтай заглушыць пратэставыя выступы аршанцаў. На яго думку, сваімі дзеяньнямі ўлады толькі раззлуюць людзей: *«Улада крыху не разумее, яна забылася, што народ нельга ўцiскаць – калісьці гэтая спружына выпраміцца. І тады выйдуць на вуліцу тысячы людзей і зьмятуць гэтую ўладу. На месцы ўлады трэба весьці дыялёг зь людзьмі. Паляпшэньня ў эканамічным пляне не чакаецца, няма ніякіх зрухаў у той бок. Думаю, эканамічны стан будзе толькі пагаршацца. Людзі пакрыўдзяцца яшчэ больш, асабліва тыя, хто заплаціў гэты падатак. Яны не разумеюць – вернуць ім грошы, ці ня вернуць. Ніякай канкрэтыкі, што дэкрэт будзе скасаваны ці істотна зьменены, я не пачуў».*

**12.03.2017, Ворша.** За некалькі гадзін да пачатку акцыі пратэсту міліцыянты пагрукалі ў кватэры **сябра Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Канстанціна Анташкевіча** і **незалежнага журналіста Арцёма Сізінцава**. На кватэрах праведзеныяператрусы. Як паведаміў Арцём Сізінцаў, у пастанове на ператрус значылася імя старшага лейтэнанта юстыцыі «Барысёнак С.І.»

Ператрус у Канстанціна Анташкевіча скончыўся крыху раней, у Сізінцава трываў да 12:10, пасьля чаго супрацоўнікі міліцыі дапыталі журналіста па справе фальшываманэтчыкаў, якіх міліцыя ня ў сілах знайсьці ўжо каля 4-х месяцаў, затое «раптам» атрымала «сыгналы» пра імавернасьць знаходжаньня несапраўдных купюраў у дамох грамадзкіх актывістаў і незалежных журналістаў. Супрацоўнікі міліцыі Лаўрушкін і Шыбека, паводле словаў журналіста, паводзіліся культурна, ніякіх пагрозаў у адрас Арцёма Сізінцава не было. Ніякіх вынікаў ператрус у кватэры, дзе Арцём пражывае са сваёй маці, ня даў. На патрабаваньне Сізінцава, пратакол допыту вёўся на беларускай мове.

**12.03.2017, Ворша.** Па адрасох, дзе прапісаныя **рэдактар Orsha.eu Ігар Казьмярчак**, **старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Валянціна Ігнаценка** і **актывіст партыі БНФ Віталь Паўлаў** ад самай раніцы дзяжурылі машыны зь «людзьмі ў чорным».

**12.03.2017, Ворша.** На сваёй машыне ранкам быў затрыманы **каардынатар арг-**


Яўген Анішчанка

**камітэту партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» па Воршы Яўген Анішчанка**. Такі самы лёс напаткаў і **актывіста «Гавары праўду» Ігара Грышанава**.

Пасьля вызваленьня Яўген Анішчанка распавёў акалічнасьці свайго затрыманьня: *«Раніцай па ўсіх адрасох, дзе я мог бы знаходзіцца, прыйшлі міліцыянты. Паказвалі пастанову на перашук, нібыта ў мяне могуць быць дома нейкія рэчы. Ніхто ім не адчыніў, у выніку міліцыянты сядзелі ля парогу ажно да 16-й гадзіны. Мяне ж спынілі на машыне на пад'езьдзе да плошчы. Прасілі прад'явіць дакумэнты, казалі, што трэба агледзець машыну. Я адказаў, што няхай робяць гэта з панятымі. Пратрымалі да канца акцыі, а потым адпусьцілі».*

**12.03.2017, Ворша. Журналістка naviny.by Адар'я Гуштын** паведаміла, што ад Талачына за ёй цікавалі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным. Па прыбыцьці на чыгуначны вакзал Воршы яе і **фатографа газэты «Наша Ніва» Сяргея Гудзіліна** затрымалі, адабралі пашпарты і адвялі ў пастарунак. Празь нейкі час дазволілі пад канвоем паабедаць. Адпусьцілі іх толькі пасьля сканчэньня акцыі ў цэнтры гораду.

Акрамя таго, блякаваным на чыгуначным вакзале Воршы на некаторы час стаўся і **журналіст «Народных навінаў Віцебска» Сяржук Серабро**. Таксама перад пачаткам акцыі была затрыманая **журналістка Тацяна Мацьвеева**.

**12.03.2017, Ворша.** У выніку дзеяньняў міліцыянтаў была сарваная анлайн-трансьляцыя сайту Orsha.eu, а наўпроставы этэр тэлеканалу «Белсат» меў вялікія праблемы з трансьляцыяй праз кепскае інтэрнэт-злучэньне. Ёсьць падазрэньне, што мабільныя апэратары на загад сілавікоў «глушылі» сувязь у цэнтры Воршы.

**12.03.2017, Ворша.** Адзін з жыхароў Воршы, які запісваў «Марш недармаедаў» на сваю камэру, паведамляе ў сацыяльных сетках пра тое, што пасьля акцыі да яго падышлі міліцыянты і ў грубай форме з прымяненьнем нецэнзурнай лексікі спрабавалі адабраць камэру. Ім гэта не ўдалося.

**12.03.2017, Ворша.** Жыхары гораду пішуць на ўліковыя запісы ў сацыяльных сетках: *«На некаторых прадпрыемствах Воршы сёньня нечакана абвясьцілі... працоўны дзень! Нават на тых, дзе і ў будныя дні працы мала. Чыста выпадкова?»*

**12.03.2017, Ворша. Ігару Казьмерчаку**, якога ад самай раніцы цікавала міліцыя, усё ж удалося паўдзельнічаць у акцыі, а потым яго суправаджалі звычайныя жыхары Воршы. У адной з кватэраў Ігару Казьмерчаку далі часовы прытулак, а пасьля арганізавалі яго бясьпечную дастаўку ў іншы горад.

**13.03.2017, Віцебск.** Заяўка **праваабаронцы Леаніда Сьвеціка** на правядзеньне мі-



Леанід Гаравы

тынгу 15 сакавіка не задаволеная. Спасылаючыся на палажэньні рашэньня гарвыканкаму №881 2009-га году, намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна акцыю забараніла, хоць яна мусіла прайсьці на пляцоўцы, якую гарадзкія ўлады адмыслова адвялі пад масавыя мерапрыемствы.

Такім чынам, адзначаць на вуліцах гораду Дзень Канстытуцыі – сьвята, уведзенае калісьці ўказам прэзыдэнта краіны, – віцебчукам было забаронена.

**15.03.2017, Віцебск.** Акцыя «недармаедаў», якую мясцовыя лідэры апазыцыі намерваліся правесьці ў Дзень Канстытуцыі, не адбылася. У тым ліку дзякуючы намаганям праваахоўнікаў, якія зрабілі захады, каб актывісты не маглі ў прызначаны час трапіць на плошчу.

Так, супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС уручылі **старшыню Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Кастусю Смолікаву** на лесьвічнай пляцоўцы перад дзьвярыма ягонай кватэры позву ў Сьледчы камітэт. Яны ж давезьлі яго і да СК. Сьледчы Іван Дземідовіч агарошыў партыйнага кіраўніка нечаканай заявай пра тое, што ён будзе апытаны ў якасьці сьведкі ў справе пра распаўсюд парнаграфіі. Парнаграфічная прадукцыя быццам бы распаўсюджвалася і праз ягоны акаўнт «УКантакце». Сваё дачыненьне да фэйкавага акаўнту актывіст цалкам адмаўляе. Ён патлумачыў, што ягоны асабісты акаўнт створаны па-беларуску, а прадэманстраваны сьледчым зьяўляецца цалкам расейскамоўным.

**Каардынатарцы аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Тацяне Севярынец** супрацоўнікі міліцыі таксама намагаліся ўручыць позву. Але застаць спадарыню Тацяну дома яны так і ня здолелі.

**15.03.2017, Гарадок. Каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласці Леанід Гаравы** ехаў у Віцебск на акцыю «недармаедаў» у Дзень Канстытуцыі, але яму не далі нават выехаць з гораду. Перад затрыманьнем прыблізна два кілямэтры ён рухаўся па Гарадку ў суправаджэньні службовай машыны ДАІ. Затрыманьне актывіста даішнікі патлумачылі атрыманьнем ад ананімнай асобы інфармацыі пра парушэньне спадаром Гаравым правілаў дарожнага руху. Ён нібыта праехаў на чырвонае сьвятло сьветлафора. У Гарадоцкім РАУС, дзе месьціцца і ДАІ, праезд машыны апазыцыянэра прасачылі па запісах відэаназіраньня. Факт парушэньня ПДР не пацьвердзіўся, але з кіроўцам правялі прафіляктычную гутарку пра неабходнасьць іх няўхільнага выкананьня. Калі гутарка скончылася, ехаць у Віцебск было ўжо запозна.

**21.03.2017, Віцебск.** Мясцовыя ўлады не дазволілі шэсьце і мітынгі ў Дзень Волі.


Ян Дзяржаўцаў

Адмовы атрымалі абодва заяўнікі імпрэзаў. Адміністрацыя Чыгуначнага раёну Віцебску забараніла двухгадзінны мітынг **сябру КХП БНФ Яну Дзяржаўцаву**, а Віцебскі абласны выканаўчы камітэт адмовіў **старшыню Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Кастусю Смолікаву** ў дазволе на правядзеньне заяўленых ім на 25 сакавіка мітынгу і шэсьця.

У сваёй адмове Яну Дзяржаўцаву намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Натальля Ляпёшкіна была нешматслоўнай: адсутнічаюць дамовы, прадугледжаныя артыкулам 3 рашэньня гарвыканкаму №881, – значыць «забараняю правядзеньне заяўленага масавага мерапрыемства ў парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў».

Аблвыканкам не дазволіў шэсьце ад плошчы Перамогі да плошчы Леніна і мітынг ля будынку філярмоніі зь некалькіх прычынаў. Сярод стандартных – адсутнасьць дамоваў з гарадзкімі службамі і спасылка на тое, што заяўленыя месцы не ўваходзяць у лік дазволеных уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Але ёсьць у адказе і новая зачэпка: чыноўнікі ўгледзелі з боку заяўніка парушэньне патрабаваньняў артыкулу 9 закону «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», бо мерапрыемствы мусілі адбыцца на адлегласьці бліжэй за 200 мэтраў ад падземных пешаходных пераходаў і будынку тэлерадыёкампаніі «Віцебск».

Як адзначыў Ян Дзяржаўцаў, ня даўшы грамадзянам магчымасьці 25 сакавіка вольна выказацца адносна праблемаў, што існуюць у краіне і горадзе, віцебскія ўлады праігнаравалі ня толькі пратэставыя настроі месьцічаў, але і нядаўнюю заяву Аляксандра Лукашэнкі пра выдзяленьне ў гарадох плошчаў з гукаўзмацняльным абсталяваньнем, дзе народ мог бы выказваць свае меркаваньні.

Варта адзначыць, што адзін з заяўнікаў шэсьця і мітынгу, **актывіст руху «За свабоду» Леанід Гаравы**, яшчэ да афіцыйнай забароны адмовіўся ад намеру быць арганізатарам масавых акцыяў. У асобнай заяве на імя старшыні аблвыканкаму Мікалая Шарстнёва спадар Гаравы прапанаваў *«да 25 сакавіка ў г. Віцебску і ў іншых гарадох Віцебшчыны вызначыць месцы ў цэнтральнай частцы гарадоў для правядзеньня масавых мерапрыемстваў – сходаў, мітынгаў, пікетаваньняў – паводле заяўнага мэтаду без пабораў з боку міліцыі, мэдыкаў і камунальнікаў. Гэта будзе спрыяць мірнаму дыялёгу ў грамадзтве для абмеркаваньня праблемаў і пытаньняў, што існуюць, а таксама паспрыяе ўмацаваньню незалежнасьці Беларусі, бо толькі неабыякавыя грамадзяне могуць быць падмуркам сувэрэннай дзяржавы».*


Кастусь Смолікаў

**22.03.2017, Віцебск.** Заяўнікі мітынгаў і шэсьця на Дзень Волі **сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** і **старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Кастусь Смолікаў** сустрэліся з прадстаўнікамі гарадзкіх уладаў. Яны былі запрошаныя ў габінэт № 108 гарадзкога выканаўчага камітэту, у якім месьціцца аддзел па рабоце з зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў. Як высьветлілася, на прафіляктычную гутарку.

У габінэце іх чакалі чатыры гарадзкія чыноўнікі немалога рангу, але кожнаму з заяўнікаў прыйшлося кантактаваць зь імі паасобку. Апроч намесьніка старшыні гарвыканкаму Пятра Падгурскага заяўнікаў адмоўленых уладамі акцыяў сустракалі намесьнік начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі Віцебскага аблвыканкаму Ігар Скарыновіч, памочніца пракурора гораду Віцебску Тацяна Опелева і начальнік аддзелу Ўладзімер Вараб'ёў.

Пётар Падгурскі папярэдзіў Яна Дзяржаўцава пра недапушчальнасьць ягонага асабістага ўдзелу ў забароненым адміністрацыяй Чыгуначнага раёну. Чыноўнік нагадаў партыйнаму актывісту пра няўхільнае выкананьне патрабаваньняў рашэньня гарвыканкаму №881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», якое можа заяўніку і не падабацца, але якое той мусіць выконваць, бо жыве, як ён выразіўся, у прававой дзяржаве.

Ян Дзяржаўцаў, скарыстаўшыся момантам, папікнуў прысутнага на сустрэчы прадстаўніка праваахоўнай структуры Ігара Скарыновіча ў тым, што міліцыянты адмаўляюцца заключаць дамовы з заяўнікамі, як таго патрабуе рашэньне гарвыканкаму №881. Канструкцыйнай размовы, аднак, не атрымалася, і Пётар Падгурскі прапанаваў спадару Яну для вырашэньня праблемы запісацца на асабісты прыём да кіраўніка абласнога УУС.

Кастуся Смолікава, як заяўніка шэсьця і мітынгу, гэтаксама папярэдзілі пра прававую адказнасьць за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства. Не прамінулі нагадаць яму і пра абавязковую неабходнасьць папярэдняй дамовы з міліцыяй, якую трэба заключыць да падачы заявы на масавую акцыю. Яго папярэдзілі, што згодна з заканадаўствам, ён ня можа быць арганізатарам недазволенага ўладамі мерапрыемства, за ўдзел у якім прадугледжаная адміністрацыйная адказнасьць.

Спадар Смолікаў заявіў, што прыме да ведама выказанае яму папярэджаньне, але ён не нясе адказнасьць за тых грамадзянаў, якія ўсё адно прыйдуць сьвяткаваць Дзень Волі на цэнтральную плошчу Віцебску.


Яўген Парчынскі

**23.03.2017, Полацак. Праваабаронцу Юрыю Бельскаму** міліцыянты спрабавалі ўручыць позву. Юрыя запрашалі прыйсьці 24 сакавіка ў 16:00 у сьледчы камітэт. Бельскі адмовіўся атрымліваць позву і расьпісвацца за яе атрыманьне.

Два міліцыянты прыйшлі да праваабаронцы па месцы яго жыхарства і доўга званілі і грукалі ў дзьверы. Юры адчыніў ім дзьверы, бо надакучыла слухаць гэты тлум. На лесьвічнай пляцоўцы стаялі лейтэнант і сяржант: «Вось вазьміце, вам позва. І расьпішыцеся». – «Ня буду я нічога атрымліваць», – адказаў Юры. – «Не, ну вы вазьміце і расьпішыцеся. Можаце вось патэлефанаваць...» – Нікуды я ня буду тэлефанаваць. Ідзіце вы, у мяне іншыя пляны на заўтра. Я заўтра буду заняты зь дзіцем цэлы дзень. Зь якой нагоды позва?» – «Я ня ведаю. Нам даручылі ўручыць вам».

Такія ж позвы міліцыянты Полацкага РАУС разносілі і іншым полацкім грамадзкім актывістам. Позвы атрымалі сама меней сем чалавек. У прыватнасьці, вядома пра ўручэньне позвы актывісту прадпрымальнікаў полацкага рынку **Генадзю Бердзянёву**. Актывісту прадпрымальнікаў прапануецца прыйсьці ў Полацкі міжраённы сьледчы камітэт 24 сакавіка а 16:20.

У Полацку 26 сакавіка мяркуецца мірны народны сход.

**24.03.2017, Полацак.** Полацкі райвыканкам забараніў праводзіць мітынг на плошчы гораду 26 сакавіка. Заяўку на мерапрыемства падаваў жыхар гораду **Яўген Парчынскі**. Пра адмову задаволіць заяўку чыноўнікі райвыканкаму паведамілі Яўгену наўпрост у залі выканкаму падчас разгляду гэтай заяўкі. Пісьмовая забарона выдадзеная Парчынскаму за подпісам намесьніка старшыні райвыканкаму.

На разгляд заявы пра мітынг Яўгена Парчынскага запрасілі ў райвыканкам. Прадстаўніку Яўгена, які прыйшоў разам зь ім, чыноўнікі райвыканкаму забаранілі прысутнічаць разам зь ім на паседжаньні камісіі.

Прадстаўніком быў **Мікола Шарах**, **намесьнік старшыні Свабоднага прафсаюзу Беларускага па Віцебскай вобласьці**. Намесьнік старшыні райвыканкаму Пётар Пяткевіч заявіў, што ён не чытаў Канстытуцыі Беларусі, таму не разумее сэнс артыкулу 62, якая гарантуе, што *«кожны мае права... карыстацца ў любы момант дапамогай... сваіх прадстаўнікоў у... органах мясцовага кіраваньня... і ў стасунках са службовымі асобамі»*.

Камісія райвыканкаму зь пяці чалавек забараніла мітынг і папярэдзіла заяўніка, што ўлады будуць арыштоўваць удзельнікаў несанкцыянаванага мітынгу, калі ён



Мікола Шарах

адбудзецца. У камісію выканкаму ўваходзілі: намесьніца начальніка аддзелу ідэалёгіі Ганебная Натальля, начальнік міліцыі (РАУС) Враб'ёў Віктар, начальнік юрыдычнага аддзелу – Парфёнава Анжаліка, кіраўнік справаў – Труханаў Сяргей, намесьнік старшыні па сацыяльных пытаньнях – Пяткевіч Пётар.

У заяўцы, пададзенай на правядзеньне мітынгу 26 сакавіка ў Полацку, сказана: *«Мэта мітынгу: абарона сацыяльных і палітычных правоў грамадзян Беларусі; выказваньне пратэсту ў сувязі з прыняцьцем дэкрэту №3 «Аб папярэджаньні сацыяльнага ўтрыманства»; выказваньне пратэсту ў сувязі з павышэньнем пэнсійнага ўзросту; аб'яднаньне намаганьняў грамадзян у барацьбе за свае сацыяльна-эканамічныя правы».*

У пісьмовай забароне райвыканкаму гаворыцца: *«Ваша заява пра правядзеньне мітынгу разгледжаная Полацкім райвыканкамам. У сувязі з тым, што ваша заява пададзеная з парушэньнем артыкулаў 5, 6, 9 закону Рэспублікі Беларусь аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў, Полацкі райвыканкам забараняе правядзеньне мітынгу 26 сакавіка з 12:00 да 13:00 гадзін. У адпаведнасьці з артыкулам 7 закону аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў адмова можа быць абскарджаная ў судовым парадку. Подпіс – першы намесьнік старшыні Полацкага райвыканкаму С.Д. Лейчанка».*

Яўген Парчынскі распавёў, што прадстаўнікі райвыканкаму размаўлялі ветліва, але папярэдзілі, што калі хто-небудзь з маих сяброў і знаёмых прыйдзе на мітынг 26 сакавіка, то будуць забіраць самых актыўных, як гэта рабілі ў іншых гарадох.

*«Мітынг адбудзецца ў любым выпадку, бо той жа прэзідэнт сказаў: Не замінайце людзям зьбірацца на плошчах. Таму людзі прыйдуць і будуць выяўляць сваю волю што да таго, як жывецца нам цяпер»*, – сказаў Яўген Парчынскі.

А тым часам улады распарадзіліся распачаць рамонт старой пліткі на цэнтральнай плошчы, дзе мяркуецца правядзеньне народнага мітынгу супраць дэкрэту №3. Рабочыя, якія мяняюць плітку, паведамілі, што рамонт будзе доўжыцца некалькі тыдняў.

**24.03.2017, Ворша.** Актывісты атрымліваюць позвы ў Сьледчы камітэт. Іх выклікаюць на 25 сакавіка. Позвы атрымалі **сябра АГП Станіслаў Храпавіцкі** і **ўдзельнік руху «За свабоду» Юры Нагорны**. Участковы прыходзіў і да **Ігара Казьмерчака**, але позву ўручыць яму ня змог.

**24.03.2017, Аршанскі раён.** У Барані міліцыянты шукаюць **Генадзя Шэпелева**.


Вольга Дамаскіна

Падчас акцыі 12 сакавіка ў Воршы ён нёс самы вялікі бел-чырвона-белы сьцяг. Штодня на кватэру актывіста прыходзяць міліцыянты і пытаюць жонку пра яго месцазнаходжаньне.

**24.03.2017, Полацак. Былая кандыдатка ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Вольга Дамаскіна** напісала ў сваім фэйсбуку: *«Вось і да мяне дакацілася гэтая навала. Паехала да мамы. А ўчора і сёньня дахаты прыходзілі міліцыянты – нейкую позву хочуць аддаць, выклікаюць кудысьці. Пужаюць суседзяў, роспытамі хто дзе працуе. Сын кажа: пад вакном стаіць шэрая машына з двума чалавекамі ўнутры. Больш за гадзіну зь яе ніхто не выходзіць. А як пад'ехала гэтая – іншая, якая таксама доўга стаяла, зьехала».*

Урэшце спадарыні Вользе ўручылі тры позвы ў СК – на 24, 25, 26 сакавіка. Яна схадзіла – паводле яе словаў, справа тычылася чагосьці неістотнага, сапраўдная мэта была – абмежаваць яе мабільнасьць.

**24.03.2017, Чашнікі.** Затрыманы актывіст Пётар Ганчарэнка. Ён паспеў напісаць сябру смс, у якім паведаміў, што міліцыя ўжо ў яго, ідзе ператрус.

**24.03.2017, Полацак.** Увечары быў затрыманы **лідэр Свабоднага прафсаюзу прадпрыемства «Полацак-Шкловалакно» Віктар Стукаў**. Яго адвезьлі ў РАУС, склалі пратакол за тое, што ён нібыта лаяўся матам, і адправілі да панядзелка ў ЦІП. Перад тым у офісе Свабоднага прафсаюзу адбыўся ператрус – шукалі скрадзеныя рэчы.

**24.03.2017, Полацак. Грамадзкі актывіст**, **юрыст Генадзь Воранаў** атрымаў на 25 сакавіка позву ў міліцыю.

**25.03.2017, Ворша.** Усю раніцу каля дома актывіста **Віталя Паўлава** дзяжураць міліцыянты.

**25.03.2017, Наваполацак.** Раніцай **актывістку БСДП Тацяну Ладукас** выцягнулі з маршруткі на Менск, адвезьлі ў Сьледчы камітэт, а пасьля ў Наваполацкі ГАУС. Прычына затрыманьня: яна нібыта мае позву, каб даць нейкія паказаньні. У атрыманьні позвы яна не распісвалася.

Спадарыню Тацяну затрымлівалі і напярэдадні, таксама ня даўшы магчымасьці паехаць у Менск (у яе была забраніраваная маршрутка), а потым людзі ў цывільным пільнавалі яе ўсю ноч.

Наконт позваў Тацяна паведаміла: *«Ды ў мяне іх тры. На 24.03 на 15:30, 25.03 на 10:00 і 26.03 на 10:00. Сёньня* (24 сакавіка) *схадзіла. Прычына была пазначаная*




*так: мой нумар тэлефону знаходзіўся ў геалякацыі месца злачынства (угон аўто)».*

**25.03.2017, Віцебск. Сябра руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** раніцай быў запрошаны ў сьледчы камітэт, дзе быў апытаны ў сувязі з распачатай крымінальнай справай – тэлефон актывіста нібыта быў зафіксаваны недалёка ад месца зьдзяйсьненьня крадзяжу.

**25.03.2017, Полацак.** Раніцай затрымалі **праваабаронцу Юрыя Бельскага**, калі ён выходзіў з дому, каб ехаць у Менск. У пастарунку міліцыі яму казалі нешта пра рабаваньне ў вёсцы Фарынава. Пасьля яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве і адправілі ў ізалятар для правапарушальнікаў.

**26.03.2017, Полацак.** Да мясцовага **актывіста Генадзя Бердзянёва** прыйшлі рабіцьператрус. Генадзь мяркуе, што гэта зьвязана з анансаваным у сацыяльных сетках сходам, прызначаным у Полацку на гэты дзень. Таксама зь ператрусам прыйшлі і да актывіста **Валерыя Шостака**.

**26.04.2017, Наваполацак.** Гарадзкі суд адмовіў грамадзяніну **Зьмітру Салаўёву** ў разглядзе ягонай скаргі на рашэньне гарвыканкаму. Зьміцер мяркуе, што рашэньне мясцовай улады пра месца правядзеньня масавых мерапрыемстваў і аплату за іх парушае яго права на мірныя сходы.

У скарзе ў суд Зьміцер прасіў, каб судзьдзя адмяніў няпраўнае, на яго думку, рашэньне мясцовых уладаў ад 9 верасьня 2011 году і абавязаў гарвыканкам Наваполацку вынесьці новае рашэньне, якое адпавядае міжнародным забавязаньням Рэспублікі Беларусь. Для абгрунтаваньня свайго патрабаваньня Зьміцер прасіў далучыць да справы адмову ўладаў Наваполацку правесьці яму пікет ў 2014 годзе, бо Зьміцер не аплаціў паслугі ЖКГ, міліцыі і мэдычных работнікаў. Таксама доказамі патрабаваньняў грамадзяніна служылі Кіруючыя прынцыпы аб рэгуляваньні свабоды мірных сходаў, прынятыя Арганізацыяй па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе.

Прадстаўніца Наваполацкага гарвыканкаму ў судзе Сьвятлана Сталярова заявіла хадайніцтва аб спыненьні справы за непадведамаснасьцю суду. Пасьля гэтага судзьдзя выйшла ў дарадчы пакой для прыняцьця рашэньня. Па завяршэньні дваццаці хвілін перапынку судзьдзя Алена Верташонак вынесла пастанову пра непадведамаснасьць суду патрабаваньняў грамадзяніна Салаўёва, як і прасіла супрацоўніца гарвыканкаму. Судзьдзя заявіла, што такога кшталту патрабаваньні грамадзян да мясцовай улады павінна разглядаць пракуратура.

**01.06.2017, Мёры.** Заяўку на правядзеньне пікету «недармаедаў» і пікету са-


Сяргей Васільеў

лідарнасьці падавалі актывісты правацэнтрысцкай кааліцыі. Аднак, нягледзячы на патрабаваньне Лукашэнкі даць людзям магчымасьць зьбірацца на плошчах і адкрыта выказваць сваё стаўленьне да ўлады, імпрэза была забароненая.

*«Ужо адмоўлена ў правядзеньні пікету ў Мёрах,* – паведаміў **актывіст Сяргей Васільеў.** – *Мне прынесьлі адказ проста ў шпіталь, дзе я знаходжуся, і ён зьмяшчае забарону на правядзеньне пікету недармаедаў. Падстава: цэнтральная плошча гораду – ня месца для збору грамадзян. Там могуць ладзіць імпрэзы толькі чыноўнікі. Такім чынам, улады яшчэ глыбей капаюць яму, якая падзяляе чыноўнікаў і народ».*

## Рэпрэсіі супраць грамадзкіх актывістаў, праваабаронцаў і журналістаў


Тацяна Севярынец

**26.02.2017, Віцебск.** Па завяршэньні «Маршу недармаедаў» у Віцебску затрымалі пяць чалавек. Сярод затрыманых – **абласная каардынатарка па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Тацяна Севярынец** і двое непаўналетніх. Усіх затрыманых адвезьлі ў РАУС Кастрычніцкага раёну Віцебску, дзе на іх склалі пратаколы за нібыта парушэньне артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі ці правядзеньня масавых мерапрыемстваў).

Найбольш лагодна ў міліцэйскім пастарунку паставіліся да Тацяны Севярынец. Спадарыня Тацяна – адзіная, каго пратрымалі менш за тры гадзіны. Больш таго, пасьля складаньня пратаколу яе асабіста адвёз дадому на сваёй машыне супрацоўнік РАУС Сяргей Казлоў, які яе і апытваў.

Тое, што, паводле сьведчаньня крыніцы, астатніх трымалі больш за 3 гадзіны, фармальна быццам бы не парушае Працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Пры выкананьні пэўных працэдур дазваляецца затрымліваць на тэрмін да 72-х гадзін – калі зьдзейсьненае правапарушэньне, пакараньнем за якое можа быць адміністрацыйны арышт (артыкул 23.34 такое пакараньне прадугледжвае). Але гэта ня тычыцца непаўналетніх – адміністрацыйнае затрыманьне тут на тэрмін звыш 3-х гадзін недапушчальнае ні ў якім разе – не адпускаць іх, чакаючы, пакуль за імі прыедуць бацькі (а менавіта так было цяпер), ёсьць парушэньнем закону.

Зрэшты, было і іншае відавочнае парушэньне ў дачыненьні да затрыманых пасьля акцыі ў Віцебску падлеткаў. Іх апытвалі ня толькі ў адсутнасьць бацькоў, а нават нічога не паведаміўшы апошнім. Міліцыянты толькі патэлефанавалі іх кляснай кіраўніцы, а тая ўжо зьвязалася з бацькамі і сказала ім, што іх дзеці знаходзяцца ў міліцыі.

Затрымлівалі школьнікаў ужо пасьля заканчэньня акцыі на пераходзе на вуліцы Люднікава. Людзі ў цывільным, якія не прад'явілі сваіх дакумэнтаў, заявілі, што тыя нібыта падобныя да нейкіх бандытаў у вышуку, запхнулі ў машыну і адвезьлі ў міліцыю. У пастарунку ў іх узялі адбіткі пальцаў і апыталі. У аднаго са школьнікаў канфіскавалі бел-чырвона-белую стужачку, якая была ў яго на руцэ. Пыталіся, дзе ён яе ўзяў, і што яна азначае.

Паводле словаў хлопцаў, іх схапілі праз тое, што падчас акцыі ў аднаго зь іх твар быў закрыты шалікам. *«Было халодна. Я папросту зьмёрз, таму і прыкрыўся»*, – распавёў ён па выхадзе зь міліцэйскага пастарунку.


Аляксандар Баразенка

«Дарослых» таксама бралі не падчас акцыі, а па яе завяршэньні. Тацяну Севярынец арыштавалі, калі яна выходзіла з крамы «Эўраопт» каля свайго дому. Мужчыну, які ішоў са сьцягам у калёне, узялі на чыгуначным вакзале, калі ён збіраўся ехаць дадому ў Менск – ён кажа, яго пільнавалі ад самай плошчы.

Яшчэ адзін затрыманы – не нашмат старэйшы за школьнікаў – 19-гадовы беспрацоўны, па прафэсіі кіроўца, быў схоплены каля гандлёвага цэнтру «Марко-Сіці». Як сьведчаць відавочцы, падчас апытаньня на яго чыніўся вялікі ціск. Ён быў так падаўлены, што асабліва нічога не казаў. У яго пыталіся: ці любіць ён сваю маці, хіба хоча, каб у яе нешта было дрэнна, ці хоча ён, каб у нас была такая сытуацыя, як ва Ўкраіне? Калі ён выйшаў з пастарунку, сказаў, што больш ніколі ня будзе ўдзельнічаць ні ў якіх акцыях.

Школьнікаў, найхутчэй, чакае камісія па справах непаўналетніх. А астатнія затрыманыя павінны чакаць позвы ў суд.

**12.03.2017, Ворша.** Пасьля акцыі пратэсту журналісты тэлеканалу «Белсат» паехалі з гораду разам са **сустаршынём «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі» Паўлам Севярынцам**, які ўсё ж здолеў дабрацца да Воршы скрозь узмоцненыя кардоны ДАІ, міліцыі і АМАПу. На вуліцы 1 Мая, каля школы № 3 аўтамабіль, у якім аршанец **Ігар Нірман** вёз Паўла Севярынца, быў спынены супрацоўнікамі міліцыі і ДАІ.

Капітан назваў сваё прозьвішча – «Курган», а ў машыне, якая спыняла актывістаў, было шмат сымболікі суседняй дзяржавы, Расеі. Аўтамабіль, які затрымліваў Паўла Севярынца, абвешаны расейскай сымболікай.

Пры гэтым Курган праігнараваў зварот Паўла Севярынца і ня стаў размаўляць з палітыкам на беларускай мове. У выніку Паўла Севярынца адвезьлі ў Аршанскі РАУС, таксама затрымалі і **апэратара «Белсату» Аляксандра Баразенку**, хаця ён прад’явіў свае дакумэнты.

У пастарунку Аляксандар Баразенка атрымаў штраф у 23 рублі і быў адпушчаны на волю.

**12.03.2017, Ворша.** У РАУСе была затрыманая **карэспандэнтка «Белсату» Кацярына Андрэева**. Яна запатрабавала ад супрацоўнікаў, якія выдавалі сябе за міліцыянтаў, прад’явіць пасьведчаньні, аднак яны таго не зрабілі.

**12.03.2017, Ворша.** Была затрыманая **журналістка радыё «Свабода» Галіна Абакунчык**. Яе затрымлівалі па заканчэньні акцыі пратэсту міліцыянты ў цывіль-


Віктар Міхасёў

ным і ў форме, якія не прадставіліся. Як распавялі сьведкі здарэньня, у пастарунак журналістку даставіў супрацоўнік у цывільным. Галіна запатрабавала, каб супрацоўнікі прадставіліся і патлумачылі прычыны затрыманьня. Гэта яны не зрабілі. Пры гэтым у Галіны сілай, прыціснуўшы да сьцяны, забралі тэлефон, не далі зьвязацца з рэдакцыяй. Пасьля знаходжаньня ў пастарунку «Бабінічы» Галіну даставілі ў галоўны офіс РАУС для высьвятленьня асобы. Допыт доўжыўся каля 6 гадзін. У Галіны было з сабою пасьведчаньне МЗС Беларусі аб акрэдытацыі і пашпарт. У чым абвінавачваецца Галіна Абакунчык, у РАУС не змаглі патлумачыць.

**12.03.2017, Ворша.** Пасьля акцыі пратэсту затрыманы як мінімум адзін непаўналетні аршанец. На фота, які зрабіла «Наша Ніва», ён з інспэктарам па справах непаўналетніх па прозьвішчы Вішнеўскі.

Як высьветлілася, затрыманы непаўналетні хлопец ня ўдзельнічаў у акцыі пратэсту, а займаўся у рэпэтытара. Трапіўся пад «гарачую руку» супрацоўнікам міліцыі.

**12.03.2017, Ворша.** Пасьля акцыі на адным з прыпынкаў быў затрыманы **праваабаронца Васіль Берасьнёў**.

**12.03.2017, Ворша.** Стала вядома яшчэ пра некаторых затрыманых. У камэрах папярэдняга зьняволеньня знаходзяцца грамадзкія актывісты і журналісты **Віктар Міхасёў** і **Віктар Андрэеў**.

**12.03.2017, Ворша.** Затрыманы **журналіст інфармацыйнай агенцыі БелаПАН Андрэй Шаўлюга**.

**12.03.2017, Ворша.** Яшчэ адно затрыманьне: міліцыянты не адпусьцілі з Воршы **блогерку Насту Пілюгіну**.

**12.03.2017, Ворша.** Ніякіх рэчаў зьняволеным перадаваць не дазваляюць, салідарных просяць пакінуць памяшканьне міліцыі на вуліцы Энгельса. Да міліцыі ў Воршы практычна немагчыма датэлефанавацца. Слухаўкі не бяруць.

**12.03.2017, Ворша.** Пасьля акцыі былі затрыманыя грамадзянскія актывісты з Горак **Андрэй Юркоў** і **Валер Кісялевіч**. За імі сачылі да самай машыны, а потым актывісты былі спыненыя супрацоўнікамі ДАІ.

**12.03.2017, Ворша. Блогерка Наста Пілюгіна** адпушчаная зь міліцыі. Паведамляе ў сацсетках, што за ёй па горадзе едзе белы мікрааўтобус, дзе сядзіць мужчына з рацыяй.



Віктар Андрэеў

**13.03.2017, Ворша.** Сямёра з васьмі актывістаў, што былі дастаўленыя ў ІЧУ напярэдадні, апынуліся ў судзе Аршанскага раёну і гораду Воршы. У выніку ўсе яны за ўдзел у акцыі супраць дэкрэту аб «дармаедах» № 3 атрымалі адміністрацыйныя спагнаньні.

Судзьдзя Іна Кохава разглядала справу **Віктара Андрэева**. Згодна з пратаколам аб правапарушэньні, складзеным міліцыянтамі, ён нібыта заклікаў удзельнікаў «Маршу недармаедаў» рушыць да выканкаму. Адзіным доказам, на падставе якога прымалася судовае рашэньне, быў відэаролік, зроблены падчас акцыі пратэсту. Сваёй віны актывіст не прызнаў. Аднак судзьдзя палічыла яго віну даказанай і прызначыла яму пакараньне ў выглядзе 13 сутак арышту.

Адначасова з судом над Андрэевым у іншай залі праходзіў разгляд справы **Віктара Міхасёва**. Яго, як і Андрэева, абвінавацілі ў парушэньні часткі 1 артыкулу 23.34 (парушэньне парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў). Адзіным доказам тут таксама быў толькі відэаролік, і абвінавачаны ў правапарушэньні таксама сваёй віны не прызнаў. Рашэньне, прынятае судзьдзёй Алесей Драньковай, было больш мяккім: 30 базавых велічынь (690 рублёў) штрафу.

Наступным, каго даставілі ў залю судовых паседжаньняў з ІЧУ, быў **Васіль Берасьнёў**. Вядомага аршанскага праваабаронцу судзілі паводле часткі 2 вышэй згаданага артыкулу КаАП – гэтая частка прадугледжвае адказнасьць ня толькі за парушэньне парадку правядзеньня масавага мерапрыемства, але таксама і за яго арганізацыю.

Берасьнёў у судзе прызнаў сваю віну часткова: ён пацьвердзіў, што браў актыўны ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, але заявіў, што ня мае дачыненьня да яе арганізацыі. Галоўным арганізатарам вулічнай імпрэзы ён назваў Лукашэнку – менавіта яго кіраваньне краінай вывела людзей на пратэст. Невядома, што ўбачыў судзьдзя Ігар Палякоў у відэа, бо з прысутных у судовай залі толькі ён ды яшчэ абвінавачаны ў зьдзяйсьненьні правапарушэньня маглі бачыць фільм на кампутары. Але ўбачаныя эпізоды пераканалі судзьдзю ў тым, што менавіта Берасьнёў – адзін з арганізатараў акцыі ў Воршы. Вэрдыкт: 14 сутак арышту.

Тым часам у судовым працэсе, што праходзіў паралельна, судзьдзя Мікалай Драгуноў прызнаў **карэспандэнтку Радыё Свабода Галіну Абакунчык** вінаватай ў парушэньні часткі 1 артыкулу 23.34 і прызначыла ёй штраф у памеры 25 базавых (575 рублёў). Па выхадзе з залі суду спадарыня Абакунчык заявіла, што лічыць, што яе пакаралі за выкананьне журналісцкіх абавязкаў, і сказала, што мае намер абскардзіць судовае рашэньне.


Андрэй Юркоў

**Актывіста Андрэя Юркова** судзіў таксама Мікалай Драгуноў. Рашэньне: двое сутак адміністрацыйнага арышту. Артыкул, на падставе якога Юркоў быў пакараны, усё той самы: 23:34, частка 1.

Адзіным з прысутных на акцыі пратэсту ў Воршы, прыцягнутых 13 сакавіка да адміністрацыйнай адказнасьці, каго пакаралі не паводле 23.34, стала **журналістка Кацярына Бахвалава**. Яна вяла просты рэпартаж для тэлеканалу «Белсат» аж да самага моманту яе затрыманьня. Пастанова судзьдзі Іны Кохавай ў дачыненьні да яе – 30 базавых (690 рублёў), зь якіх 5 б.в. паводле артыкулу 23.4 (нібыта за непадпарадкаваньне супрацоўніку міліцыі), 25 б.в. – паводле артыкулу 22.9 (парушэньне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі).

Падчас судовага паседжаньня Кацярыне Бахвалавай, якая да таго правяла суткі ў ІЧУ, стала кепска. Дык што судовы разбор давялося прыпыніць на некалькі хвілін. У адрозьненьне ад іншых працэсаў, тут рашэньне прымалася ня толькі на падставе відэа, а быў запрошаны сьведка, у якасьці якога выступіў супрацоўнік міліцыі, начальнік апэратыўна-дзяжурнай службы Павал Чарняўскі.

Апошнім у гэты дзень судзілі **сустаршыню аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Паўла Севярынца**. Судзьдзя Тацяна Рыбакова адхіліла хадайніцтва апазыцыянэра аб адводзе яе як судзьдзі і аб тым, каб разгляд справы вёўся па-беларуску. Прычым тое, што працэс будзе па-расейску, і гэта яе прынцыповае рашэньне, спадарыня судзьдзя падкрэсьліла некалькі разоў: спачатку сама абвясьціла пра гэта яшчэ да якіх-кольвек прашэньняў з боку абвінавачанага ў правапарушэньні палітыка або яго адваката, пасьля – адказваючы на заяўленае хадайніцтва: маўляў, маю права весьці працэс на любой мове зь дзьвюх дзяржаўных на маё меркаваньне і з гэтага права карыстаюся.

Напрыканцы судзьдзя дала слова Паўлу (які нагадаў ёй, што Бог існуе, і за ўсе няправедныя дзеяньні давядзецца адказваць перад Ім) і адвакату – той казаў пра важнасьць Канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам свабоду мітынгаў, і міжнароднага права. Пасьля зачытала пастанову: 15 сутак паводле артыкулу 23.34, часткі 3 (дзеяньні, прадугледжаныя артыкулам, зьдзейсьненыя паўторна цягам аднаго году).

**15.03.2017, Ворша. Актывіста кампаніі «Гавары праўду» Ігара Грышанава** вызвалілі з ізалятара часовага ўтрыманьня, у якім ён знаходзіўся трое сутак. Па вызваленьні стала вядома, што супраць актывіста распачатая крымінальная справа паводле часткі 1 артыкулу 211 Крымінальнага Кодэксу (прысваеньне альбо растрата маёмасьці).


Аляксандар Булаўка

Сябры Ігара Грышанава зьвязваюць затрыманьне з тым, што Ігар мог бы ўзяць удзел у «Маршы недармаедаў», які прайшоў у Воршы 12 сакавіка. Але ён раптоўна зьнік раніцай у дзень акцыі.

На аграсядзібе ў Стаўрах вядуцца сьледчыя дзеяньні, накладаецца арышт на маёмасьць.

**16.03.2017, Ворша.** 12-цю суткамі адміністрацыйнага арышту пакараны **Аляксандар Булаўка**. 12 сакавіка, падчас мітынгу на цэнтральнай плошчы Воршы, ён падняў сьцяг прафсаюзу РЭП, а потым на чале калёны прайшоў з гэтым сьцягам да райвыканкаму.

Паводле відавочцаў, яшчэ тады да прафсаюзнага актывіста падыходзілі міліцыянты і пагражалі «пасадзіць». Але пагрозы спраўдзіліся толькі праз некалькі дзён: супрацоўнікі міліцыі прыйшлі дахаты і забралі Аляксандра Булаўку.

Здарылася так, што ў яго не было магчымасьцяў зьвязацца са сваякамі і блізкімі, і толькі ўвечары аднадумцы з прафсаюзу даведаліся, што Аляксандра асудзілі на 12 сутак арышту.

Спадар Булаўка ачольвае аршанскую рэгіянальную арганізацыю прафсаюзу РЭП са сьнежня 2016 году – з часу стварэньня ў Воршы гэтай суполкі. Ён быў адным з найактыўнейшых зьбіральнікаў подпісаў за скасаваньне дэкрэту № 3.

**18.03.2017, Шумілінскі раён – Полацак.** Па дарозе зь Віцебску ў Наваполацак былі затрыманыя **журналісты Сяргей Русецкі**, **Уладзімер Лунёў** і **Алена Сьцяпанава**.

Спачатку супрацоўнікі ДАІ затрымалі аўтамабіль зь незалежнымі журналістамі ў Шумілінскім раёне. іх абвінавацілі ў парушэньні правілаў дарожнага руху і адпусьцілі. Іх абвінавацілі ў парушэньні правілаў дарожнага руху і адпусьцілі.

Пазьней іх зноў затрымалі ўжо ў Полацкім раёне і павезьлі ў Полацкі РУУС. Міліцыянты сказалі, што будуць правяраць, ці не перабітыя нумары на кузаве аўтамабіля.

Калі незалежных віцебскіх журналістаў прывезьлі ў Полацкае РУУС быццам бы на праверку, ці не перабітыя ў іх нумары на кузаве аўтамабіля, высьветлілася, што іх падазраюць ў нападзе 1 сакавіка на аддзяленьне банка ў вёсцы Фарынава Полацкага раёна – маўляў, тады рабаўнікі таксама былі на аўтамабілі чорнага колеру.

Старшы ўпаўнаважаны крымінальнага вышуку Полацкага РУУС маёр Максім Крацянок дапытаў журналістаў, прабіў па базе. Пасьля Алену Сьцяпанаву, Сяргея Русецкага і Ўладзімера Лунёва адпусьцілі.


Кірыл Татарэвіч

**21.03.2017, Віцебск.** У судзе Кастрычніцкага раёну разглядаліся адміністрацыйныя справы ў дачыненьні да дваіх удзельнікаў акцыі пратэсту, якая адбылася ў Віцебску 26 лютага. Вынік разгляду: 50 базавых велічынь (1150 рублёў) штрафу **Тацяне Севярынец**, і 30 базавых (690 рублёў) – **Кірылу Татарэвічу**.

Абое былі пакараныя за парушэньне артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў): Кірыл Татарэвіч – паводле часткі 1 названага артыкулу, Тацяна Севярынец – часткі 3 (гэтая частка прымяняецца да тых, хто цягам году ўжо караўся за аналягічнае правапарушэньне).

Падставай для прыцягненьня да адказнасьці абаіх паслужыла толькі відэа, невядома кім зьнятае, сьведкі на суды не выклікаліся. І абаім далі максымальна магчымыя грашовыя штрафы, прадугледжаныя адпаведнымі часткамі артыкулу 23.34 КаАП.

Тое, што судзьдзя Алеся Жарыкава аштрафавала каардынатарку па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Тацяну Севярынец вялікім штрафам, асаблівага зьдзіўленьня ня выклікала. Усё ж такі спадарыня Тацяна – вядомы ў горадзе апазыцыйны палітык, і ў акцыі «недармаедаў» сапраўды выяўляла актыўнасьць: выступала, зачытвала артыкулы Канстытуцыі, якія ўлады, паводле яе словаў, не выконваюць. Яна сама рыхтавалася да яшчэ больш суворага пакараньня – прынесла з сабою ў суд пакунак з рэчамі і прадуктамі на выпадак адміністрацыйнага арышту.

А вось завошта судзьдзя Ўладзімер Царыкаў гэтак жорстка пакараў Кірыла Татарэвіча – грамадзянскія актывісты, праваабаронцы і журналісты, якія прыйшлі на суды, не зразумелі: 19-гадовы віцябчук удзельнічаў у акцыі пратэсту, як ён кажа, упершыню ў сваім жыцьці, быў шараговым удзельнікам гэтай акцыі, не належыць ні да якай з апазыцыйных структур.

**25.03.2017, Віцебск.** Па завяршэньні мірнай акцыі пачаўся «хапун». Першым узялі на вуліцы **сябра партыі БНФ** з Гарадка **Леаніда Аўтухова**. Яго затрымліваў АМАП. Актывіст быў дастаўлены ў РАУС Кастрычніцкага раёну. Калі **праваабаронцы Леанід Сьвецік** і **Павал Левінаў** прыйшлі да будынку міліцыі, каб даведацца пра лёс затрыманага, унутар іх не пусьцілі.

**25.03.2017, Віцебск.** У Кастрычніцкі РАУС быў дастаўлены **Ўладзь Камароўскі**. Зь міліцэйскага пастарунку ён патэлефанаваў сваёй маці і паведаміў, што да панядзелка будзе знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня.



Вольга Чайчыц

**25.03.2017, Віцебск.** Затрымалі **журналіста радыё Рацыя Арцёма Сізінцава** і **здымачную групу тэлеканалу «Белсат»** – **Вольгу Чайчыц** і **Андрэя Козела**. Апошніх праз некаторы час адпусьцілі, а Арцёма, пасьля складаньня пратаколу аб нібыта парушэньні ім заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, да суду адправілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня.

**26.03.2017, Віцебск.** Быў затрыманы **актывіст руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**. У Кастрычніцкім РАУС Віцебску на яго склалі пратакол за акцыю, што адбылася напярэдадні, пасьля чаго адправілі ў ІЧУ.

**26.03.2017, Ворша.** Быў затрыманы **кіраўнік моладзевага аб’яднаньня «Зьвяз» Ігар Казьмярчак**. Каля 14:30 спадар Казьмярчак паведаміў, што яго адпусьцілі, склаўшы пратакол за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Але ня ў той, якая адбылася ў гэты дзень, а ў аршанскім «Маршы недармаедаў» 12 сакавіка.

**26.03.2017, Віцебск.** Па завяршэньні акцыі «недармаедаў» у Кастрычніцкі РАУС забралі **праваабаронцаў Паўла Левінава**, **Леаніда Сьвеціка**, **актывістак Вікторыю Гром** і **Ірыну Трацьцякову**, **журналіста Кастуся Мардзьвінцава**.

На кожнага склалі пратакол за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Пасьля гэтага Ірыну Трацьцякову адпусьцілі дадому, астатніх накіравалі ў ізалятар часовага ўтрыманьня.

**27.03.2017, Віцебск. Праваабаронца Павал Левінаў** ноччу быў пераведзены з ізалятару часовага ўтрыманьня ў шпіталь У яго падвышаны ціск. Пасьля затрыманьня 26 сакавіка яму стала кепска, у Кастрычніцкі РАУС выклікалі хуткую дапамогу, але шпіталізаваць Левінава мэдыкі адмовіліся. Пасьля адпраўкі ў ІЧУ яму стала горш. Праваабаронцу ўсе-такі паклалі ў шпіталь.

**27.03.2017, Полацак.** Адбыліся суды над актывістамі, прэвэнтыўна затрыманымі перад масавымі акцыямі.

Затрыманаму раніцам 25 сакавіка **праваабаронцу Юрыю Бельскаму** прысудзілі двое сутак арышту за дробнае хуліганства (артыкул 17.1 КаАП) — нібыта ён нецэнзурна лаяўся, калі быў выкліканы на гутарку ў Сьледчы камітэт. Двое сутак якраз скончыліся, і тэрмін знаходжаньня ў ізалятары часовага ўтрыманьня быў залічаны ў якасьці пакараньня.

**Актывісту СПБ Віктару Стукаву**, затрыманаму яшчэ 24-га ўвечары падчасператрусу на прафсаюзным офісе, прысудзілі штраф памерам 20 базавых велічыняў (судзьдзя Уладзімер Бясецкі), таксама паводле артыкулу 17.1 КаАП.


Уладзь Камароўскі

**27.03.2017, Віцебск.** Працэсы над удзельнікамі акцыяў 25 і 26 сакавіка праходзілі ў Кастрычніцкім райсудзе. Справы актывістаў, журналістаў, праваабаронцаў і шараговых грамадзян разьбіралі адразу некалькі судзьдзяў.

Затрыманых ад раніцы чакалі ў судзе журналісты, а таксама сваякі і сябры. Адміністрацыя суду перадала, што судовыя працэсы адбудуцца пасьля 14-й гадзіны. Судовая ахова паспрабавала пазбавіцца ад наведнікаў — выклікалі АМАП і міліцэйскае начальства. Прысутным прygразілі, што ўсіх адвязуць у міліцыю за арганізацыю несанкцыянаванага сходу ў будынку суду. Частка людзей сышла, а частка засталася пісаць скаргу на неправамерныя дзеяньні міліцыі.

Мінімальныя штрафы па 20 базавых велічынь былі прысуджаны толькі дзьвюм 20-гадовым дзяўчатам, якія ўпершыню прыйшлі на вулічныя акцыі — **Аліне Сільчанцы** і **Ганьне Сьцяпуры**. Абедзьвюх судзіў Уладзімер Царыкаў.

Штрафам у 30 базавых велічыняў за ўдзел у двух акцыях – 25 і 26 сакавіка – судзьдзя Алеся Жарыкава пакарала актывістку **Вікторыю Гром**.

Штраф памерам 30 базавых велічынь судзьдзя Тацяна Жураўкова прысудзіла **актывістцы Ірыне Трацьцяковай**.

Гэтая ж судзьдзя разьбірала справы паводле двух пратаколаў супраць **праваабаронцы Леаніда Сьвеціка**. Той меў пасьведчаньне назіральніка ад РПГА «БХК» і тлумачыў суду, што ня браў удзелу ў акцыях, а толькі назіраў. Яго суд арыштаваў на 15 сутак.

Такі ж самы тэрмін арышту судзьдзя Іна Грабоўская прысудзіла **незалежнаму журналісту Кастусю Мардзьвінцаву**. Працэс над журналістам судзьдзя зрабіла закрытым, не пусьціўшы прысутных у свой габінэт. А на просьбы перайсьці ў залю адказвала: «Мне гэта ня трэба». Ня выправіў сытуацыю і зварот да старшыні суду.

15 сутак арышту актывісту з Гарадка **Леаніду Аўтухову** прысудзіў судзьдзя Ігар Макарэвіч. Ён жа асудзіў на 13-суткавы арышт **Уладзя Камароўскага** — хлопца, які ня мае дачыненьня да ніводнай апазыцыйнай структуры.

На 12 сутак арышту асуджаны **актывіст руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**. Асудзіў актывіста судзьдзя Сяргей Будрэвіч.

Пакараньне 10 суткамі арышту судзьдзя Валянціна Міхасёва прызначыла для **незалежнага журналіста**, жыхара Воршы **Арцёма Сізінцава**. За яго перажывала, мабыць, найбольш прысутных: на суд прыехалі маці і сястра, а таксама некалькі сяб-


Вольга Жураўская

роў.

Усе былі пакараныя за парушэньне артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных праваparушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў). Адметнай рысай усіх судовых працэсаў была адсутнасьць сьведкаў, а доказная база будавалася выключна на відэазапісах.

**28.03.2017, Ворша.** Аршанскі суд пастанавіў аштрафаваць 72-гадовага інваліда, **сябра КХП БНФ Юрыя Конышку** на 5 базавых велічынь за ўдзел у «Маршы недармаедаў» 12 сакавіка.

Раніцай на Конышку склалі пратакол, а ўжо ўдзень асудзілі. Ён прызнае, што быў на маршы, але зьдзіўляецца «позьняму» суду: *«Прыехаў на ровары, бо доўга хадзіць не магу. Чамусьці пра маю прысутнасьць на акцыі згадалі толькі зараз, калі чатыры чалавекі пасьпелі адбыць „суткі“ за тыя падзеі...»*

**30.03.2017, Віцебск. Блогерцы Вользе Жураўскай** так і не ўдалося пераканаць судзьдзю, што яна ня брала ўдзелу ў акцыі 25 сакавіка, а толькі здымала відэа для свайго каналу. Суд пастанавіў пакараць блогерку штрафам у памеры 15 базавых велічынь (345 рублёў).

Папулярная віцебская блогерка мае канал «Здымаць дазволена», дзе разьмяшчае свае відэаролікі. У асноўным яны прысьвечаныя выкрыцьцю парушэньняў у крамах. Пад псэўданімам Алена Сьмірнова блогерка распаўсюджвае свае відэаназіраньні і па сацыяльных сетках.

Апошні ж відэаролік быў прысьвечаны іншай тэматыцы – падзеям падчас сьвяткаваньня Дня Волі ў Віцебску. У ім відаць і шараговыя віцябляне, якія сабраліся на плошчы Перамогі 25 сакавіка, і супрацоўнікі міліцыі – у форме і ў цывільным. Некаторым зь іх відавочна не падабаецца, што іх здымаюць. Тым ня менш блогерка Вольга Жураўская здымала відэа на працягу амаль усёй акцыі – аж пакуль невялікая калёна ўдзельнікаў не прайшла па вуліцы Леніна да помніку Ўладзімеру Караткевічу.

У той дзень прэтэнзіяў да Вольгі Жураўскай ніхто не выказваў. Затрымалі яе толькі 27 сакавіка. Гэта адбылося каля Кастрычніцкага райсуду. Яна прыйшла туды падтрымаць тых, каго міліцыя забрала за акцыі.

У двары стаяў мікрааўтобус, на якім прыехалі АМАПаўцы, выкліканыя судовай аховай. Дагэтуль невядома, хто зь міліцэйскага кіраўніцтва аддаў загад затрымаць блогерку, падпільнаваўшы яе па заканчэньні працэсаў.

Вольгу схапілі, зацягнулі ў мікрааўтобус, завезьлі ў РАУС Кастрычніцкага раёну і


Хрыстафор Жаляпаў

склалі пратакол за парушэньне часткі 1 артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

На парушэньні, дапушчаныя міліцыянтамі падчас затрыманьня ў надта грубай форме, яна падала скаргу ў пракуратуру. Але да судовага працэсу атрымаць адказ не ўдалося.

Справу Вольгі Жураўскай разьбіраў судзьдзя райсуду Кастрычніцкага раёну Ўладзімер Царыкаў, які 27 сакавіка ўжо выносіў штрафы іншым затрыманым за сьвяткаваньне Дня Волі. Працэс пачаўся 28-га, а скончыўся 30 сакавіка.

**04.04.2017, Віцебск.** Выйшаў на волю аршанскі журналіст, пакараны за 25 сакавіка. **Арцёма Сізінцава**, які адбыў 10 сутак за асьвятленьне сьвяткаваньня Дня Волі ў Віцебску, ля дзьвярэй ізалятара часовага ўтрыманьня (ІЧУ) сустрэлі родныя і калегі. Ён стаў першым, хто быў арыштаваны ў Віцебску за ўдзел у акцыях 25 і 26 сакавіка. Аршанскі журналіст быў прызнаны судом Кастрычніцкага раёну вінаватым у парушэньні артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях і адпраўлены адбываць пакараньне ў ІЧУ.

Пасьля сустрэчы з маці і вітаньняў зь сябрамі ды калегамі Арцём падзяліўся сваімі назіраньнямі і набытым досьведам. Найперш калегаў цікавіла, ці быў ён гатовы да такога жорсткага прысуду, і ці зьмяніла часовае абмежаваньне волі яго стаўленьне да прафэсійнай дзейнасьці.

Распавёў Арцём Сізінцаў: *«Цікава, што на відэа, якое зьнялі міліцыянты і якое потым дэманстравалася ў судзе, якраз яскрава бачна, чым я займаюся: стаю з дыктафонам, апытваю людзей, бяру інтэрвію. І суд пры гэтым нахабна гаворыць, што я парушаю грамадзкі парадак і выкрыкваю нейкія лёзунгі, хаця я выконваю свае прафэсійныя абавязкі. Але калі працуеш журналістам у Беларусі, то трэба чакаць, што нешта падобнае можа здарыцца. Трэба спакойна ўсё гэта ўспрымаць, і ўсё будзе нармальна. Тым больш я ведаю, што кожная незалежная справа ў гэтай дзяржаве можа, на жаль, расцэньваецца, як адміністрацыйнае парушэньне. Чаго варта было чакаць, тое і адбылося – нічога дзіўнага. Такога разьвіцьця падзеяў я не выключаў ад пачатку. Кожны раз, наведваючы акцыі, я не выключаю магчымасьці быць затрыманым. Звычайная справа».*

Арцёму ўжо даводзілася бываць «на сутках». Параўноўваючы ўмовы ўтрыманьня вязьняў у аршанскім і віцебскім ізалятары, ён адзначыў, што ў Воршы яны больш цывілізаваныя.

**07.04.2017, Віцебск.** У Віцебску з ізалятара часовага ўтрыманьня выйшаў на волю **сябра руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**. Нягледзячы на тое, што **адвакатка**

**Марына Гарбачова** спрабавала аспрэчыць у судзе вышэйшай інстанцыі рашэньне судзьдзі Кастрычніцкага райсуду Сяргея Будрэвіча, які пакараў віцебскага актывіста 12-цю суткамі арышту за сьвяткаваньне Дня Волі, яму давялося адседзець увесь прызначаны тэрмін.

Дзіўным чынам атрымалася гэтак, што віцебскаму актывісту давялося адбываць свой тэрмін у той самай камэры, дзе ён ужо сядзеў адзінаццаць гадоў таму. Але за дзесяцігодзьдзе, што мінула, умовы ўтрыманьня там не палепшыліся, ніякага рамонту за гэты час не рабілася.

Як сьцьвярджае грамадзкі актывіст, за адзінаццаць гадоў у Віцебскім ІЧУ рэжым утрыманьня зрабіўся яшчэ больш жорсткім, ды, як падаецца, павялічылася колькасьць абслугоўваючага пэрсаналу. З раніцы і да вечару ўсё, як у сапраўднай турме: у камэру заходзяць некалькі наглядчыкаў – рукі на сьцяну, рэчы на перашук. Кінулася ў вочы, што раней у камэру заходзілі два праваахоўнікі, а цяпер ажно чатыры.

Хрыстафор Жаляпаў: *«Найбольш абурае тое, што да грамадзянаў ставяцца, як да зэкаў, хаця ў ІЧУ ўтрымліваюцца звычайныя правапарушальнікі. Паўстае пытаньне: А навошта ствараць такія жорсткія ўмовы абыходжаньня?»*

Па выхадзе на волю актывіст падзякаваў аднадумцам за падтрымку і дасланыя яму паштоўкі з добрымі словамі і зычэньнямі. Ён адзначыў: *«Нягледзячы на тое, што Віцебскі абласны суд падтрымаў рашэньне Кастрычніцкага райсуду, я ўсё адно працягну змаганьне за сваё права на мірную дэманстрацыю і буду аспрэчваць незаконны прысуд тутэйшых судоў, які супярэчыць Канстытуцыі краіны і міжнародным нормам, у Камітэце па правах чалавека ААН».*

**09.04.2017, Віцебск.** З ізалятара часовага ўтрыманьня выйшаў **Леанід Аўтухоў** – першы з пакараных пятнаццацьцю суткамі арышту за сьвяткаваньне Дня Волі. Сябра БНФ і руху «За свабоду» з Гарадка, які быў адным з найактыўнейшых удзельнікаў сьвяточных імпрэзаў 25 сакавіка ў Віцебску, выйшаў на свабоду з глыбокім перакананьнем таго, што наперадзе беларусаў чакаюць перамены.

Па выхадзе з ІЧУ актывіст падзяліўся з журналістамі сваімі думкамі пра суд: *«Дый які суд? Шчыра кажучы, я такога працэсу не чакаў. Суд мне нагадаў судзілішча 37-га году. Усё гэтаксама, як ва ўспамінах вязьняў сталінскага ГУЛагу. Ніякіх табе сьведак, ніякага адваката. Ніводнае хадайніцтва судзьдзём Ігарам Макарэвічам не задаволенае. Ён проста зачытаў паперкі з матэрыялаў справы і абвясьціў вырак – усё! Па сутнасьці, ня даў раскрыць рот: ты – ніхто і зваць цябе ніяк. Прысуд быў вядомы і вынесены загадзя. Але перамога ўжо блізкая! Гэтай уладай людзі не задаволеныя нават у ізалятары часовага ўтрыманьня. Людзям няма, за што жыць, няма, дзе схавацца ад самавольства ўладаў».*

Расказаў Леанід Аўтухоў і пра стаўленьне да яго праваахоўнікаў падчас затрыманьня і зьняволеньня: *«Я заўжды казаў, што супрацоўнікі міліцыі на баку народу, што яны ненавідзяць уладу яшчэ больш за нас. Узяць ІЧУ – у іх адну зьмену скарацілі, цяпер ім даводзіцца працаваць без выходных, то бок аддзяжурыўшы суткі, праз два дні зноў даводзіцца заступаць на суткі. Калі браць пад увагу, што працоўны дзень складае восем гадзінаў, атрымліваецца, што супрацоўнікі пра-*




Кацярына Бахвалава

*цуюць трыццаць дзён у месяц, і за перапрацоўку ніхто ня плаціць. Таму яны ненавідзяць уладу лютай нянавісьцю... Яны таксама пакрыўджаныя, таму я б сказаў, стаўленьне да нас было добрае».*

**10.04.2017, Віцебск.** На волю выйшлі апошнія вязьні, пакараныя 27 сакавіка за мірныя акцыі. Сябры і калегі сустрэлі **праваабаронцу Леаніда Сьвеціка** і **журналіста Кастуся Мардзьвінцава** ля дзьвярэй ізалятара часовага ўтрыманьня. Абодвух затрымалі 26 сакавіка на плошчы Перамогі, абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве і пакаралі 15-цю суткамі адміністрацыйнага арышту.

Кастусь Мардзьвінцаў, не зважаючы на тое, што трапіў на суткі ўпершыню, выйшаў на волю з прыўзьнятым настроем. У адказ на пытаньне пра ўмовы ўтрыманьня ён заявіў з гумарам, што за кратамі было *«супэр!»*, *«кляс!»*, *«як у санаторыі»*, і параіў кожнаму пры нагодзе скарыстацца магчымасьцю, якую шчодра раздае беларуская судовая сыстэма.

Да таго ж ён адзначыў, што ўлады ня ўмеюць удала распараджацца і карыстацца тымі «скарбамі», якія маюць. Ён прапанаваў зазабліваць у Віцебскі ізалятар часовага ўтрыманьня на тэматычныя экскурсіі замежнікаў з Заходняй Эўропы і мець з таго неблагі прыбытак у гарадзкую казну. Кастусь мяркуе, што трапіць з 21-га стагодзьдзя ў сталінска-брэжнеўскі «гадзюшнік» было б для іх нечаканай цікавосткай і мэнтальнай неспадзяванкай.

Леанід Сьвецік назваў умовы ўтрыманьня ў ізалятары зноснымі, хаця ўражаньне ад памяшканьняў, у якіх даводзілася сядзець, досыць цяжкае: была камэра нават без вакна. Сыстэма дае вязьням па мінімуме самае неабходнае.

Спадар Леанід выказаў меркаваньне, што жорсткія прысуды віцебскім праваабаронцам і журналістам, якія былі ня столькі ўдзельнікамі мітынгу, колькі вонкавымі назіральнікамі, сьведчаць, што яны сталі для рэжыму самымі небясьпечнымі асобамі, на якіх пасьля асьвятленьня імі лютаўскіх пратэстаў было аб’яўленае сапраўднае паляваньне як у сталіцы, гэтак і ў правінцыі. Такім чынам улады выявілі сваё сапраўднае стаўленьне да свабоды слова, правоў чалавека і да свабоды ў сфэры інфармацыйнай прасторы. Паводле спадара Сьвецика, напалоханы пагрозай народных забурэньняў, рэжым накінуўся на тых, хто дапамагае грамадзянам бараніць свае правы і даносіць праўду праз незалежныя сродкі масавай інфармацыі.

**12.04.2017, Віцебск.** У абласным судзе **журналістка тэлеканалу Белсат Кацярына Бахвалава** і **карэспандэнтка Радыё Свабода Галіна Абакунчык** спрабавалі абскардзіць рашэньні судзьдзяў суду Аршанскага раёну і гораду Воршы ад 13 сакавіка гэтага году. Прадстаўніцы прэсы былі затрыманыя напярэдадні і аштрафаваныя


Галіна Абакунчык

за асьвятленьне мітынгу і шэсьця недармаедаў у Воршы.

Скаргу Кацярыны Бахвалавай на пастанову суду першай інстанцыі, якім яна была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасьці, разглядала судзьдзя Ірына Смалякова. Аршанскі суд прызнаў журналістку вінаватай у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (анлайн-трансьляцыі ў глябальным сеціве), а таксама ў непадпарадкаваньні законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі падчас выкананьня імі службовых паўнамоцтваў. Згодна з часткай другой артыкулу 22.9 і артыкулу 23.4 КаАП па сукупнасьці інкрымінаваных журналістцы тэлеканалу Белсат правапарушэньняў 13 сакавіка суд пакараў яе штрафам у памеры 30 базавых велічыняў.

У сваёй скарзе ў Віцебскі абласны суд журналістка адзначыла, што з пастановай суду нязгодная, бо яна не адпавядае Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох. Таксама яна выказала меркаваньне, што суд ня высьветліў аб’ектыўны бок высунутых супраць яе абвінавачваньняў.

Разгледзеўшы матэрыялы справы, і, як адзначыла судзьдзя Смалякова, «нікога не заслухаўшы» (журналістка на працэс не зьявілася), суд пастанавіў пакінуць бязь зьменаў рашэньне судзьдзі суду Аршанскага раёну і гораду Воршы ў дачыненьні да Кацярыны Бахвалавай, а яе скаргу – без задавальненьня. Працэс цягнуўся меней за пяць хвілінаў.

Галіна Абакунчык, якую абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве (частка 1 артыкулу 23.34), на працэс прыехала, але ніякія аргумэнты і довады зь яе боку на рашэньне судзьдзі Сьвятланы Івановай не паўплывалі. Судзьдзя палічыла, што прысутнасьць спадарыні Галіны на мітынгу, зафіксаваная на апэратыўным відэа, зьяўляецца дастатковай падставай, каб пакінуць пастанову суду Аршанскага суду бяз зьмяненьня, а скаргу не задаволіць.

Пасьля суду Галіна Абакунчык падзялілася сваімі ўражаньнямі: *«Каб сказаць, што моцна штосьці ўразіла, дык не, бо добра ведаю судовую сыстэму. Тут ня суд працуе, тут працуе загад. Адкуль ён зыходзіць, гэта пытаньне іншае. Мы можам толькі здагадвацца. Свае аргумэнты суд не прыводзіць, ён іх вышуквае ў тых надуманых, беспадстаўных матэрыялах справы, каб хоць за штосьці зачапіцца і пакінуць ранейшае рашэньне ў сіле. У нейкім сэнсе судзьдзяў можна нават пашкадаваць. Гэтыя беззаконьні, што цяпер адбываюцца, ня могуць прайсьці бясьсьледна. Яны застаюцца ў дакумэнтах, душах і лёсах людзей. Тыя структуры, якія мусяць бараніць грамадзянскія правы і законы, груба іх парушаюць, чыняць такое бязладзьдзе. Мне падаецца, гэта вернецца гэтым структурам, і вернецца ня ў лепшым выглядзе».*



Павал Левінаў

**17.04.2017, Віцебск.** Суд над **сябрам Беларускага Хэльсынскага Камітэту Паўлам Левінавым** адбыўся ў судзе Кастрычніцкага раёну. Судзьдзя Іна Грабоўская палічыла доказаным удзел праваабаронцы у несанкцыянаваных акцыях, што прайшлі 25 і 26 сакавіка, і пастанавіла падвергнуць яго спагнаньню ў выглядзе адміністрацыйнага арышту тэрмінам на 15 сутак.

Суд над Левінавым, як і над астатнімі затрыманымі за ўдзел у гэтых акцыях, мусіў адбыцца 27 сакавіка, але ўначы ў ізалятары часовага ўтрыманьня, куды ён быў дастаўлены, яму стала блага, і ён на «хуткай» быў адвезены ў кардыялягічнае аддзяленьне першага гарадзкога шпіталя, дзе ў далейшым праходзіў курс лекаваньня.

На судовым працэсе сам праваабаронца не прысутнічаў, а яго інтарэсы прадстаўляў родны брат Андрэй. На пытаньне судзьдзі, чаму не прыйшоў Павал Левінаў, яго брат растлумачыў, што ў цяперашні момант ён праходзіць курс лекаваньня ў Кіеўскім кардыялягічным цэнтры і таму просіць суд перанесьці паседжаньне, пакуль ён не вернецца. Але судзьдзя адхіліла гэтую просьбу, матывуючы сваё рашэньне тым, што не прадстаўлена пацьвярджальных дакумэнтаў, а вуснага паведамленьня Андрэя не дастаткова, каб лічыць яго за праўду.

На працэс не былі выкліканыя сьведкі, хоць пра гэта прасіў Левінаў, а ўсё абвінавачаньне будавалася толькі на складзеных пратаколах і кароткіх відэазапісах, на якіх відаць, што Павал толькі ходзіць па плошчы і нічога асаблівага ня робіць. Акрамя таго да матэрыялаў справы быў далучаны дакумэнт, зь якога вынікае, што Павал Левінаў быў афіцыйна накіраваны Беларускім Хэльсынскім Камітэтам на згаданыя акцыі з мэтай маніторынгу сытуацыі і фіксаваньня фактаў парушэньня правоў чалавека. На судзе таксама высьвятлілася, што Павал зьяўляецца яшчэ пазаштатным карэспандэнтам «Віцебскага Кур'ера» і быў накіраваны на плошчу па рэдакцыйным заданьні. Таму выснова напрошваецца сама сабой, што ён ня браў удзелу ў масавых акцыях, а толькі выконваў свае службовыя заданьні. Як, напрыклад, і самі міліцыянты, якія прысутнічалі ў вялікай колькасьці на плошчы.

Гэтаксама ў матэрыялах справы былі дасланыя ў суд шматлікія лісты з просьбай спыніць над Паўлам адміністрацыйны працэс. За Паўла заступіліся Беларуская Асацыяцыя Журналістаў, Беларускі Хэльсынскі Камітэт, міжнародныя праваабарончыя арганізацыі і нават простыя грамадзяне Беларусі, якія паставілі свае подпісы пад адпаведным зваротам. Але ўсе гэтыя нюансы не былі ўлічаныя.


Юры Лынша

**20.04.2017, Віцебск.** У Кастрычніцкім райсудзе адбыўся чарговы суд над удзельнікам несанкцыянаванай акцыі ў горадзе. Адметна, што **Юры Лынша**, абвінавачаны ў парушэньні адміністрацыйнага кодэксу, не зьяўляецца жыхаром Віцебску, а прыехаў зь Менску і, паводле яго словаў, у дзень акцыі выпадкова апынуўся ў цэнтры гораду.

Абвінавацілі Юрыя паводле артыкулу 23.34, частцы 2 як арганізатара несанкцыянаванага маршу «недармаедаў», які прайшоў у горадзе 26 лютага і стаў самай масавай народнай акцыяй за ўсю найноўшую гісторыю гораду.

Суд прайшоў бязь сьведак і адваката, а абвінавачаньні будаваліся на відэазапісах і складзеных міліцыянтамі пратаколах. Акрамя звыклай «справы», на стале перад судзьдзёй ляжаў запячатаны скрутак з тоўстай паперы. Як выявілася, гэта быў бел-чырвона-белы сьцяг, які фігураваў як прылада зьдзяйсьненьня праваПарушэньня.

Зыходзячы з матэрыялаў справы вынікала, што на плошчы Перамогі Юры сабраў вакол сябе шмат людзей, а пасьля, арганізаваўшы іх у калёны і трымаючы ў руках на дрэўцы бел-чырвона-белы сьцяг, павёў іх па цэнтры гораду да плошчы Леніна, дзе і правёў мітынг. Акрамя гэтага на ўсім шляху руху ён выкрыкваў лёзунгі: *«Нет декрету номер три! Лукашенко, уходи!»*, *«Хто галоўны дармаед? – Гэта наш прэзыдэнт!»*, *«Жыве Беларусь!»*, *«Баста!»*.

У сваё апраўданьне Юры заявіў, што ён прыехаў у горад у якасьці падарожніка і нікога тут ня знае, а таксама ня ведае самога гораду, таму ён ня мог арганізаваць такую масавую акцыю, нават калі б і захацеў.

У выніку судзьдзя Алеся Жарыкава прыняла рашэньне падвергнуць хлопца пакараньню ў выглядзе 15-ці сутак адміністрацыйнага арышту. Юрыя ўзялі пад варту наўпрост у залі суду. Больш таго, быў вынесены прысуд і самому бел-чырвона-беламу сьцягу: гістарычны сымбаль Беларусі, які судзьдзя назвала палотнішчам, быў «асуджаны» на «зьнішчэньне».

**21.04.2017, Полацак.** Да **праваабаронцы Юрыя Бельскага** дахаты прыйшлі прадстаўнікі органа апекі і папячыцельства Полацкага райвыканкаму. Гэта яшчэ адно наступства прыцягненьня грамадзкіх актывістаў да адміністрацыйнай адказнасьці па надуманых абставінах у пэрыяд грамадзянскіх акцыяў, якія прайшлі ў краіне.

Кантроль з боку органаў апекі за ўмовамі жыцьця дзяцей усіх бацькоў, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасьці за дробнае хуліганства, прадугледжаны дэкрэтам №18 «Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у няўда-


Юры Бельскі

лых сем'ях». Такім чынам, да ўсіх грамадзян, якія маюць непаўналетніх дзяцей, каго суды асудзілі за дробнае хуліганства на падставе прыдуманых абвінавачаньняў міліцыянтаў пра нецэнзурную лаянку, абавязаныя прыйсьці органы апекі.

Прычым праверка ладзіцца, нават калі рашэньне суду яшчэ не набыло моц. Фармальна органы апекі павінны праверыць становішча дзяцей у сям'і. Сем'і грамадзкіх актывістаў, як правіла, пасьпяховыя, і органам апекі такія праверкі прыносяць толькі дадатковыя аб'ёмы працы.

Калі сярод грамадзян, прыцягнутых судом за дробнае хуліганства падчас пратэстаў грамадзкасьці, ёсьць яшчэ і аматары паляваньня, якія маюць зброю, могуць узьнікнуць праблемы з захоўваньнем зброі дома. Законам аб зброі ў Беларусі прадугледжана, што грамадзяне, якія падвяргаліся адміністрацыйнаму спагнаньню за дробнае хуліганства, не маюць права на набыцьцё паляўнічай зброі.

**02.05.2017, Віцебск.** Скаргу **Паўла Левінава** на пастанову судзьдзі Кастрычніцкага суду Іны Грабоўскай ад 17 красавіка разглядала судзьдзя Віцебскага абласнога суду Ірына Смалякова. Згодна з рашэньнем суду першай інстанцыі, праваабаронца прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці на падставе часткі 1 артыкулу 23.34 КаАП за ўдзел у масавых мерапрыемствах 25 і 26 сакавіка ды пакараны 15-цю суткамі арышту.

Паўла Левінава ў абласным судзе прадстаўляў у якасьці абаронцы **Андрэй Левінаў** (родны брат). Суд пачаўся з заявы пра адвод судзьдзі з той нагоды, што ў свой час Павал Левінаў паінфармаваў ДАІ і УУС аблвыканкаму пра парушэньне правілаў дарожнага руху судзьдзёй Ірынай Смаляковай – яна перайшла вуліцу Шубіна паза пешаходным пераходам. Аднак судзьдзя адвод не задаволіла.

Як заявіў Андрэй Левінаў, суд першай інстанцыі не захацеў разьбірацца ў сутнасьці справы, і, як бачна, абласны суд таксама ня хоча гэтага. Ён заявіў, што вымушаны зачытаць скаргу цалкам, з шасьцю дадаткамі. Судзьдзі відавочна гэта не спадабалася, але пярэчыць яна ня стала. «Хочаце зачытваць усё – калі ласка», – адказала яна.

У сваім выступе абаронца засяродзіў увагу на тым, што паводзіны Паўла Левінава падчас прававога маніторынгу цалкам адпавядалі статуту Беларускага Хэльсынскага камітэту і нормам права. Як і патрабуе заканадаўства, ён меў пры сабе накіраваньне арганізацыі для назіраньня за масавым мерапрыемствам у горадзе Віцебску, а таксама пасьведчаньне пазаштатнага карэспандэнта газэты


Андрэй Левінаў

«Віцебскі кур'ер». Яшчэ 15 сакавіка ён паінфармаваў начальніка УУС пра тое, што 25-26 сакавіка будзе праводзіць маніторынг правоў чалавека падчас мірных сходаў, у адказ на што атрымаў ліст з падзякай за актыўную грамадзянскую пазыцыю.

Аргумэнты, што прагучалі, не паўплывалі на канчатковае рашэньне. Выслухаўшы абаронцу – брата Паўла Левінава, які пры канцы свайго выступу заклікаў выправіць прававы промах суду ніжэйшай інстанцыі, судзьдзя Смалякова пастанавіла: *«Залічыць у тэрмін адміністрацыйнага арышту, прызначанага Паўлу Левінаву, час ягонага затрыманьня 26 сакавіка з 13 гадзінаў 10 хвілінаў да 23 гадзінаў 30 хвілінаў. У астатняй частцы пастанову суду Кастрычніцкага раёну пакінуць бязь зьменаў, а скаргу без задавальненьня».*

**05.05.2017, Сеньненскі раён.** Віцебскі праваабаронца, **прадстаўнік РПГА "Беларускі Хэльсынскі камітэт" па Віцебскай вобласьці Павал Левінаў** быў затрыманы ў вёсцы Нярэйша ў доме брата Андрэя. Здарэньне адбылося ўвечары.

Як патлумачылі прадстаўнікі праваахоўных органаў, затрыманьне ўчыненае на загад вышэйшага начальства з мэтай зьмяшчэньня праваабаронцы ў ІЧУ УУС па Віцебскай вобласьці для адбыцьця адміністрацыйнага арышту.

Спадар Левінаў патэлефанаваў калегам і паведаміў, што пры арышце да яго не ўжываліся спэцсродкі ці сілавыя прыёмы. Падчас затрыманьня ён не аказваў супраціву супрацоўнікам міліцыі. Стан пры гэтым у яго пагоршыўся, па ўсіх прыкметах падвысіўся ціск. Апроч таго, на 10 траўня лекары прызначылі Левінаву шпіталізацыю, а на наступны дзень павінна быць праведзеная тэрміновая хірургічная апэрацыя.

Праваабаронцу адвезьлі ў г. п. Багушэўск, дзе на яго склалі пратакол затрыманьня, і па прыбыцьці міліцыі зь Віцебску ён быў дастаўлены ў абласны цэнтар для адбыцьця пакараньня.

**06.05.2017, Віцебск. Праваабаронцу Паўла Левінава** адвезьлі ў шпіталь з турэмнага ізалятару. Распавёў брат Паўла, **Андрэй Левінаў**: «Брата прывезьлі ў ІЧУ, ён паказаў накіраваньне на шпіталізацыю, і дзяжурныя супрацоўнікі адмовіліся браць на сябе адказнасьць за ягонае здароўе. Выклікалі хуткую дапамогу, і каля 1-й ночы Паўла адвезьлі ў шпіталь — дарэчы, у той самы, куды ён трапіў паўтара месяца таму. Паклалі ў кардыялягічнае аддзяленьне».

Паводле праваабаронцы, уночы яму паставілі кропельніцу, і ягонае самаадчуваньне палепшылася.


Вікторыя Гром

**19.05.2017, Віцебск.** У абласным судзе жыхарка Віцебску **Вікторыя Гром** спрабавала абскардзіць рашэньне суду Кастрычніцкага раёну ад 27 сакавіка гэтага году, згодна зь якім за ўдзел у акцыях 25 і 26 сакавіка яна была прысуджаная да штрафу ў 30 базавых велічыняў.

Скаргу на пастанову суду першай інстанцыі разглядала судзьдзя Сьвятлана Іванова. Судзьдзю аблсуду асабліва цікавіла пытаньне, што Вікторыя рабіла на плошчы падчас акцыі. Высьветлілася, што яна на плошчы Перамогі у Дзень Волі ня проста стаяла, але і адважылася даць інтэрвію дзяржаўнаму тэлебачаньню СТВ.

*«Я падумала, што калі дзяржаўнае тэлебачаньне бярэ інтэрвію ў людзей на плошчы, то і праблем не павінна ўзьнікнуць. І пагадзілася пагутарыць з журналістамі»*, – апраўдвала сваю адвагу Вікторыя Гром.

Таксама яна паскардзілася на тое, што судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Жарыкава, прымаючы рашэньне, ня зважыла на яе цяжкае фінансавае становішча: *«690 рублёў – гэта тры мае месячныя аклады! Я ў разводзе і выхоўваю маленькае дзіця. Адкуль я вазьму такія грошы?»* На што судзьдзя Іванова адказала: *«Вы можаце папрасіць, каб вам далі растэрміноўку».*

Выслухаўшы ўсе довады Вікторыі, судзьдзя пастанавіла пакінуць бязь зьменаў рашэньне судзьдзі Жарыкавай, а скаргу – без задавальненьня.

**22.05.2017, Віцебск.** Судзьдзя Кастрычніцкага раённага суду Алеся Жарыкава прызнала **журналіста тэлеканалу «Белсат» Сяргея Русецкага** вінаватым у вырабе і распаўсюдзе інфармацыі без акрэдытацыі.

Судзьдзя не задаволіла ані хадайніцтва пра тое, каб працэс вёўся па-беларуску, ані просьбу, каб у мэтах эканоміі працэсуальнага часу адразу была выдадзеная яму копія загадзя падрыхтаванага рашэньня па справе. У выніку ўсе неабходныя працэсуальныя фармальнасьці былі выкананыя ў поўным аб'ёме.

Згодна з пратаколам, складзеным супрацоўнікам Кастрычніцкага райаддзелу міліцыі Сяргеем Вяраксам, Сяргею Русецкаму ставіўся ў віну той факт, што 25 сакавіка ў пэрыяд часу з 12:30 да 13:30, не зьяўляючыся акрэдытаваным журналістам незарэгістраванага ў Беларусі замежнага інфармацыйнага агенцтва, ён вырабіў і распаўсюдзіў у сеціве прадукт СМІ, які тычыўся несанкцыянаванага масавага мерапрыемства ў горадзе Віцебску. Гэткім чынам, на думку міліцыянта, у дзеяньнях журналіста прысутнічае склад адміністрацыйнага правапарушэньня, прадугледжанага часткай 2 артыкулу 22.9 (выраб без акрэдытацыі Міністэрства замежных справаў прадукцыі СМІ для замежнага сродку масавай інфармацыі (тэле-



Сяргей Русецкі

каналу «Белсат»).

У судзе Сяргей Русецкі віны сваёй не прызнаў і патлумачыў, чаму ня згодзен з высновамі капітана Вяраксы. Сваёй сувязі з тэлеканалам «Белсат» журналіст не адмовіў, але, паводле яго словаў, міліцыянт ніякім чынам ня здолеў даказаць факту вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ.

Сяргей Русецкі, па-першае, спаслаўся на тое, што згодна з законам аб сродках масавай інфармацыі распаўсюджваць прадукцыю СМІ маюць права рэдакцыі і юрыдычныя асобы, на якіх ускладзены функцыі рэдакцыі СМІ. Таму не зразумела, як да фізычнай асобы можа прымяняцца гэты склад правапарушэньня.

Другі аспэкт, на які журналіст зважыў, матэрыял, які ён зьбіраў, ня трапіў у этэр тэлеканалу «Белсат» 25 сакавіка. Такім чынам, на думку Сяргея Русецкага, у ягоных дзеяньнях наогул адсутнічае склад адміністрацыйнага правапарушэньня.

Не прамінуў адзначыць ён і тую акалічнасьць, што палажэньні закону аб сродках масавай інфармацыі супярэчаць Канстытуцыі і міжнародным прававым актам. Гэткім чынам яны носяць дыскрымінацыйны характар, а шмат якія нормы прыдуманыя выключна дзеля перасьледу іншадумства і задушэньня свабоды слова.

*«Асноўная мая аргумэнтацыя па-сутнасьці справы палягае ў тым, што міліцыя, якая распачала адміністрацыйны працэс у дачыненьні да мяне, не знайшла належных доказаў таго, што дзьве прыкметы (выраб і распаўсюд) мелі месца 25 сакавіка. За час маёй супрацы з тэлеканалам «Белсат» былі зробленыя сотні матэрыялаў, але ніводзін зь іх ня стаў падставай для прыцягненьні мяне да адказнасьці. І ў той час, калі ніякіх матэрыялаў 25 сакавіка на «Белсаце» не было, мяне прыцягваюць да адказнасьці за намер зрабіць сюжэт. Але сюжэту няма! За што судзіць? Незразумела!»* – адзначыў журналіст.

Паводле ягоных словаў, матэрыял ён зьбіраў, але факту распаўсюду інфармацыі не было, бо ў той дзень найгалоўнейшымі былі падзеі, што адбываліся ў Менску.

Вывучыўшы матэрыялы справы, судзьдзя Алеся Жарыкава пастанавіла прызнаць факт адміністрацыйнага правапарушэньня доказаным ды аштрафавала журналіста «Белсату» на 20 базавых велічыняў (460 рублёў).

**31.05.2017, Віцебск. Праваабаронца Павал Левінаў** накіраваўся ў ізалятар часовага ўтрыманьня, каб адбыць 15-суткавы арышт, прысуджаны яму нібыта за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях 25 і 26 сакавіка.

З таго часу міліцыянты рабілі некалькі спробаў, каб зьмясьціць Левінава за краты. 26 сакавіка, адразу па затрыманьні, яго завезьлі ў ІЧУ, аднак праз некалькі гадзі-

наў ён трапіў на «хуткай дапамозе» ў шпіталь. Праблемы зь ціскам сталі падставай і для адтэрміноўкі судовага працэсу над праваабаронцам. Толькі 17 красавіка, прычым у адсутнасьць самога Левінава, судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Іна Грабоўская пастанавіла пакараць праваабаронцу арыштам.

Пакуль Павал Левінаў праходзіў лячэньне ў розных мэдычных установах, на разглядзе ў абласным упраўленьні міліцыі знаходзілася заява праваабаронцы. Ён расказаў, што хадайнічаў пра адмену пакараньня арыштам:

*«Існуе такая працэдура, што судовая пастанова можа быць адмененая ці пакараньне заменена на больш мяккае, калі для гэтага ёсьць дастатковыя падставы. Я прасіў, каб міліцыя накіравала ў суд хадайніцтва пра адмену арышту, спасылаючыся на кепскі стан здароўя. Аднак у абласной управе палічылі немэтазгодным тое, пра што я прасіў».*

Павал Левінаў адправіўся адбываць «суткі», узяўшы з сабой накіраваньне ад РПГА «БХК» пра тое, што ён упаўнаважаны вывучаць умовы ўтрыманьня ў ІЧУ *«з мэтай даваньня адпаведным дзяржаўным органам і грамадзкасьці аб'ектыўнай ацэнкі ўмоваў адбываньня адміністрацыйнага арышту».*

Праваабаронца заявіў, што зьбіраецца пракантраляваць, ці не парушаюцца правы ўтрыманцаў ІЧУ што да атрыманьня пошты, харчовых перадач, сустрэч з адвакатамі і гэтак далей. А таксама для кантролю санітарных і іншых нормаў утрыманьня ў віцебскім ІЧУ.

**14.06.2017, Віцебск.** Завяршыўся 15-сутачны адміністрацыйны арышт **Паўла Левінава**. Праваабаронца выйшаў на волю зь Віцебскага ізалятара часовага ўтрыманьня. Перад сваёй ізаляцыяй ён заявіў, што скарыстаецца дадзенай яму магчымасьцю і правядзе маніторынг умоваў утрыманьня ў ІЧУ. Сваё слова праваабаронца стрымаў і па выхадзе падзяліўся з журналістамі і аднадумцамі сваімі назіраньнямі і высновамі.

Як ён адзначыў, умовы ўтрыманьня ў параўнаньні з 2008 годам, калі ён быў там апошні раз, палепшыліся. Але толькі ў тым сэнсе, што ўдалося, дзякуючы праваабаронцам, замацаваць заканадаўча атрыманьне прадуктовых перадач і магчымасьць мець у камэры наручны гадзіньнік.

Адказваючы на пытаньне аднаго з журналістаў, Павал Левінаў заявіў: *«Гэтыя адседкі загартоўваюць. Калі ўлада думае, што яна нейкім чынам змусіць нас адмовіцца ад нашых перакананьняў – а мы нічога супрацьпраўнага ня робім – то яна памыляецца. Наогул, пасьля маіх апошніх развагаў я прыйшоў да перакананьня, што ІЧУ – гэта анахранізм. Ён не дае аніякай карысьці, а толькі шкоду як дзяржаве, так і яе грамадзянам. Ён не выпраўляе, а толькі азлабляе людзей. Ёсьць такія асобы, што знаходзяцца ў ягоных сьценах больш, чым на волі. У такім выпадку губляецца сам сэнс гэтай установы: выйшаў – і зноў сюды. Першы крок, які я зраблю, будзе хадайніцтва аб перадачы гэтай установы ў ведамства цывільнага міністэрства: міністэрства юстыцыі, міністэрства працы ці яшчэ якога-небудзь іншага, але ніяк ня МУС».*

## Дадатак 1. Павал Левінаў. Маніторынг майго ўтрыманьня ў ІЧУ

# МОНИТОРИНГ УСЛОВИЙ МОЕГО СОДЕРЖАНИЯ В ИВС ПРИ УВД ВИТЕБСКОГО ОБЛИСПОЛКОМА

## Пролог

В соответствии с Уставом Республиканского правозащитного общественного объединения «Белорусский Хельсинкский Комитет» и согласно направлению-заданию от 24 марта 2017 исх.№01/14-18, выданного общественным объединением, осуществлял 25-26 марта 2017 наблюдение за массовыми мероприятиями в городе Витебске.

Находился на массовых мероприятиях 25-26 марта 2017, в том числе, как журналист газеты «Витебский курьер», выполняя задание редакции по сбору и предоставлению информации редакции. При себе имел удостоверение внештатного корреспондента газеты «Витебский Курьер».

На массовом мероприятии 26 марта 2017 был задержан и доставлен в отдел внутренних дел администрации Октябрьского района г.Витебска (ОВД).

В отношении меня сотрудником милиции ОВД Слёзкиным А.Н. были составлены протоколы об административном правонарушении, ответственность за которое установлена частью 1 статьи 23.34. Кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях.

Согласно протоколам, мне вменялось в вину участие 25-26 марта 2017 в массовых мероприятиях в г.Витебске.

Заместителем начальника ОВД подполковником милиции Захаренковым А.В., вопреки положению статьи 9 Международного пакта о гражданских и политических правах, было принято решение задержать меня до суда.

В ночь с 26 на 27 марта 2017 был доставлен в ИВС при УВД Витоблисполкома (далее — ИВС), инспектор-дежурный ИВС майор милиции Радецкий Д.Б. отказался принимать меня без справки медучреждения о возможности моего нахождения под стражей. Прибывшая бригада скорой неотложной помощи доставила меня в лечебное учреждение, где был принят для прохождения стационарного лечения (гипертонический криз).

Судья суда Октябрьского района г.Витебска Грабовская И.В. 17 апреля 2017 в мое отсутствие (нахождение на обследовании в медучреждении), не удовлетворив письменное ходатайство о вызове защитника, с которым имелось заключенное соглашение, постановила подвергнуть меня административному аресту сроком на 15 суток.

Судья Витебского областного суда Смолякова И.В. 28 апреля 2017 оснований для отмены взыскания не нашла.

Судья суда Октябрьского района г.Витебска Грабовская И.В. 17 апреля 2017 вынесла 04 мая 2017 постановление об отказе в удовлетворении ходатайства о рассрочке административного ареста.

05 мая 2017 был повторно задержан в 75 км от места постоянного жительства — в Сенненском районе, где восстанавливал пошатнувшееся здоровье и доставлен в ИВС. Тот же инспектор-дежурный вновь отказался принимать меня без справки медучреждения о возможности моего нахождения под стражей. Прибывшая бригада скорой неотложной помощи доставила меня в лечебное учреждение, где был принят для прохождения стационарного лечения (гипертонический криз).

УВД Витоблисполкома и МВД Республики Беларусь отказались направить в суд Октябрьского района г.Витебска ходатайство об освобождении меня от административного взыскания или замене на более мягкое вследствие заболевания.

31 мая 2017 в 08.00 часов был задержан и доставлен в ИВС, где содержался с 08.50 часов 31 мая 2017 по 15.10 часов 14 июня 2017.

При всех задержаниях и доставлениях в ИВС физическая сила или спецсредства не применялись, человеческое достоинство не унижалось.

## Условия содержания в ИВС

**Что собой представляет**

ИВС — отдельно стоящее трехэтажное здание, расположенное в доме 59А по Московскому проспекту г.Витебска. На первом этаже располагается специализированный изолятор (медвытрезвитель), на втором-третьем этаже - непосредственно ИВС. На третьем этаже камеры с №1 по 16, на втором — с 17 по 30. На третьем этаже размещаются лица, задержанные в порядке УПК Республики Беларусь и административно задержанные, и административно арестованные. На втором этаже размещаются только административно задержанные и административно арестованные лица.

**Оформление**

Инспектор-дежурный ИВС майор милиции Сочнев А.Н. внимательно изучил пакет документов, дающих основание на мое содержание в ИВС, произвел опись вещей, не подлежащих нахождению в камере, поинтересовался состоянием здоровья, после чего распорядился препроводить меня в камеру. При этом права и обязанности не разъяснялись, ознакомиться с ними на информационном

стенде не предлагалось, в письменном виде они также представлены не были. До помещения в камеру передал начальнику ИВС сопроводительное письмо с направлением-заданием РПОО «БХК» о проведении мониторинга ИВС (приложение №1).

**Камера**

Содержался один в двухместной камере №26 площадью 12 м$^2$ (длина 4м, ширина 3м) и высотой 3,2 м. Камера оборудована одноярусными нарами, деревянным столом, тумбочкой, настенной вешалкой на 5 крючков, унитазом без сливного бачка, умывальником с холодной водой. Стены отделаны «шубой». Камера оборудована системой видеонаблюдения.

**Постельные принадлежности**

В камеру были выданы ватный матрас, полушерстяное одеяло, ватная подушка. Вата в матрасе и подушке сбита в комки. Одеяло штопанное-перештопанное. Постельные принадлежности были предложены к выдаче, но от получения отказался так как имел при себе домашние постельные принадлежности. Ватные комки в матрасе и подушке расправить невозможно. После лежания на таком матрасе и подушке все тело разбито. Замена постельных принадлежностей (простынь-2, наволочка и полотенце-2) была осуществлена на 9-е сутки. Белье чистое, не застиранное.

**Освещение**

В камере имелось окно размером 1,5м на 1,2м, но естественный свет пропускало слабо, так как застеклено рифленым металлизированным цветным стеклом. Камера круглосуточно освещалась двумя яркими светильниками, при которых комфортно было читать и писать в любое время суток. А вот спать, когда два фонаря светят в лицо, не только не комфортно, но и вредно для здоровья. Свет ночью не дает вырабатываться гормону мелатонину, который, в том числе, нормализует артериальное давление и предохраняет ДНК от повреждений. Ночное освещение нарушает биоритмы, что может привести к развитию онкологических заболеваний.

**Температурный режим и вентиляция**

Температурный режим днем для меня был комфортным, однако ночью приходилось спать в одежде. Вентиляция в камере отсутствует, за исключением нескольких отверстий в стене между камерой и коридором. Свежего воздуха не хватало.

**Санитарные условия**

Санитарный узел не имел сливного бачка. Вместо него к унитазу была подведена водопроводная труба. Для ее использования необходимо было открыть вентиль. Для чего нужно было опустить лицо на расстояние 20-25 см от унитаза. Сам вентиль при открытии давал течь. Напора воды, чтобы смыть кал, не хватало. Приходилось проталкивать его рукой, после чего он продолжал плавать в воде. Унитаз не оборудован сиденьем и крышкой, ни разу не дезинфицировался. В камере постоянно стоял зловонный запах фекалий и мочи. Санитарный узел находится в поле зрения видеокамеры.

Умывальник оборудован краном с холодной водой. Рядом с умывальником нет полочки для хранения средств гигиены.

Средства для чистки и дезинфекции унитаза и умывальника не выдавались. Средства личной гигиены выдали сполна. Туалетной бумаги на 79,5 суток, хозяйственного мыла на 30 суток, туалетного мыла на 39 суток.

Принять душ позволили лишь на 10-е сутки. Вода в душе автоматически менялась с горячей на холодную, с холодной на горячую и т.д. Времени на помывку хватало. Санитарное состояние душа неудовлетворительное.

Несмотря на наличие в полу камеры щелей, грызуны замечены не были, а вот комары атаковали, особенно ночью.

**Питание**

Раздача еды трехразовая. Питание однообразное, безвкусное.

Завтрак: каша, котлета, белый хлеб. Обед: суп на водном бульоне, каша, котлета, чай, черный хлеб. Ужин: каша, чай (приложение №2).

Стоимость питания в размере 11 рублей 50 копеек в сутки не соответствует количеству и качеству пищи

Четырехразовое питание стационарных больных в учреждениях здравоохранения обходится государству менее 3-х рублей в сутки (Приложение №3).

За месяц пребывая в ИВС стоимость питания составляет в 350 рублей, что более чем в 1,9 раза больше бюджета прожиточного минимума (Приложение №4).

Пища доставляется из кафе «Белая Русь» ОАО «Витебский ликероводочный завод «Придвинье» сотрудниками ИВС. Пища перевозится на служебном автомобиле, который не соответствует санитарным нормам и правилам. Первые блюда и гарниры перевозятсчя в термосах, нарезанный хлеб - в мешках. Поднос с котлетами и мешок с хлебом ставится на пол служебного автомобиля. В будние дни пища раздается кухонным работником, в выходные дни сотрудниками

милиции ИВС. Раздача производится следующим образом: открывается дверца «кормушки», на нее кладется алюминиевая ложка и хлеб, черпаком из термоса в алюминиевую тарелку наливается суп, дверца «кормушки» закрывается, второе блюдо через некоторый промежуток времени накладывается в ту же тарелку, которая должна быть пустой (объедки предложено спускать в унитаз), черпаком из термоса в тарелку накладывается каша и рукой кладущего котлета, в алюминиевой кружке без ручки выдается чай. Посуду требуют вернуть вымытой. В будние дни посуду домывал кухонный работник, в выходные — лицо, ожидающее депортации. Медиками установлено, что использование алюминиевой посуды наносит вред здоровью человека, вплоть до возникновения онкологических заболеваний. Используемая посуда еще с советских времен. На кружках выбита их стоимость: 40 коп. Посуда деформирована, имеет нацарапанные на ней надписи.

По медицинским показаниям временные промежутки между приемами пищи в дневное время должны составлять 4-5 часов, в ночное — не более 10-11 часов; принимать пищу ранее, чем через 2 часа после предыдущей еды, нецелесообразно. Согласно правилам внутреннего распорядка, интервал между завтраком и обедом составляет 5 часов, между обедом и ужином - 4 часа, между ужином и завтраком — 15 часов. Вместе с тем, обед начинал раздаваться после 14.30 часов (12 июня 2017 в 15.30), а ужин — в 17.00. Ужин всегда был чуть теплый и раздавался через 02.30 часа (12 июня 2017 через 01.30 час) после раздачи обеда.

Бачок с питьевой водой отсутствовал, питьевая вода в камеру не подавалась.

**Возможность общения с защитником**

01 июня 2017 после 15-секундного первого общения с защитником (близким родственником) встреча без объяснения причины была прервана. 02 июня 2017 препятствий для встречи с защитником (адвокатом) не возникло. После подачи 02 июня 2017 жалобы в суд на действия должностного лица инспектора-дежурного тогда еще капитана (ныне уже майора) милиции Комарова Д.В., которыми нарушено мое право на получение правой помощи, препятствий по количеству и времени общения с защитником (близким родственником) не возникало. Помещение для встречи просторное, оборудовано столами и сидячими местами, освещения достаточно. Встречи проходят с виду конфиденциально. В помещении отсутствуют посторонние лица. Помещение находится под видеонаблюдением. О наличии (отсутствии) аудиофиксации таких встреч информация отсутствует.

**Право на участие в судебном заседании**

Не смотря на наличие права принимать участие в суде второй инстанции, реализовать его невозможно, так как ИВС отказывает в реализации этого права, ссылаясь на пояснения суда о том, что для него явка сторон не является обязательной.

**Медицинское обслуживание**

В ИВС имеется фельдшер. В неделе 168 часов, а фельдшер находится в ИВС не более 40 часов. В эти 40 часов имеется возможность посетить фельдшера, который может померить температуру, давление и оказать необходимую помощь. В остальные 128 часов помощь может быть оказана бригадами скорой неотложной помощи. Обратившись во время отсутствия фельдшера к инспектору-дежурному за таблеткой для снижения артериального давления, получил пояснения, что такие таблетки в аптечке отсутствуют и было предложено вызвать бригаду скорой неотложной помощи. Ежедневно (в рабочие дни) фельдшером измерялось мое артериальное давление. В выходные дни и вечернее время измерить давление некому.

**Возможность прогулок на свежем воздухе**

Прогулки предоставлялись ежедневно часовой продолжительности. Прогулочные «дворики» представляют собой помещения на втором этаже здания размером один - 6м на 4м, второй - 3м на 4м, в которых в оконных проемах вместо окон установлены металлические решетки. Стены «двориков» одеты в «шубу», пол цементный. Скамейки отсутствуют. По «дворикам» гуляет сквозняк. Приходилось ходить и дышать цементной пылью. Солнечные лучи в помещение «двориков» не проникали.

**Возможность исповедовать религию**

На законодательном уровне не предусмотрено общение с представителем исповедуемой религиозной конфессии. Разрешили иметь икону. Нательные религиозные культы из драгоценных металлов иметь не допускается. Учитывая, что камера постоянно находится под видеоконтролем, невозможно сохранить религиозный обряд в тайне.

**Предоставление телефонных разговоров, отправление и получение корреспонденции**

Отказов в предоставлении телефонных разговоров не было. Имел такую возможность ежедневно.

С отправлением и получением корреспонденции проблем не возникло. ИВС отправил мое индивидуальное сообщение в Комитет

ООН по правам человека, жалобу в прокуратуру и суд на нарушение моего права на получение правовой помощи. Полагаю, что вся (более 70) направленная мне корреспонденция была вручена. Корреспонденция, поступившая после моего освобождения, возвращалась с приложением справки о моем убытии из ИВС. Получать и отправлять корреспонденцию посредством электронной почты был лишен.

**Право на пенсионное обеспечение и распоряжение денежными средствами.**

Было отказано в праве получить пенсию и распорядиться ей. По этой причине не смог оплатить госпошлиной жалобу в суд на действия инспектора-дежурного, который нарушил мое право на получение правовой помощи. Невозможно производить оплату отправки писем, телеграмм, телефонных разговоров, госпошлин и т. д. при помощи банковской карточки.

**Получение передач**

Все передачи, за исключением одной были приняты и вручены мне. Злополучная передача была первой от не близкого родственника. Затем передачи принимались как от близких родственников, так и других людей. Продукты питания передавались разрезанными на части. При чем, фрукты, овощи, мясные и молочные продукты резались на одной разделочной доске, одним ножом, без использования разовых перчаток, что может привести к возникновению различных кишечных инфекций.

Нарезанные фрукты и овощи окислялись, темнели, размягчались либо высыхали, терялись их вкусовые качества, витамины; сильно сокращался срок хранения. Более того, нарубленные таким образом, обезображенные продукты крайне неприятно употреблять из-за их внешнего вида. Мясные продукты и сыр высыхали, покрывались темным слоем, в составе данных продуктов появлялась патогенная микрофлора. Сроки хранения и употребление этих продуктов минимизировались.

Инспектор-дежурный Радецкий Д.Б. не владел ситуацией, что согласно приложению 2 к Правилам внутреннего распорядка мест отбывания административного ареста, утвержденных постановлением МВД Республики Беларусь 20 октября 2015 №313 административно арестованному разрешается иметь в камере часы, которые мне передали с воли, так свои часы в свое время отправил политзаключенному М.Жемчужному. После непродолжительного разбирательства часы мне выдали. Наличие часов позволяет соблюдать распорядок дня и

отслеживать его соблюдение сотрудниками ИВС.

**Выдача настольных игр, пользование библиотекой, телевизором, радио**

Несмотря на то, что находился в камере один, были выданы шашки. Возможности просматривать телепередачи не было. Радиоточка работала с 6.00 до 22.00 часов. Сделать ее тише или выключить было невозможно. Как таковая библиотека в ИВС отсутствует. Мне не смогли предоставить каталог имеющихся книг. Книги выбираешь не ты, а выбирают тебе. «Библиотека» формируется из оставленных книг. Так, мне принесли на прочтение книгу Ивлина Во «Офицеры и Джентельмены», которую на память о 4-х проведенных в ИВС сутках оставил некто Виктор. Книга начинается с 15-ой страницы и заканчивается 604-й (далеко не последней), отсутствуют в ней страницы с 377 по 384, с 464 по 470 и т. д. Книга Ирвина Шоу с произведениями «Ночной портье» и «Вечер в Византии» имеет похожее состояние.

**Обращение сотрудников**

Обращались ко мне по имени отчеству. Какого-либо предвзятого обращения не чувствовал. Отказов в личном приеме начальником ИВС не получал. При просьбе предоставить возможность побриться, кроме бритвенных принадлежностей, находящихся в камере хранения, была предоставлена возможность воспользоваться горячей водой и зеркалом. Передачи и письма передавались в день их получения (за исключением выходных дней).

Был свидетелем такого разговора. Из камеры напротив (№22 или №23) 04 июня 2017 раздалось требование к сотруднику ИВС: «Ты б..дь, с..ка, дай позвонить!», на что требовавший получил ответ: «Успокойтесь, пожалуйста, вам звонок не положен. Ведите себя прилично!».

Слышал и другие выражения: «Хочешь в тридцатую хату? Так я тебе устрою!». Камера (хата) №30 — камера со «сценой». Во время моего нахождения в ИВС в ней были установлены две металлические кровати.

**Иное**

Согласно приложения к приказу УВД Витоблисполкома от 21.03.2017 №123 (приложение №5) с 06.00 часов до 22.00 спать, лежать на спальных местах, пользоваться спальными принадлежностями запрещено. Ввиду отсутствия стульев (скамеек) в камере местом для сидения являются нары, которые по периметру обрамлены металлической полосой и возвышаются над уровнем пола на 65 см. При

сидении на них ноги до пола не достают, а потому более 10 минут сидеть на них не получалось, так как ноги выше колена пережимаются металлической полосой и отекают. Неудобно было пользоваться столом сидя на нарах, так как высота стола только на 10 см больше высоты нар. Пока по состоянию здоровья фельдшер не установил постельный режим, приходилось сидеть на полу.

Дважды в сутки проходил обыск камеры. Что ищут не говорят, после обыска приходится наводить порядок в камере. Обыск камеры производится в отсутствие постояльцев, которые в это время подвергаются личному обыску на коридоре. При этом, личный обыск женщин осуществляют сотрудники мужского пола. После указанных процедур можно заявить жалобы и ходатайства. Такого права лишены иностранцы-депортанты, не владеющие государственными языками Беларуси, так как переводчик им не предоставляется.

Надзирающий прокурор помощник прокурора города Витебска В.Полуянчик при посещении ИВС по вопросу жестокого бесчеловечного обращения посетовал на отсутствие в бюджете денежных средств и зарубежного финансирования.

**Вывод:**

Нахождение в течение 15 суток в помещении, где стены в «шубе», где унитаз не огорожен, не имеет сливного бачка, сиденья и крышки, где не имеется вентиляции, где постоянно стоит запах фекалий и мочи, где круглосуточно горит яркое освещение, где невозможно отключить радиоточку, где заедают насекомые, где пища не соответствует санитарным нормам, раздается лицами, не имеющими санитарной книжки, доставляется с нарушением элементарных санитарных норм, где нет возможности принять душ раз в семь дней есть ни что иное как жестокое бесчеловечное обращение по смыслу статьи 7 Международного пакта о гражданских и политических правах.

**Эпилог**

*«Тех[1], кто наградил нас «Соловками»[2],*
*Прошу: заезжайте сюда сами!*
*Посидите здесь денечков пять,*
*Будете с восторгом вспоминать!»*

[1] Судья суда Октябрьского района г.Витебска Грабовская И.В., судья Витебского областного суда Смолякова И.В., председатель Витебского областного суда Хамичёнок Н.Н.
[2] ИВС при УВД Витоблисполкома

Павел ЛЕВИНОВ

**Приложение №1**

РЭСПУБЛІКАНСКАЕ ПРАВААБАРОНЧАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ
**"БЕЛАРУСКІ ХЕЛЬСІНКСКІ КАМІТЭТ"**
вул. К. Лібкнехта 68, офіс 1201, г.Мінск, 220036
тэл./факс: (+375-17) 222 48 01, тэл.: 222 48 00;
E-mail: office@belhelcom.org, http:// belhelcom.org
р/с 3015741569017 аддзяленне №539 ААТ "Белінвестбанк" код 739
АКПА: 37389978 УНП: 101052141




РЕСПУБЛИКАНСКОЕ ПРАВОЗАЩИТНОЕ ОБЩЕСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ
**"БЕЛОРУССКИЙ ХЕЛЬСИНКСКИЙ КОМИТЕТ"**
ул. К. Либкнехта 68, офис 1201, г.Минск, 220036
тел./факс: (+375-17) 222 48 01, тел.: 222 48 00;
E-mail: office@belhelcom.org, http:// belhelcom.org
р/с 3015741569017 отделение №539 ОАО "Белинвестбанк" код 739
ОКПО: 37389978 УНН: 101052141

Исх. № 07-14/31 от 20.04.2017

## НАПРАВЛЕНИЕ-ЗАДАНИЕ

РПОО «Белорусский Хельсинкский Комитет» (далее – БХК) в соответствии с Уставом (п. 2.3) и действующим законодательством осуществляет мониторинг соблюдения прав человека на территории Республики Беларусь.

Одной из форм мониторинга является наблюдение за соблюдением законодательства об условиях содержания граждан в местах принудительного содержания. Его целью является предоставление соответствующим государственным органам и общественности объективной оценки условий отбывания административного ареста в местах принудительного содержания для их приведения в соответствие с международными обязательствами Республики Беларусь.

Для реализации данных уставных функций в ИВС при УВД Витебского облисполкома направляется член Рады БХК Левинов Павел Исаакович, представитель БХК в Витебском регионе, которому разъяснен порядок и методология проведения мониторинга.

После завершения мониторинга необходимо представить Отчет с объективным и беспристрстным отражением условий отбывания административного ареста.




Председатель О.Н. Гулак

**Приложение №2**

**МЕНЮ**

| Дата | Завтрак | Обед | Ужин | Стоимость |
|---|---|---|---|---|
| 31.05 | – | Вода с капустой, каша, котлета, чай, черный хлеб | Каша, чай | 11 руб. 50 коп |
| 01.06 | Каша, котлета, белый хлеб | Вода с перловкой и картошкой, каша гречневая, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 02.06 | Каша овсяная, котлета, белый хлеб | Вода с капустой, каша пшённая, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 03.06 | Каша пшённая, котлета, белый хлеб | Вода с капустой и картошкой, каша гречневая, котлета, чай, черный хлеб | Каша перловая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 04.06 | Каша, котлета, белый хлеб | Вода с перловкой и картошкой, каша сечка, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 05.06 | Каша, котлета, белый хлеб | Вода с макаронами и картошкой, каша гречневая, котлета, чай, черный хлеб | Каша перловая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 06.06 | Каша пшённая, котлета, белый хлеб | Вода с капустой и картошкой, каша гречневая, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 07.06 | Каша сечка, котлета, белый хлеб | Вода с рисом и картошкой, каша пшённая, котлета, чай, черный хлеб | Каша сечка, чай | 11 руб. 50 коп |
| 08.06 | Каша пшённая, котлета, белый хлеб | Вода с перловкой, картошкой, огурцами солеными, каша пшённая, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 09.06 | Каша перловая, котлета, белый хлеб | Вода с капустой и картошкой, каша гречневая, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 10.06 | Каша пшённая, котлета, белый хлеб | Вода с перловкой, картошкой, огурцами солеными, каша перловая, котлета, чай, черный хлеб | Каша гречневая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 11.06 | Каша сечка, котлета, белый хлеб | Вода с перловкой, картошкой и морковкой, каша сечка, котлета, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 12.06 | Каша овсяная, котлета, белый хлеб | Вода с макаронами и картошкой, каша перловая, котлета, чай, черный хлеб | Каша гречневая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 13.06 | Каша пшённая, котлета, белый хлеб | Вода с капустой и картошкой, каша гречневая, котлета, чай, черный хлеб | Каша рисовая, чай | 11 руб. 50 коп |
| 14.06 | Каша сечка, котлета, белый хлеб | – | – | 11 руб. 50 коп |

Примечание:

1.Первое блюдо не содержит растительного и животного жира.

2.Гарниры не содержат масла, для увеличения объема в них добавлена вода.

3.Котлеты содержат хлеба не менее 60%, имеют примеси и включения животного происхождения (содержат костный остаток, хрящи и примеси куриного происхождения). В их состав входит соя, ГМО и крахмал. Масло для жарки котлет использовалось неоднократно. Вкус и запах котлет не соответствует жареному мясу.

4.Хлеб не из муки высшего сорта. Масса черного хлеба на день составила 259 грамм, белого - 81 грамм.

5.Объем дневной порции чая составил 327 мл.

6.Температура раздаваемой пищи не соответствовала санитарным требованиям: для первых блюд — не ниже 75$^0$С, для вторых — не ниже 65$^0$С.

**Приложение №3**

ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ

**УСТАНОВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ «ВІЦЕБСКАЯ ГАРАДСКАЯ КЛІНІЧНАЯ БАЛЬНІЦА № 1»**

210026, гор. Віцебск, вул. Камуністычная, д.5
Факс: (80212) 36-29-31 Тэл.: (80212)37-37-17
e-mail: uzvgkb1@vitebsk.by



ВИТЕБСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ЗДРАВООХРАНЕНИЯ

**УЧРЕЖДЕНИЕ ЗДРАВООХРАНЕНИЯ «ВИТЕБСКАЯ ГОРОДСКАЯ КЛИНИЧЕСКАЯ БОЛЬНИЦА № 1»**

210026, гор. Витебск, ул. Коммунистическая, д.5
Факс: (80212) 36-29-31 Тел: (80212)37-37-17
e-mail: uzvgkb1@vitebsk.by

от 10.07.2017г. № П-18

Левинов П.И.
210038, г.Витебск,
пр-т. Московский 43-1-153

Уважаемый Павел Исаакович!

Администрация УЗ «Витебской городской клинической больницы №1» сообщает, что Ваше обращение рассмотрено комиссионно.

Согласно Статьи 4 Закона Республики Беларусь О здравоохранении от 18.06.1993г № 2435-XII граждане Республики Беларусь имеют право на доступное медицинское обслуживание, которое обеспечивается: предоставлением бесплатной медицинской помощи на основании государственных минимальных социальных стандартов в области здравоохранения в государственных учреждениях здравоохранения. Питание в государственных учреждениях здравоохранения для пациентов проходящих лечение в стационарных условиях предоставляется бесплатно и финансируется из бюджетных источников из расчета норм среднесуточного набора продуктов питания предусмотренного для одного больного в государственных организациях Республики Беларусь, постановлением Министерства здравоохранения Республики Беларусь от 14.01.2003г. №2. Исходя из закупочных цен по нашему учреждению среднесуточный набор продуктов питания на март 2017г. составил 2 р. 96 коп., на май 2017г. составил 2 р. 93 коп.

В случае несогласия с данным ответом, в соответствии со статьей 20 Республики Беларусь «Об обращении граждан и юридических лиц» Вы в праве обжаловать решение принятой по Вашему вопросу в вышестоящую организацию здравоохранения.

Главный врач
УЗ «Витебская городская
клиническая больница №1» Д.Л.Козловский

Приложение №4

Счет № _____
на возмещение расходов, на питание
административно арестованного

Учреждение **ИВС при УВД Витебского облисполкома**
Фамилия, собственное имя, отчество должника
**Левинов Павел Исаакович,**
год и место рождения: **15.04.1961 г.р., г. Витебск**
Место жительства, адрес: **г. Витебск,**
**пр-т Московский, 42-1-153**
Место работы: пенсионер Министерства обороны

В соответствии с частью 2 статьи 18.6 Процессуально-исполнительного кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях Вам предлагается уплатить

**172 рубля 50 копеек**
**(сто семьдесят два рубля пятьдесят копеек)**
(сумма цифрами и прописью)

рублей за питание в ИВС при УВД Витебского облисполкома за время отбывания административного ареста с **31.05.2017** г. по **14.06.2017** г.

Деньги необходимо внести на расчетный счет 3642903004028 код банка 153001739, УНП 300031412 в Дирекции ОАО «Белинвестбанк» по Витебской области, г. Витебск, ул. Ленина 16/22
получатель: УВД Витебского облисполкома.

При неуплате в месячный срок задолженность за питание взыскивается в принудительном порядке.

Счёт выставил: инспектор – дежурный Д.Б. Радецкий

Врио начальника ИВС при УВД
Витебского облисполкома Н.А. Гулин

Счет получил: _____________ _____________
(подпись) (инициалы ,фамилия)
«_____»________20___г.

После оплаты, квитанцию предоставить в каб. № 17 сотруднику Каплевскому А.С., в ИВС пр-т Московский 59 А, в случае не предоставления сохранить у себя, для предоставления в последующем.

**Приложение №5**

Приложение
к приказу УВД
Витебского облисполкома
от 21.03.2017 № 123

Правила внутреннего распорядка в изоляторе временного содержания лиц, задержанных или заключенных под стражу, при УВД витебского облисполкома

| № п/п | Наименование мероприятия | Время проведения |
|---|---|---|
| 1 | Подъем | 06:00:00 |
| 2 | Уборка постелей, утренний туалет | 06:00 - 06:45 |
| 3 | Уборка камеры | 06:45 - 08:00 |
| 4 | Утренняя поверка | 08:00 - 08:45 |
| 5 | Раздача завтрака и завтрак | 09:00 - 10:00 |
| 6 | Сбор посуды | 10:00 - 10:30 |
| 7 | Мероприятия воспитательного характера | 11:00 - 14:00 |
| 8 | Раздача обеда и обед | 14:00 - 15:00 |
| 9 | Сбор посуды | 15:00 - 15:30 |
| 10 | Наведение санитарного порядка в камерах | 15:30 - 16:00 |
| 11 | Мероприятия воспитательного характера | 16:00 - 18:00 |
| 12 | Раздача ужина и ужин | 18:00 - 19:00 |
| 13 | Сбор посуды | 19:00 - 19:30 |
| 14 | Подготовка к вечерней поверке | 19:45 - 20:00 |
| 15 | Вечерняя поверка | 20:00 - 20:45 |
| 16 | Вечерний туалет, уборка камер | 21:00 - 22:00 |
| 17 | Отбой | 22:00:00 |

Примечания:

1.Каждую пятницу в камерах проводится генеральная уборка.

2.Два раза в неделю производится выдача бритвенных принадлежностей.

3.Во время мероприятий воспитательного характера разрешается: чтение литературы, игра в настольные игры.

4.Прогулка проводится покамерно в светлое время суток (перед прогулкой и при выходе на работы лицам, отбывающим административный арест, выдаются спички).

5.Один раз в неделю предоставляется возможность принятие душа продолжительностью не мене 15 минут.

6.Содержащимся разрешается отдыхать с 22:00 до 06:00, в остальное время спать, лежать на спальных местах, пользоваться спальными принадлежностями запрещено (исключение составляют лица, которые по показанию врача (фельдшера) нуждается в постельном режиме).

7.Курение осуществляется по одному содержащемуся в специально отведенном месте — возле санузла. Время для курения: 06:00-06:10, 08:00-08:10, 10:00-10:10, 12:00-12:10, 14:00-14:10, 16:00-16:10, 18:00-18:10, 20:00-20:10, 21:50-22.00.

8.За нарушение распорядка дня применяются меры взыскания в соответствии с действующим законодательством.

# Дадатак 2. Я і ІЧУ. Асабісты погляд


Леанід Сьвецік

Натхніўшыся ідэяй праваабаронцы Паўла Левінава, які пайшоў сядзець ў ізалятар часовага ўтрыманьня Віцебску з дакумэнтам ад БХК пра тое, што падчас адседкі ён будзе рабіць маніторынг умоваў ўтрыманьня ў ізалятары, інтэрнэт-рэсурс «Віцебская вясна» вырашыў зрабіць уласны маніторынг. Балазе пасьля масавых арыштаў актывістаў увесну спэцыяльна сядаць на «суткі» для гэтага ня трэба.

Мы папрасілі праваабаронцаў, незалежных журналістаў, грамадзкіх і палітычных актывістаў, якім давялося надоечы адседзець ў ІЧУ, падзяліцца сваімі ўражаньнямі ад знаходжаньня ў няволі і распавесьці пра ўмовы, зь якімі сутыкнуліся там. Прычым вырашылі зьвярнуцца ня толькі да тых, хто сядзеў у Віцебску, але і да тых, хто пабываў у месцах ўтрыманьня правапарушальнікаў іншых гарадоў вобласьці.

**Частка 1: Віцебск, Леанід Сьвецік**

*Распавядае Леанід Сьвецік, праваабаронца. Адседзеў у ІЧУ 15 сутак за маніторынг масавых мерапрыемстваў, якія праходзілі ў Віцебску 25 і 26 сакавіка.*

У віцебскім сьледчым ізалятары часовага ўтрыманьня я адбываў адміністрацыйны арышт ўпершыню. Што мяне ўразіла?

Рэжым утрыманьня – камэрны, г.зн. поўная ізаляцыя ад зьнешняга сьвету. У камэрах цесна, дрэнная вэнтыляцыя.

Прыбіральня – у выглядзе ўнітаза, адкрытага для агульнага агляду, у якога змыў ручны.

Сьцены – не разгладжаны бэтон, шэрыя і халодныя.

У камэры ёсьць стол. Ёсьць прыкручаныя да падлогі крэслы, але не ва ўсіх камэрах. У кожнага вязьня ляжак: заключаны ў зялезны каркас дашчаны насьціл.

Вада з крана ідзе чыстая, халодная, прыдатная для піцьця. Мыла – 6-ая частка кавалка гаспадарчага мыла.

Сьвятло гарыць у камэры круглыя суткі. Ахова пэрыядычна зазірае ў камэру празь дзьвярную шчыліну – вочка. Відэаназіраньне ў камэры ажыцьцяўляецца 24 гадзіны ў суткі.

Матрац і падушку выдаюць на ўвесь тэрмін, пасьцельную бялізну і ручнік выдаюць 1 раз на сем сутак. Душ мае быць раз на тыдзень.

Курэньне дазволенае, прычым у адных і тых жа камэрах разам разьмяшчаюцца арыштанты, якія кураць, і якія ня кураць.

Прыбіраньне памяшканьняў, згодна з правіламі, робяць самі арыштанты. За 15 дзён вільготнай прыборкі не зьдзяйсьнялася, бо ня выдалі анучы і швабры. Дэзінфэкцыя ўнітаза і яго чыстка былі праведзеныя толькі адзін раз за два тыдні – працаўніца ізалятара засыпала туды жменьку ачышчальнага парашку.

Раніцай і ўвечары праверкі, падчас якіх усіх, хто ўтрымліваецца ў камэры, выводзяць у калідор, ставяць тварам да сьцяны, рукі з апорай на сьцяну. Абшукваюць і людзей, і камэру. Падчас праверак дзяжурныя пытаюцца пра скаргі на здароўе і пра тое, ці ёсьць якія-небудзь пытаньні.

Тэлефанаваць на волю даюць толькі пасьля разгляду пісьмовай заявы начальнікам ізалятара, які павінен накласьці на заяву станоўчую рэзалюцыю.

Ежа – тры разы на суткі. Без асабенак: палова баханкі чорнага і белага хлеба на суткі, неспажыўныя супы-баршчы, кашы, адзін раз на суткі – падсалоджаная гарбата. Зь мясных страваў – вечная катлета з інгрэдыентаў невядомага паходжаньня. Посуд – мэталёвы: міскі, талеркі, лыжкі і кубкі бяз ручак.

Пасылкі харчовыя і рэчавыя прымаюць ад сваякоў без абмежаваньня вагі, але толькі дазволеныя законам прадметы і ежу.

У працоўныя дні можна зьвярнуцца да фельчара ІЧУ, якая можа зьмераць ціск і тэмпэратуру, паслухаць дыханьне, зрабіць абеззаражаньне ранаў і перавязаць іх. У яе адсутнасьць дзяжурны на патрабаваньне арыштанта выклікае хуткую мэдычную дапамогу.

Шпацыры адбываюцца на працягу паўгадзіны ў адмыслова абсталяваным памяшканьні, без вываду ў двор ІЧУ.

З 6:00 да 22:00 пастаянна гучыць радыё FM-дыяпазонаў. Выбіраюцца такія станцыі, па якіх перадаецца поп-музыка і мінімум інфармацыйных праграмаў. Гук уключаецца, як толькі па радыё адыграе дзяржаўны гімн.

Ёсьць бібліятэка, у якой маецца некалькі старых падраных кнігаў. У работнікаў ІЧУ можна папрасіць шашкі. Калі будзе свабодны камплект – выдадуць.

Пэрсанал ізалятара ў сваёй масе зьяўляецца работнікамі міліцыі. Яны трымаюцца з арыштантамі на афіцыйнай адлегласьці, не вядуць размоваў, не аказваюць паслугаў па-за патрабаваньнямі правілаў распарадку ўстановы. Лісты перадаюць зьняволеным грамадзянам пасьля рэгістрацыі ў кнізе уваходнай/выходнай карэспандэнцыі. Ня чыняць перашкодаў працы абаронцаў. Сустрэчы са сваякамі не дазваляюцца. У выпадку парушэньня рэжыму работнікі ўжываюць спэцсродкі да парушальнікаў. За час майго знаходжаньня я чуў, як парушальнікі прасілі зьняць зь іх кайданкі, бо ім было балюча, і яны больш ня будуць парушаць правілы знаходжаньня ў ізалятары.

За два тыдні толькі адзін раз камэры абыходзіў работнік пракуратуры, у абавязкі якога ўваходзіць нагляд за працай ізалятара.

Аплачвае ўтрыманьне арыштант з уласных сродкаў па тарыфе 11 рублёў 50 капе-



Васіль Берасьнёў

ек за суткі знаходжаньня ў ІЧУ.

**Частка 2: Ворша, Васіль Берасьнёў**

*Пра тое, як сядзелася ў Воршы, распавёў Васіль Берасьнёў, праваабаронца, сябра БХК.*

*Згодна з пастановай суду, спадар Берасьнёў зьяўляўся адным з арганізатараў маршу «недармаедаў» у Воршы 12 сакавіка. Адбыў у мясцовым ІЧУ 14 сутак.*

Я раней ужо сядзеў, у 2006 годзе. Таму сустрэў шмат знаёмых міліцыянтаў. Дык яны мне выбралі добрую камэру.

Наогул, Аршанскі ІЧУ лічыцца найлепшым, узорным па Беларусі. Яго нядаўна пабудавалі. Хоць ізалятар і новы, але ўжо завэдзганы, задрыпаны, запляваны. У распарадку напісана, што кожны тыдзень трэба рабіць генэральнае прыбіраньне, але ніхто гэтага не рабіў.

Камэра, у якую трапіў, была разьлічаная на дваіх чалавек, але прасядзеў я фактычна як у адзіночцы. Двойчы толькі ненадоўга падсялялі іншых, калі было ўсё перапоўнена. Потым мяне некалькі разоў пераводзілі з камэры ў камэру, але і там я быў адзін. Каравульныя сказалі мне, што ёсьць такое распараджэньне, каб у палітычных не было ніякіх кантактаў.

Калі прывялі ў камэру, у ёй быў цэлы пуд гразі. Я запатрабаваў анучу, іншыя прыналежнасьці і інструмэнты. Вымеў, вычысьціў, памыў ракавіну, памыў унітаз. А да таго там дыхаць не было чым.

Камэра была 6 мэтраў у даўжыню і 3 мэтры ў шырыню – 18 квадратаў агульнай плошчы. Прыбіральня там у кутку, адгароджаная бар'ерчыкам. Туалетнай паперы не давалі, а замест, калі вельмі просіш, давалі нейкі стары часопіс, глянцавы. Мыла таксама не было.

Выдалі мне пасьцельную бялізну. Бялізну сталі выдаваць, толькі як нас прывялі. Бо дагэтуль не было там ні прасьцінаў, ні навалочкі, ні ручніка. Поўны камплект бялізны атрымаў ня толькі я, але і іншыя, у тым ліку адміністрацыйна затрыманыя. Людзі потым казалі: вы – палітычныя, і праз вас нам выдалі спальныя прыналежнасьці.

Ложак уяўляў сабой груба звараны двухпавярховы мэталёвы каркас. На ім быў матрац. Гэты матрац, мабыць, пасьляваенны. А мо і даваенны. Ён быў вельмі забруджаны, увесь пазьбіваны. Але мне пашанцавала – змог карыстацца двума матрацамі, дык трохі менш мэтал адчуваўся. Дый прасьціны і навалочкі мелі такі выгляд, нібыта імі карысталіся не адно дзесяцігодзьдзе, але нават такіх раней не выдавалі. І падушка – зусім маленькая, такая, што калі сьціснуць яе, то можна пакласьці ў кішэню.

Акно ў камэры было. Уяўляла сабой рыфленае шкло – двайное ці трайное, якое прапускала мала сьвятла. Як сонца ўставала – яно трохі прабівалася. У камэры ўвесь час гарэла яшчэ электрычнае сьвятло, але такое, што чытаць было складана – вочы стамляліся.

Праветрываньня пакою не было. Там усё пазакупорвана. Паветра – сьпёртае.

Было радыё. Але навінаў ніякіх не ўключалі. Грала музыка, але ціха – надта вушы ня рэзала.

Кожнай раніцы і вечара быў шмон – правяралі. У камэру заходзіла брыгада, абстуквалі сьценкі, лазілі паўсюль, глядзелі, каб не было, мабыць, якіх-небудзь выбуховых рэчываў, мо наркотыкі шукалі. З камэры падчас праверкі не выводзілі. Да сябе дакранацца я не даваў, сказаў ім: мяне няма чаго мацаць.

Калі прыйшоў – паглядзеў, якія там у іх інструкцыі на дзьвярох вісяць. Інструкцыя, бачу, што ня тая, якая павінна быць. Я тады папрасіў прынесьці мне закон, на які ў інструкцыі спасылка. Адмовіліся, адказаўшы, што ў пісьмовым выглядзе ў іх няма, толькі ў электронным. Тады я ім сказаў, што буду пісаць пракурору. Пасьля гэтага мяне паклікалі на сустрэчу з начальнікам ІЧУ.

Начальнік быў ветлівы, усьміхаўся. Сказаў, што гэтага закону мне ня дасьць, бо ён для крымінальнікаў. А ў ІЧУ ж 95% – адміністрацыйныя. Па крымінальных справах там адзінкі, толькі некаторыя, якія пад сьледзтвам. І толькі для іх гэтыя інструкцыі пасуюць.

Дазвалялі тэлефанаваньні. Пісаў заяву – мяне выводзілі, я тэлефанаваў. Званіць мог толькі на хатні тэлефон.

Я дамогся шпацыраў, якіх там да таго практычна не было, хаця для іх ёсьць абсталяванае месца. Сталі выводзіць на шпацыр і іншых.

Перадачы – давалі. Але можна было ня ўсё. Газэты – толькі зарэгістраваныя. Мне спрабавалі перадаць прафсаюзную газэту, РЭПаўскую, – не дазволілі. Затое «Народную волю» прыносілі, камсамолку, «Аргументы і факты». А ў іх саміх ніякіх падшывак газэтаў няма – ні мясцовых аршанскіх, ні «Советской Белорусии».

Ёсьць невялікая бібліятэка. Нешта стуль браў, а потым мне з дому прыносілі. Сам з сабою ў шашкі гуляў – у мяне там была кніжачка з камбінацыямі. Займаўся зарадкай. Вёў дзёньнік – пісьмовыя прыналежнасьці дазволілі.

Душ дазвалялі раз на тыдзень. Я двойчы хадзіў. Ніхто не крычаў, каб хутчэй, я адзін мыўся столькі, колькі хацеў.

Што тычыцца харчаваньня, яно было турэмнае. У першы дзень не пакармілі зусім. На сьняданак давалі кашу, звараную на вадзе, і кубак кіпню. У абед быў, напрыклад, суп са старой кіслай капусты, якая мабыць, яшчэ часоў перабудовы. На другое – капуста ўжо тушаная, альбо каша ці макароны. Бывала яшчэ нейкая рыбная катлета, але не заўсёды. І на вячэру – каша, і маглі даць кісель. Я пытаў, якая ў іх норма выхаду. Адказалі, што ня ведаюць, раздаюць на вока. Затое хлеба давалі ўдосталь. Нічога не давалі зь вітамінаў. Ні гародніны – нічога. А некаторыя ж там сядзяць падоўгу. Расказвалі, як там некалькі ўкраінцаў сядзелі паўгода – дык


Кастусь Мардзьвінцаў

з такім харчаваньнем за гэты час можна захварэць на шкробут.

Пакуль быў у ІЧУ, ніхто з прадстаўнікоў органаў, якія павінны кантраляваць харчаваньне, побыт, санітарныя ўмовы, не прыходзіў. Ніхто не прыходзіць – ні судзьдзі, хоць адпраўляюць туды, ні санітарныя службы. Ня ходзіць і пракурор – ні разу яго ня бачылі. І ніхто ня чуў, каб пракурор прыходзіў – а гэта ж яго абавязак глядзець, як там.

Адзінае, з раённага аддзелу ўнутраных справаў прыходзіў намесьнік, які, мабыць, проста на мяне паглядзець прыйшоў. Прыйшоў – пастаяў, памаўчаў, потым кажа: «Вы шмат разоў сядзелі?» – «Зараз другі раз», – адказваю. І ўсё – ён пайшоў.

**Частка 3: Віцебск, Кастусь Мардзьвінцаў**

*Наш наступны аўтар – незалежны журналіст Кастусь Мардзьвінцаў. За выкананьне сваіх прафэсійных абавязкаў падчас акцыяў 25 і 26 сакавіка Кастусь быў арыштаваны на 15 сутак.*

На «сутках» я апынуўся ўпершыню. І быў не падрыхтаваны да таго. Калі б ведаў загадзя, чым завершыцца мая праца як журналіста на акцыі, то ўзяў бы з сабою неабходныя рэчы. А так – куртку, у якой я быў, мне забаранялі пранесьці ў камэру. Маўляў, яна мае шнурок унутры, і трэба распароць падбіўку, каб выцягнуць яго. Я сказаў, што не хачу псаваць рэч. І таму, пакуль не атрымаў ў перадачы швэдар праз колькі дзён, увесь час мёрз.

Халодна было і пасьля, але ўжо ня гэтак. Спаць даводзілася ў вопратцы, хоць выдалі дзьве коўдры, бо ня меў з сабою курткі. Праз холад некалькі разоў давялося адмовіцца ад шпацыру, не зважаючы, што сьвежага паветра ў камэры відавочна бракавала.

Шпацыры – пакуль сядзеў на 3-м паверсе, – трэба было прасіць, інакш пра іх ніхто з ахоўнікаў не ўспамінаў. Толькі пад канец знаходжаньня там, перад пераводам на 2-гі паверх, ахоўнікі самі ўжо пачалі прапанаваць. Часам адмаўляўся – праз холад. Ужо як апынуўся на 2-м паверсе, шпацыры сталі штодня. Гуляць выводзілі пакамэрна. Ня ў двор, а на адмысловую пляцоўку на тым самым паверсе, якая ўяўляла сабою, па-сутнасьці, усё тую ж камэру, у якой замест акна – адкрытая прастора, прыкрытая толькі кратамі.

Усяго сядзеў у трох камэрах: №7, №9 (3-ці паверх) і №24 (2-гі паверх, тут быў двойчы: ноч пасьля затрыманьня і да суду; і затым апошні, найвялікшы, адрэзак адседкі).

Пераводзілі з камэры ў камэру, не тлумачачы прычынаў. Хаця зразумела, што

прычыны ўвесь час у іх былі: у 7-й на наступны дзень пасьля таго, як вызвалілі яе ад сядзельцаў, распачаўся рамонт (было чуваць, як там працуюць – перасялілі ж недалёка), з 9-й перавялі ў той дзень, як мой сукамэрнік там быў этапаваны на ЛПП – 60-гадовы дзядзька, які любіць чытаць і разгадваць красворды. Спадзяваўся, што адразу з ІЧУ не забяруць на прымусовае «лекаваньне», і зможа зьехаць ў Гародню да сына – спадзяваньне ня спраўдзілася.

Розьніца паміж 2-м і 3-м паверхамі? На 2-м знаходзіцца пост дзяжурнага. Ня ў тым самым калідоры, дзе камэры, але дзяжурны можа чуць усё, што адбываецца на паверсе. І, наогул, тамсама ўсялякае начальства. (Усё ІЧУ – трохпавярховы будынак. Але на першым паверсе месьціцца іншая ўстанова – выцьвярэзьнік.) Мабыць, таму на 2-м паверсе «прадольныя» (так называюць ахоўнікаў, што апякуюцца сядзельцамі) імкнуцца рабіць усё, каб было, як «па правілах». Але ў цэлым нараканьняў да ахоўнікаў што 2-га паверху, гэтак і 3-га, ня маю. Збольшага нармальныя людзі, якія ставіліся да сядзельцаў па-людзку.

На 2-м паверсе, апроч іншага, знаходзіцца камэра, якая, паводле расказу майго сукамэрніка, служыць «карцэрам» для «хімікаў», якія праштрафіліся ў папраўчай установе адкрытага тыпу. Было некалькі начэй, калі насельнікі гэтай камэры не давалі спаць усяму паверху – грукалі ўсю ноч у дзьверы камэры, крычалі, мацюкаліся, аж пакуль ахоўнікі не «супакойвалі» іх спэцсродкамі.

Ва ўсіх камэрах, дзе пабываў, мы сядзелі ўдвух. А ёсьць камэры і вялікія, разьлічаныя ажно на дзесяць чалавек, але ў такіх мне сядзець не давялося.

Камэра № 7 – «двушка»: двух’ярусныя нары («шконка»), кран з ракавінай і туалет «азіяцкага» кшталту – дзірка ў падлозе на пастамэнце – такія клязэты былі папулярныя ў грамадзкіх прыбіральнях Савецкага Саюзу, захаваліся дзе-нідзе і дагэтуль. Змыўнага бачка няма. Замест яго ёсьць плястыкавая бутэлька – набірай у яе ваду з крана і змывай. Больш гэтая камэра не абсталяваная нічым – не было ні лаўкі, ні крэслаў, ні стала, ні тумбачкі. Асабістыя рэчы захоўваць не было дзе, апроч як на падлозе. Акно было закрытае зялезным лістом (здаецца, пасьля таго, як я адтуль сышоў, мэтал з вакна зьнялі – у гэтым і палягаў рамонт).

Камэра № 9 – больш прасторная. Разьлічаная на чатырох чалавек (дзьве двух’ярусныя «шконкі»), але мы сядзелі ўдвух. Тут быў стол і побач зь ім мэталёвая лаўка, прымацаваная да падлогі. Дык што месца для рэчаў хапала. Абсталяваная старым брудным унітазам. Замест накрыўкі на ім – цэляфанавы пакет. Гэта была адзіная камэра, у якой мог бачыць натуральнае сьвятло – мелася акно, складзенае з тоўстых шкляных блёкаў, празь якія ня бачна нічога, але сьвятло прабіваецца.

Камэра № 24 – двухмясцовая. Без вакна зусім: там, дзе яно мусіла б быць – сьцяна. Унітаз больш новы, але таксама без накрыўкі. Ёсьць тумбачка для захоўваньня рэчаў.

Сьцены ўсіх камэраў пакрытыя «шубай» – адмысловым рэльефным бэтонным пакрыцьцём. Правесьці дэзінфэкцыю такой сьцяны немагчыма ў прынцыпе. Сукамэрнікі казалі, што паводле сучасных правілаў «шуба» нібыта забароненая, але ў віцебскім ІЧУ яшчэ захавалася – як спадчына савецкіх часоў.

Ежа. На сьняданак давалі белы хлеб і якую-небудзь кашу на вадзе з катлетай, ас-


Віктар Стукаў

ноўным інгрэдыентам якой быў хлеб. Як жартавалі сядзельцы наконт катлеты, ямо хлеб з хлебам. На абед – хлеб чорны, такая самая катлета. Каша. Рэдкі суп, пасьля якога было вельмі лёгка спалосквацьталерку, бо тлушч ў ім адсутнічаў. Грамаў сто халаднаватай гарбаты з цукрам. Вячэра – каша з гарбатай. Апроч як на абед і вячэру, папіць каву ці гарбату было немагчыма – кіпень сядзельцам не давалі.

Вельмі дзіўны быў расклад, паводле якога раздавалі харчаваньне. Калі сьняданак прыпадаў на нармальны час – пасьля 9-й раніцы, то абед быў позьні – рэдка, калі раней як а 15-й, а вячэра, наадварот, раньняя – недзе а 17-й. Аднаго разу прынесьлі абед а 16:30, а вячэру а пятай вечара – зусім маленькі перапынак паміж прыёмамі ежы.

Перадачы атрымліваў. Але бывала, што з затрымкай: перадачу, зробленую напярэдадні, маглі выдаць толькі раніцай наступнага дня. Лісты і паштоўкі з волі даходзілі. Але, здаецца, ня ўсе. Так, ужо выйшаўшы, знайшоў у сваёй паштовай скрыні копію пастановы, вынесенай абласным судом у адказ на маю скаргу, у якой было пазначана, што яна дасылаецца ў два адрасы – на мой хатні, і ў ІЧУ (для ўручэньня мне). Тую копію, якую мне павінны былі ўручыць у ізалятары, я так ніколі і ня ўбачыў.

У душ удалося схадзіць толькі адзін раз. Дазваляецца раз на сем дзён, але калі я спытаў на сёмы дзень сваіх «сутак» пра яго, мне было сказана, што, маўляў, зараз выходныя, няма дэзінфэктара, таму чакай да панядзелка. А ў наступны панядзелак я ўжо выходзіў на волю...

**Частка 4: Полацак, Віктар Стукаў**

*Пра свой досьвед знаходжаньня ў ІЧУ распавядае Віктар Стукаў. У адрозьненьне ад іншых нашых герояў старшыня суполкі свабоднага прафсаюзу на прадпрыемстве «Полацак-Шкловалакно» адміністрацыйнаму арышту падвергнуты ня быў. Тым ня менш яму ёсьць што распавесьці пра ІЧУ.*

*Віктар быў затрыманы прэвэнтыўна напярэдадні Дня Волі. У офісе суполкі свабоднага прафсаюзу быў праведзеныператрус, а на прафсаюзнага лідэра склалі пратакол за нібыта дробнае хуліганства. У чаканьні суду з 22:00 24 сакавіка да 8:00 27 сакавіка спадар Стукаў правёў у ІЧУ Полацку.*

Пасьля стандартнай працэдуры надгляду з распрананьнем і перашукам а 22:00 мяне зьмясьцілі ў камэру №1, разьлічаную на шэсьць чалавек. У камэры я апынуўся дзявятым пастаяльцам. Але да другой гадзіны ночы трое чалавек выйшлі з камэры, і нас засталося шасьцёра. Цягам двух з паловай сутак нехта выходзіў, і на яго

месца адразу засялялі новага пастаяльца.

У ізалятары часовага ўтрыманьня ў Полацку каля 15 камэраў, разьлічаных на розную колькасьць сядзельцаў. Камэры №1 і №7 для адміністрацыйна затрыманых грамадзян маюць памеры тры на шэсьць мэтраў.

Шэсьць ложкаў разьмешчаныя ў два ярусы ўздоўж далёкай сьцяны з двума невялікімі вокнамі і батарэямі ацяпленьня.

Вокны – з адным шклом, адчыняюцца ўнутар камэры. За вокнамі – краты зь зялезнай дробнай сеткі.

У камэры ёсьць невялікі прымацаваны да сьцяны столік і лаўка на аднаго чалавека. Дзьве старыя тумбачкі.

У кутку, справа ад дзьвярэй, на пастамэнце – вакзальны ўнітаз. Над ім разьмешчаная выгнутая зялезная труба з кранам для спуску вады. Гэтае ж месца выкарыстоўваецца як рукамыйніца. Тамсама бяруць ваду для піцьця. Ад камэры гэты санвузел адгароджаны невялікай цаглянай сьценкай мэтар на мэтар.

У камэры пастаянна гарыць сьвятло і над дзьвярыма разьмешчаная відэакамэра, маецца вэнтыляцыя.

Курыць у камеры не забараняюць. Палілі ўсе, таму акно трымалі пастаянна адчыненым. Чыстай пасьцельнай бялізны мне ніхто не выдаваў – карыстаўся тым, што было ў камэры: старыя зьбітыя матрацы, старыя тонкія коўдры, падушкі і белыя прасьціны, якія хтосьці калісьці заслаў.

У камэры было халаднавата, усе спалі не распранаючыся, накрываліся дадаткова сваімі курткамі.

Харчаваньне передавалі ў камэру праз акно ў дзьвярох згодна з графікам, які вывешаны на сьцяне камэры. Пад'ём – а 6:00. Пасьля прыбіраньне, ранішнія працэдуры і праверка затрыманых – з 7-й да 8-й гадзіны. Падчас праверкі ўсіх выводзілі з камэры ў калідор, абшуквалі, аглядалі камэру, можна было задаваць пытаньні. Сьняданак – з 8:30 да 9:30, абед – з 12:00 да 14:00, вячэра з раздачай кіпеню – з 20:00 да 21:00, адбой – а 22:00.

Ежа заўсёды была халоднай. У камэры місак не было, таму карысталіся поліэтыленавымі скрынкамі ад прадуктаў харчаваньня. Лыжкі таксама адсутнічалі, выкарыстоўвалі паламаныя рэшткі ад двух аднаразовых лыжачак. Увогуле, умовы там антысанітарныя, у спартанскім стылі.

Па вызваленьні я напісаў скаргу наконт умоваў утрыманьня. Вось што на яе адказаў намесьнік начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі Ігар Скарыновіч [падаецца з захаваньнем правапісу і стылістыкі арыгіналу – рэд.]:

«…Змена пасцельнай бялізны ажыццяўляецца штотыдзень пасля прыняцця душа… Сродкі асабістай гігіены выдаюцца паводле нормаў забяспячэння сродкамі асабістай гігіены асобам, якія змяшчаюцца пад вартай. Санвузел знаходзіцца ў спраўным стане і не можа быць перашкодай для выпраўлення натуральных патрэб.

Грамадзяне, якія змяшчаюцца пад вартай, забяспечваюцца бясплатным харчаван-


Павал Севярынец

нем, дастатковым для падтрымання здароўя і сіл, па нормах, вызначаных Урадам Рэспублікі Беларусь. Ежа асобам, якія змяшчаюцца пад вартай, выдаецца тры разы ў дзень. Колькасць камплектаў сталовага посуду адпавядае колькасці чалавек зьмешчаных у камеры. Гатаваньнем і дастаўкай ежы для змешчаных ў ІЧУ паводле дамовы ад 30.03.2015 займаецца Полацкае раённае спажывецкае таварыства.

Ежа дастаўляецца ў спецыяльных тэрмасах тры разы на дзень, пасля чаго дзяжурным нарадам раздаецца змешчаным ў ІЧУ асобам…»

**Частка 5: Ворша, Павал Севярынец**

*У працяг тэмы пра ізалятары часовага ўтрыманьня Віцебскай вобласьці падаём расповед сустаршыні ствараннай партыі БХД Паўла Севярынца. Павал, як былы палітвязень, добра знаёмы з пэнітэнцыярнай сыстэмай Беларусі. Сёлета ён быў пакараны 15-цю суткамі арышту пасьля «Маршу недармаедаў» у Воршы, што адбыўся 12 сакавіка.*

*Ужо пасьля аршанскай адседкі Паўлу давялося пабываць зноў «на сутках», гэтым разам у Менску. Таму ня дзіва, што ён увесь час параўноўвае ўмовы ўтрыманьня ў ІЧУ Воршы і ў ізалятары ў Менску, што на вуліцы Акрэсьціна.*

Умовы ўтрыманьня ў Воршы? Нешта лепш, чымся ў Менску, нешта горш. Горш, чымся ў Менску, – гэта тое, што там падымаюць пасьля 6-й ранку з ложку на ўвесь час. Ёсьць патрабаваньне, каб чалавек не ляжаў, не сядзеў на ложку. І калі, напрыклад, уначы пераводзілі кудысьці, альбо калі ўначы не высыпаесься, – гэта твае праблемы.

Разам з тым, ежа ў Воршы лепшая, ніж у Менску. Я б яе не назваў ідэальнай, але на прымальным узроўні.

З бытавых рэчаў? У прынцыпе, калі дабівацца свайго, то можна.

Вокны ў камэры былі. Можна было дабіцца ад іх штыра. Сам ты фортку не адчыніш. Бо дзеля таго праз дадатковыя краты, якія паміж табой і шклом, там трэба прасунуць штыр – штыр гэты давалі. У Менску гэткага не дапрасіцца. Калі вокны адчыненыя, а на дварэ ці не зіма – нікога гэта не хвалюе.

Асадка, папера – былі ў Воршы. Дазвалялі. У адрозьненьне ад Менску. Шпацыры – рэгулярна. Дакладней, шпацыры рэгулярна для мяне. Іншыя людзі зьдзіўляліся, як выводзілі: «Ух, мы на шпацыр ходзім!» Я кажу: «Дык я кожнага дня хаджу!» – «Кожнага дня? Нічога сабе...» Дасюль там праблемы былі – 15 сутак можна было прасядзець бяз шпацыру.

Наогул, стаўленьне да палітычных там лепшае, ніж да астатніх.


Арцём Сізінцаў

Ставіліся больш-менш. Для Воршы я быў такой дзівоснай птушкай, якая заляцела зь Менску, дык яны самі пабойваліся трохі. Але было пара момантаў, калі перакідвалі, незразумела чаму, з камэры ў камэру. Напрыклад, арганізоўвалі такую каманду: камуніст, уцякач з Данбасу – у адну камэру, і мяне туды. Мо' каб там былі спрэчкі, канфлікты. Такое выпрабаваньне: мацаюць, ці чалавек пойдзе на канфлікт. Але ж я таксама дасьведчаны чалавек – знаходзім агульную мову, размаўляем. Пару дзён. Пасьля расфармоўваюць камэру.

І начальства карэктна ставілася. Начальнік выклікаў да сябе два разы. Былі спрэчкі. Я яму ўвесь час казаў, што я незаконна асуджаны, я іменна так прадстаўляўся і падчас кожнай праверкі: «Незаконна асуджаны Севярынец». Ён спакойна ставіўся. Супраць мяне там рэпрэсіў з гэтай нагоды ніхто не чыніў.

Я так зразумеў, што ў іх пасьля праверак АБСЭ шмат што зьмянілася. А Ворша ж ёсьць брамай Беларусі, там у іх пастаянна паступаюць мігранты з Банглядэш, Віетнаму і ўсе астатнія – дык гэтыя праверкі АБСЭ і ААН іх выхавалі.

Дык што, калі параўноўваць з Акрэсьціна, то ў Воршы ўсё ж лепш.

Не праходзілі лісты. Дакладней, яны даходзілі. Але мне іх аддалі толькі перад самым выхадам – 15 дзён былі праблемы зь ліставаньнем.

Іншая праблема, зь якой я там ня здолеў суладаць, гэта радыё: цалкам расейскамоўнае, абсалютна папса. Уключаюць а 6-й ранку – і панясլося. Яно езьдзіць па вушох. Я ўжо не прасіў выключыць: «Зрабіце вы цішэй!» – «Гэта можна толькі ў цэлым па ізалятары, мы рабіць цішэй ня будзем». Ты мусіш, хочаш ня хочаш, слухаць гэта.

На ноч сьвятло не выключалі, але прыглушалі.

Людзі, якія са мной сядзелі, палілі. Але дзень на дзясяты ці адзінаццаты памянялі правілы паленьня: цыгарэты дазвалялі ў камэры, а запалкі – не, раз на дзве гадзіны давалі прыкурыць праз «кармушку» – я такі дзіўны спосаб бачыў упершыню. А ў Менску, напрыклад, там не давалі цыгарэт у камэру, і паліць можна было толькі падчас шпацыраў. Для людзей гэта было як катаваньне.

Калі чыста па-чалавечаму, то пра Воршу кепскага слова не скажу. Некаторыя рэчы, сапраўды, трэба выправіць, Але там ня самыя дрэнныя ўмовы.

**Частка 6: Віцебск, Арцём Сізінцаў**

*Журналіст Арцём Сізінцаў асьвятляў веснавыя акцыі пратэсту і суды над іх удзельнікамі ня толькі ў сваёй роднай Воршы, але і ў Магілёве, і ў Віцебску. Супрацоўнікі праваахоўных органаў ацанілі актыўнасьць рэпартэра – ён быў затрыманы 25 сакавіка за Дзень Волі ў Віцебску. Суд прызначыў Арцёму 10 сутак*

*арышту.*

*Перш як распавесьці непасрэдна пра ўмовы ўтрыманьня ў Віцебскім ІЧУ, Арцём Сізінцаў падзяліўся сваімі развагамі пра акцыі пратэсту Вясны-2017 і пра ролю журналістаў, якія наважыліся асьвятляць гэтыя акцыі. Хоць звычайна ў цыклі «Я і ІЧУ» мы засяроджваемся толькі на ўмовах утрыманьня ў ІЧУ, абыходзячы іншыя дэталі, гэтым разам вырашылі зрабіць выключэньне і апублікаваць таксама досыць доўгае прадслоўе аўтара, бо яно добра адлюстроўвае атмасфэру веснавых пратэстаў, у выніку якіх дзясяткі людзей апынуліся за кратамі ІЧУ.*

Калі пачаліся акцыі за скасаваньне дэкрэту аб так званых «дармаедах», я падазраваў, што ціск будзе чыніцца ня толькі на звычайных беларусаў, якія «пасьмелі» выйсьці і выказаць уладам сваю нязгоду; ня толькі на палітыкаў, якія далучацца да буры эмоцыяў і паспрабуюць актывізаваць сваіх партыйцаў; ня толькі на праваабаронцаў, якія, безумоўна, разумеюць, што, абараняючы грамадзянаў, самі становяцца пад удар. Я выразна разумеў, што ціск будзе рабіцца і на журналістаў, на мяне і маіх калегаў, якія «маюць нахабства» асьвятляць акцыі.

Аб праўладных рэпартэрах тут мовы няма. Апэратарам і карэспандэнтам розных «Беларусь-1», АНТ і мясцовых «кішэнных» каналаў ніхто працаваць не замінаў, дый падавалі пратэсты яны са свайго боку, не даючы шмат выказацца людзям. Іх рэпартажы былі пабудаваныя вакол таго, што ня ўсё ў нашай дзяржаве ідэальна, але вось вам – чарговая «галава зь языком» зь якога-небудзь Міністэрства працы ці зь біржы па найме працаўнікоў. Гэтая галава запэўнівае тую частку беларусаў, якая яшчэ не адключыла назаўсёды дзяржаўную тэлевізію, у тым, што праблемы з працаўладкаваньнем вырашацца найбліжэйшым тыднем.

Матэрыялы незалежных журналістаў былі зусім іншымі. Скажу за сябе. Я працаваў на шэрагу акцыяў у Віцебску і Магілёве, рабіў матэрыялы для «Радыё Рацыя». У Воршы мне працаваць не далі супрацоўнікі міліцыі, якія прыйшлі ў кватэру акурат раніцой у дзень «Маршу недармаедаў» і пачалі праводзіцьператрус, які, натуральна, безвынікова скончыўся якраз тады, калі акцыя падыходзіла да заканчэньня. Словы ў маіх матэрыялах даваліся як прадстаўнікам улады, так і пратэстоўцам. Выразна паказвалася, чым канкрэтна людзі незадаволеныя.

Так падрабязна я апісаў сытуацыю дзеля таго, каб чытачы зразумелі – затрыманьні, штрафы, нават суткі зьняволеньня не былі для журналістаў шокам. Калі ты абіраеш такі шлях і ідзеш па ім, мусіш зразумець нелюбоў цяперашняй беларускай дзяржавы да дэмакратыі і правоў чалавека.

Зьнявага правоў асобы была відавочная адразу ж у ізалятары часовага ўтрыманьня, у якім я адбываў 10 сутак абсурднага адміністрацыйнага арышту.

Прыбіральня? Хопіць старога іржавага кавалку керамікі, які калісьці быў унітазам. Загародка, каб цябе ня бачылі? Усё адкрыта. Змываньне? Зробім зьліў вады па шлянгу з рукамыйніка. Якая розьніца, што стаіць смурод круглыя суткі, напору вады не хапае, усё старое ды іржавае. Зьняволеныя ў Беларусі – ня людзі, а жывёлы.

Плюс да ўсяго, курцоў саджаюць з тымі, хто ня паліць. Я не палю, але ў камэры ты не загадаеш сукамэрніку не паліць, бо ў такім выпадку ён проста звар'яцее без

сваёй кепскай звычкі.

Асобная мова пра харчаваньне. Тое, што вітамінаў не дачакаесься, было зразумела. Але ў Віцебскім ІЧУ прымудрыліся быць на парадак горшымі за некаторыя іншыя ізалятары, як я магу меркаваць па расповедах тых, хто сядзеў у іншых гарадох.

Каша на вадзе, бяз солі, адна і тая ж хлебная катлета штодня! Ніякай – нават недаваранай – бульбы, а толькі груца, грэчка. Прыгатаваныя яны так, што нават студэнт першага курсу, які ўпершыню ўзяў у рукі рондаль і стаў за пліту, зробіць кашу, смачнейшую за гэту.

А тыя хлебныя катлеты часта адрозьніваліся па памерах, былі і зусім маленькія, яўна са зьмяншэньнем нормы.

Гарбата? Адзін сьмех. Пакуль вялікі цэбар вазілі па паверсе, гарбата пасьпявала ачахнуць і ў камэры дастаўлялася, як правіла, ужо халоднай. П’еш салодкую слабанастоеную ледзь цёплую ваду, а грошыкі за ўтрыманьне капаюць супраць цябе.

Відавочна, гарбата, якая прапісаная ў афіцыйных дакумэнтах, прапісваецца там гарачай і якаснай. Як і іншая ежа – катлеты на паперы, безумоўна, мясныя. Па дакумэнтах, не сумняюся, усё ідэальна, іначай за што мы плацім 11 рублёў 50 капеек за адзін дзень утрыманьня?

Катлеты катлетамі, а суп – і наогул паміі, якія можна есьці толькі дзеля таго, каб ня страціць сілы.

Для параўнаньня: пасьля сваіх сутак я адправіўся ў звычайную віцебскую кавярню, дзе роўна за 11 рублёў атрымаў вельмі якасны абед. Такой колькасьці ежы не атрымліваеш за кратамі і за цэлы дзень, затое плаціш вялікія грошы.

Адзіная смачная ежа ў ізалятары – хлеб. Ён заўсёды выдаецца сьвежы. Але іншая ежа, пазбаўленая вітамінаў і прыгатаваная жахліва, перакрэсьлівае ўсё.

Патэлефанаваць – даюць, дзеля гэтага трэба толькі напісаць заяву раніцай.

І ў душ можна раз на тыдзень. Тут праблемаў не было, мне надавалі гэтыя паслугі на маю просьбу.

А вось лісты часта не даходзяць. Па выхадзе з ізалятару я сустрэў некалькіх чалавек, якія запытвалі, чаму я ім не адказаў. Я сказаў, што, па-першае, не атрымліваў іх лістоў, а па-другое, ня меў капэртаў – іх усё-ткі трэба асобна даваць у перадачах. Куды падзеліся лісты, на якім этапе яны «абрэзаліся»? Ці то пошта гэтак кепска працуе, ці то яны вылятаюць на хаду з паштовай машыны, або іх «забракавалі» ў ізалятарскай цэнзуры – пытаньне.

Нары хістаюцца, дошкі на іх сям-там парэпаныя, у расколінах. Матрацы выдаюцца такія старыя, што спаць на іх роўна немагчыма, унутраны напаўняльнік зьбіваецца камякамі, разраўняць не ўдаецца.

У камэрах няма дзённага сьвятла. Прынамсі, у тых, дзе сядзеў я. Вокны былі прадугледжаныя, але ў Віцебскім ІЧУ яны засланёныя мэталёвымі лістамі, каб ніякае сьвятло не пранікала. Таму 24 гадзіны на суткі ў камэры гарыць штучнае


Леанід Аўтухоў

сьвятло. Пры чытаньні і пісаньні ў такіх умовах псуеш вочы.

На шпацыр выводзяць, але часьцей за ўсё тады, калі гэтага захочацца самім ахоўнікам. Ахоўнікі – міліцыянты, яны паводзяць сябе па-рознаму. Ёсьць тыя, з кім можна дамовіцца пайсьці на шпацыр праз 30 хвілінаў, а працуюць і такія, хто пляваў на ўсе твае словы і з гідкай усьмешкай на адкормленым твары кажа: «Сёньня шпацыру ня будзе».

Часта вартаўнікі ў ізалятары білі ў дзьверы кулаком, як толькі бачылі, што ты пры чытаньні абапіраесься на локаць. Крык «Ня спаць!» выглядае сьмешным – ты ж сапраўды чытаеш, вочы ў цябе расплюшчаныя, але міліцыянту неабходна зарэкамэндаваць сябе перад начальствам, задаволіць нейкія комплексы, што засталіся зь дзяцінства.

А вось заключныя дні ў ізалятары запомніліся тым, што нарэшце ўключылі больш-менш прымальнае радыё, на якім круцілі рэтра-кампазыцыі. Дагэтуль жа гучалі радыёстанцыі з поп-музыкай – яна бясконца паўтаралася, а блёкі навінаў там рыхтаваліся так, што на нармальным радыё навіншчык вылецеў бы з працы пасьля пары такіх выпускаў.

**Частка 7: Віцебск, Леанід Аўтухоў**

*Героем нашага чарговага матэрыялу пра ўмовы ўтрыманьня ў ізалятарах часовага ўтрыманьня Віцебскай вобласьці стаў актывіст партыі БНФ з Гарадка Леанід Аўтухоў. Апазыцыянэр браў актыўны ўдзел у сьвяткаваньні Дня Волі ў абласным цэнтры 25 сакавіка, за што быў пакараны 15-цю суткамі адміністрацыйнага арышту паводле артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне парадку арганізацыі ці правядзеньня масавага мерапрыемства).*

У ІЧУ зараз я трапіў, мабыць, раз чацвёрты ў жыцьці. Калі такое здарылася ўпершыню – ужо ня памятаю дакладна, бо мінула шмат гадоў. Але з таго часу нічога не зьмянілася. Не памянялася нічагусенькі!

Хіба толькі абслугоўваючы пэрсанал стаў больш лагодна ставіцца. А першы раз калі патрапіў, тое быў жах. Раней ахоўнікі былі нахабныя, упэўненыя, а зараз адчуваюць, што яны ўжо не такія ўсёмагутныя, што надыходзіць, мабыць, іншы час. Там жа хлопцы недурныя – разумеюць, што ў грамадзтве насьпелі перамены. Яны адчуваюць гэтыя перамены мо' лепш за нас.

Карацей, пэрсанал, ахоўнікі проста выконвалі сваю працу і ставіліся да нас няблага. Прычым ня толькі да «палітычных», але і да звычайных насельнікаў ІЧУ: хлопец, што сядзеў са мной, сядзеў па справе – ён ужывае сьпіртныя напоі, потым выходзіць на двор і хуліганіць – дык і да яго адносіны былі нармальныя. Прэтэнзіяў

да абслугоўваючага пэрсаналу ў мяне няма ніякіх. Але ёсьць шмат нараканьняў да самой сыстэмы.

Мяне зьмясьцілі ў 2-мясцовую камэру. Два дні перад тым, да суду, знаходзіўся ў іншай камэры, а як суд адбыўся – увесь час у адной і той жа камэры, нікуды не пераводзілі. Разам са мной сядзеў хлопец з Полацку. У яго былі запазычанасьці (неадбытыя суткі адміністрацыйных арыштаў па раней прынятых пастановах суду – рэд.) – ён туды зайшоў дужа надоўга. У яго не было падтрымкі звонку, бо мае маці адну. Дык ён мне быў дужа ўдзячны, таму што я меў дапамогу ад сяброў; жонка, сям'я мяне падтрымлівалі, – а ён сядзеў без цыгарэт і ня меў дадатковай ежы. Таму са мной яму пашанцавала. Ён казаў: «Я знаходжуся, нібы дома».

Умовы ўтрыманьня? 2-мясцовая камэра – мала месца. Па-другое, блізка знаходзіцца прыбіральня. Стол для прыманьня ежы – у прыбіральні. Няма ж там ніякіх ані загародак, ані заслонаў. Усё ў адным месцы. Дык што 15 дзён сядзеў як у прыбіральні ўвесь час.

Падрабязьней пра саму прыбіральню. Не працуе змыў – яго наогул не існуе. Добра, што перадавалі ваду, дык пляшкі гэтыя плястыкавыя набіраеш – і змываеш. Мне перадавалі ваду ў 6-літровых пляшках, дык мы змывалі добра, а ў іншых камэрах усё больш жахліва. Праўда, усталявалі ўнітаз. Кажуць, што гэта дзякуючы нейкім эўрапейскім грошам.

Спальнае месца? 2-ярусная шконка (нары – рэд.) – мэталёвы каркас, дошкі – ну як звычайна. Бялізна – першы тыдзень была добрая, а потым ужо ня вельмі, але гэта дробязь.

У камэры, дзе сядзеў, акна не было, яно было закрытае мэталам – тоўстым лістом, мо «пяцёркай». І малюпасенькая дзірачка – работнікі, напэўна, прасьвідравалі, калі рабілі, ды так і пакінулі. І праз гэтую дзірачку мы глядзелі: ці дзень, ці ноч.

На шпацыр вадзілі, калі мы прасілі. Блізу кожнага дня хвілін па трыццаць. Аднаго разу толькі ня вывелі, але папрасілі прабачэньня, бо там у іх было нейкае здарэньне і ня мелі часу. Дык сказалі: «Выбачце, хлопцы, заўтра выведзем». І сапраўды, назаўтра вывелі – дык мы мелі шпацыр колькі хацелі.

У душ – хадзіў адзін раз. Хаця наогул не зьбіраўся – хацеў перацярпець два тыдні і пасьля ў лазьню схадзіць. Але сукамэрнік папрасіўся ў душ, ну і я пайшоў разам зь ім.

Тэлефанаваць – давалі. Пісаў заяву – і давалі. Пошту мне перадавалі рэгулярна. Прыходзіла шмат лістоў. А вось ад мяне ліст на волю так і не дайшоў. Хаця капэрту, каб я змог даслаць яго, яны нават самі мне прынесьлі, бо ў мяне была капэрта бяз маркі.

Наконт перадач – таксама праблемаў не было: усё, што дазволена, перадавалі своечасова.

А цяпер – галоўнае. Што там розныя абмежаваньні, цьвёрдая шконка, прыбіральня... – справа ня ў тым. Мы ж ішлі не на курорт. Але сапраўдны жах – харчаваньне. У мяне ўзрост ужо такі, што мушу ўважліва ставіцца да ежы. Дык там – сапраўднае катаваньне ежай. Дакладней, катаваньне голадам.

Яшчэ як першы раз патрапіў у ІЧУ, пакаштаваў іх катлету. Смак яе стаяў у мяне доўга. Гэтым разам я ніводнай катлеты ня зьеў. Пра гэтую катлету яны кажуць: «Мы бяром харчаваньне з аблвыканкаму». Дык як зьменіцца ўлада, трэба сабраць іх усіх у адной камэры і карміць гэтымі катлетамі – трэба толькі захаваць прозьвішча таго кухара, ды каб ён не забыў рэцэпт.

Я мяркую, што ў сучасным сьвеце нельга так карміць людзей – нашмат горш, чымся я кармлю сабаку. У мяне лепшае стаўленьне да сабакі, ніж стаўленьне «лукашызму» да людзей, якія патрапілі часова. Там дробныя хуліганы, зладзюжкі, але ж яны – людзі! Катаваньне голадам, калі ўвесь час хочаш есьці, людзей ломіць. І трэба гэта спыніць: нельга, каб чалавек хацеў есьці ў 21-м стагодзьдзі!

Таксама хачу сказаць пра сьвятло. Яно ў камэры гарыць цэлымі суткамі. Спаць замінае, але каб чытаць, яго недастаткова. А я ўвесь час чытаў, бо чым яшчэ там займацца? Сёе-тое зь літаратуры я і там браў, але ў іх усе кніжкі па-расейску. Таму мне ў асноўным кнігі з волі перадавалі – на беларускай мове, я іх там і пакінуў – хай чытаюць іншыя. Дык калі чытаеш пры такім сьвятле – дык такое напружаньне, што ў мяне, напрыклад, балела галава – мне ж ня 20 гадоў. Сусед малады быў, гадоў 25, дык і ён стараўся ня шмат чытаць праз асьвятленьне: «Пачытаў крыху – адпачні». Брак сьвятла для чытаньня – гэта таксама катаваньне.

Ці наўмысна гэта так зроблена, каб адабраць у чалавека здароўе? Калі так, то як зьменіцца ўлада, павінна быць расьсьледаваньне і пакараньне – так нельга, каб сьвятла не хапала. За 15 дзён я пасадзіў зрок – выйшаў і ўжо зараз карыстаюся акулярамі, каб пачытаць.

Катаваньне сьвятлом, катаваньне голадам... Што яшчэ запомнілася? Радыё, якое грае цэлы дзень. Яно таксама прычыняла мне пакуты. Замест навінаў – прапаганда. Усё па-расейску, беларускага не было нічога. А я ж ня слухаю такога.